краязнаўчаю працаю шырокага актыву. Узгадаваная ва ўмовах камуністычнага разьвязаньня нацполітыкі, БАН і надалей павінна памятаць, што соцыялістычнае будаўніцтва вядзецца на Беларусі рабочаю клясаю і працоўнымі масамі розных нацыянальнасьцяй, што ў розных нацыянальных формах на Беларусі, як і ўва ўсім Саюзе ССР, будуецца адзіная новая пролетарская культура, якая зьнішчае нацыянальную розьнь і нецярпімасьць. Беларуская Акадэмія Навук будзе ўважліва разьвіваць як беларускую культуру, так і культуры нацыянальнасьцяй Беларусі, выкоўваючы новых працаўнікоў з розных нацыянальнасьцяй на ніве пролетарскай культуры.

БАН пабудована Кастрычнікавай рэволюцыяй і рабочаю ўладаю. Тэорыяй клясавай барацьбы рабочае клясы за сваё вызваленьне і вызваленьне прыгнечаных мас зьяўляецца рэволюцыйная Марксава тэорыя дыялектычнага матэрыялізму. Зразумела, што БАН—дзіця Кастрычніка і рабочай дзяржавы—павінна моцна трымацца дыялектычнага матэрыялізму, як запраўднага сьветапогляду і тэорыі барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва. Мэтод і тэорыя дыялектычнага матэрыялізму павінны будуць заўжды ўжывацца ў Акадэміі ў галінах навук гуманітарных і дакладных.

Інбелкульт на ўсім працягу ранейшай сваёй працы меў моцнае падтрыманьне Партыі, Савецкай улады і шырокіх працоўных мас. Толькі дзякуючы гэтаму ён ішоў па шляху разьвіцьця і росту. Цяпер, вырасшы ў Беларускую Акадэмію Навук, ён тым больш патрабуе гэтага падтрыманьня. „Стварэньне БАН азначае пераход беларускай культуры ў вышэйшую клясу. Неабходна максымальная концэнтрацыя ўсіх сіл навакол яе, неабходна максымальная ўвага мас да яе, неабходна максымальнае садзейнічаньне ёй з боку Партыі, Савецкае ўлады, організаванай рабоча-сялянскай грамадзкасьці. Тады яна стане запраўдным асяродкам новай культурнай эпохі. Тады яна стане буйным культурным асяродкам. Няхай жыве Беларуская Акадэмія Навук“ [1]).

---

**М. Касьпяровіч.**

# Беларуская навука к дзесяцігодзьдзю абвяшчэньня БССР.

1 студзеня 1919 году была абвешчана Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка. Гэтым актам беларускія працоўныя масы былі соцыяльна і нацыянальна распрыгонены і ўпяршыню атрымалі права вольнага разьвіцьця свае культуры—пролетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме. Але хутка ім прышлося весьці ўпартае змаганьне за ажыцьцяўленьне гэтага права з белапалякамі, якія ўсё яшчэ прыгнятаюць Заходнюю Беларусь. І толькі з 11 ліпня 1920 году, калі беларускія работнікі і сяляне прагналі белапалякаў, да гэтага часу адбывалася, распачатая ў студзені 1919 году, творчасьць у галіне беларускай навукі побач з такою-ж у другіх галінах беларускае культуры (пўоны агляд гл. „Маладняк“, Менск 1928, № 12). Дзесяць год—зусім невялічкі кавалак часу, а на самай справе гэтыя дзесяць год—цэлая эпоха ў жыцьці беларускага народу. Кавалак часу такі багаты вы-

[1]) В. Кнорын. Беларуская Акадэмія Навук. „Зьвязда“ 1928, 14-X № 238 (3045) стар. 1.

нікамі навуковай і мастацкай творчасьці, што з ім нельга нават раўняць папярэднія дзесяцігодзьдзі ды і стагодзьдзі. Запраўднае культурнае разьвіцьцё без належнага разгортваньня асьветы сярод шырокіх мас немагчыма, таму зразумелы вялізны поступ беларускай асьветы ў нашай рэспубліцы за гэтыя дзесяць год. Ня меншы рост асьветы і культуры і нацыянальных меншасьцяй на Беларусі. Да Кастрычнікавай рэволюцыі на тэрыторыі Беларусі ня было ніводнай урадавай беларускай асьветнай установы, ды прыватных і грамадзкіх не дазвалялася мець, калі ня лічыць некаторых з часоў нямецкай окупацыі Віленшчыны. Усе асьветныя ўстановы былі расійскія і навучаліся ў іх дзеці пануючае клясы—памешчыкаў і буржуазіі.

Пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі перамогшая кляса рабочых і сялян высунула зусім новую задачу асьветы, а ўласна: „стварыць з усёй падрастаючай моладзі новае пакаленьне людзей з псыхолёгіяй колектывізму, з цьвёрдай воляй, з грамадзка-патрэбнай кваліфікацыяй, з матар'ялістычным сьветапоглядам, на падставе яснага разуменьня законаў разьвіцьця прыроды і грамады; падняць сьвядомасьць дарослага працоўнага насельніцтва; пашыраць, паглыбляць і замацоўваць прынцыпы комунізму". Адпаведна новай сутнасьці асьветы выпрацавалася і новая сыстэма яе ў нас на Беларусі. У апошні час яна абмяркоўваецца шырокімі масамі па ўсёй БССР на прадмет далейшага палепшаньня і ўдасканаленьня яе.

Дзіцячыя пляцоўкі, сады і дамы даюць дзецям першапачатковае грамадзкае выхаваньне, а апошнія нават гадуюць бяспрытульных да паўналецьця. Зараз у БССР ёсьць каля 50 беларускіх дзіцячых дамоў.

Асноўным тыпам школы, на якім будуецца ўсеагульнае навучаньне, зьяўляецца чатырохгадовая пачатковая школа. Такіх беларускіх школ налічваецца ў БССР больш чатырох тысяч, прычым выкладаньне ў іх вядзецца ўжо цалкам на беларускай мове. Над асноўным тыпам чатырохгадовай школы ў нас стаіць так званы другі концэнтр сямігадовай школы з трохгадовым курсам навучаньня.

У сямігодках першы концэнтр—пачатковая чатырохгадовая школа і другі концэнтр — трохгадовая школа злучаны разам, ад чаго такія школы і завуцца сямігодкамі, хоць паступаюць у 5 клясу такой школы ня толькі вучні з чацьвертае клясы яе, але і з іншых звычайных чатырохгодак. Беларускіх сямігадовых школ у нас зараз больш двухсот, выкладаньне-ж цалкам на беларускай мове ва ўсіх клясах вядзецца толькі ў палове іх; у рэшце цалкам беларусізаваны толькі шэсьць, пяць або нават чатыры клясы.

Часовым тыпам школы над сямігодкай зьяўляюцца ў нас двохгадовыя агульнаадукацыйныя курсы, выкладаньне на якіх часткова беларусізавана.

Ва ўсіх гэтых школах летась навучалася каля 340.000 беларускіх дзяцей з агульнага ліку больш 452.000 вучняў. Апрача таго, на вёсцы было яшчэ 15 школ сялянскай моладзі, у якіх навучалася каля 1.150 беларускіх дзяцей.

Па лініі профэсыянальнай асьветы ў нас ёсьць 30 профшкол, 7 школ фабрычна-завадзкога вучнёўства, 7 навучальных майстэрань ды 30 тэхнікумаў. У профшколах летась навучалася каля 1400 беларусаў, у школах фабзавуч—каля 70 беларусаў, у навучальных майстэрнях—звыш 350 беларусаў і ў тэхнікумах больш 2900 беларусаў. Агулам выкладаньне ва ўсіх гэтых установах беларусізавана на процантаў 60.

Па лініі пазашкольнай асьветы працуюць пункты ліквідацыі няпісьменнасьці, школы для малапісьменных і вячэрнія школы ўзвышанага тыпу для работнікаў і сялян, а таксама больш 300 хат-чытальнь, каля 100 народных дамоў, каля 50 клюбаў, 12 дамоў селяніна ды каля 30 бібліотэк. У школах узвышанага тыпу навучалася каля 35% беларусаў ад агульнага ліку вучняў. Побач з гэтым існуе адна партыйная школа I ст. і адна II ст. ды Комуністычны Унівэрсытэт, у якіх навучалася летась звыш 300 беларусаў, а таксама тры рабочыя факультэты, на якіх навучалася каля 575 студэнтаў-беларусаў.

Але бясспрэчна, што галоўнае значэньне ў справе культурнага разьвіцьця краіны маюць вышэйшыя школы, якіх з памянёным Комуністычным Унівэрсытэтам у нас чатыры.

Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт быў адчынены 11 ліпня 1921 году, у дзень першай гадавіны звальненьня тэрыторыі БССР ад польскай окупацыі. Пачаўшы сваю працу 1 лістапада 1921 году ў самых цяжкіх варунках зруйнаванай окупацыяй краіны, наш Унівэрсытэт здолеў за гэты час вырасьці ў паважную навучальную ўстанову ў складзе факультэтаў—права і гаспадаркі, пэдагогічнага і мэдычнага. Летась у ім працавала 248 чалавек акадэмічнага пэрсоналу, з ліку якіх 43 профэсары, 33 доцэнты і выкладчыкі, 100 асыстэнтаў, ордынатараў і празэктараў, 56 лябарантаў і 16 іншых. Сярод профэсароў ёсьць шэраг выдатных навуковых імён, як Кроль, Замоцін, Нікольскі і інш. ды неадменны рэктар, заслужаны профэсар Уладзімер Іванавіч Пічэта.

Студэнтаў-беларусаў летась налічвалася ў Унівэрсытэце каля 1500 чалавек. Сёлета пачалася пабудова Унівэрсытэцкага гарадка. Толькі да 1927 году Унівэрсытэт выпусьціў 273 настаўнікі, 130 юрыстаў, 125 экономістаў і 170 дактароў. Выкладаньне ў Унівэрсытэце па ўсіх факультэтах, асабліва на пэдагогічным, значна беларусізавана.

Адначасна Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт зьяўляецца і вялікаю навукова-дасьледчаю ўстановаю. Апрача таго, што акадэмічны пэрсонал Унівэрсытэту і пачынаючыя навуковыя працаўнікі са студэнтаў прымаюць удзел у працы шэрагу навукова-дасьледчых інстытуцый і організацый ды выконваюць вялікую дасьледчую працу па лініі розных ведамстваў, яны вынікамі свае навуковае чыннасьці служаць выданьню Унівэрсытэтам сваіх „Прац“, якіх вышла ўжо 22 выпускі. Частка навуковых работ у „Працах“ Унівэрсытэту друкавалася на беларускай мове. Ужо факт выданьня навуковых „Прац“ Унівэрсытэту сьведчыць аб яго карыснай, ня толькі навучальнай, але і навуковай чыннасьці. Але пры Унівэрсытэце ёсьць яшчэ асобнае Навуковае Таварыства ў складзе сэкцый: социяльна-гістарычнай, літаратурна-мовазнаўчай, юрыдычнай прыродна-матэматычнай, мэдычнай і пэдагогічнай ды Навукова-Дасьледчае таварыства краязнаўства ў складзе сэкцый: социяльна-экономічнай, прыродна-географічнай, мэдычнай, культурна-гістарычнай, мовы і літаратуры і яўрэйскай, якія выконваюць толькі навукова-дасьледчую працу.

Разам з тым у другім таварыстве члены-студэнты навучаюцца мэтодам навуковай працы па выкананьні гэтай апошняй пад кіраўніцтвам спэцыялістых Унівэрсытэту, пачынаючы ад Рэктара Пічэты, якія вельмі ахвотна дапамагаюць утварэньню навуковай зьмены ўласна з мясцовых сіл.

Беларуская Сельска-Гаспадарчая Акадэмія адчынілася ў 1925 годзе ў выніку злучэньня Горы-Горацкага і Менскага Сельска-Гаспадар-



чых Інстытутаў. Акадэміі ў Горках было лягчэй пачынаць сваю чыннасьць, чым Унівэрсытэту ў Менску, бо ў Горках была старая, вядомая на ўсю былую Расію, сельска-гаспадарчая школа. На ўсіх Факультэтах Акадэміі: аграномічным, лясным, зямлябудаўнічым і мэліарацыйным летась працавала 35 профэсароў, 24 доцэнты і выкладчыкі, 37 асыстэнтаў, 8 лябарантаў і 24 асьпіранты, а ўсяго 128 навуковых працаўнікоў, з якіх 9 лічыцца па лініі сэкцыі навуковых працаўнікоў асабліва выдатнымі. Акадэмія мае шэраг каштоўных падсобных лябараторый і іншых спэцыяльных навукова-дасьледчых садовых, палявых і д. т. п. установаў.

Летась у Акадэміі навучалася 1005 студэнтаў-беларусаў, з якіх 43 бежанцы з прыгнечанай палякамі Заходняй Беларусі. За час толькі з 1 кастрычніка 1926 году да 1 кастрычніка 1927 году аграномічны факультэт Акадэміі скончылі 81 чалавек, з іх абараніла дыплёмную працу—43; лясны факультэт—99, з дыплёмнай працай—25; мэліярацыйны факультэт—2 і абаранілі дыплёмныя працы—7 (5 з папярэдніх выпускаў); зямлябудаўнічы факультэт—12 і з дыплёмнай працай—1 ды машыназнаўчае аддзяленьне—7 і абаранілі дыплёмныя працы—3, а ўсяго скончыла—201 і абараніла дыплёмныя працы 79 чалавек. Выкладаньне ў Акадэміі часткова беларусізавана.

Як і Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Акадэмія зьяўляецца разам і навукова-дасьледчаю ўстановаю, навуковая праца якой выконваецца ў катэдрах і дапаможных установах. Вынікі гэтай працы друкуюцца ў „Запісках" Акадэміі, якіх вышла шэсьць тамоў, „Працах" сельска-гаспадарчай дасьледчай станцыі пры Акадэміі ды „Працах" Горацкага навуковага таварыства па вывучэньні Беларусі.

Апошняе заснавана 15 сакавіка 1925 году і зараз існуе на правох сэкцыі Беларускай Акадэміі Навук, аб'ядноючы лепшых навуковых працаўнікоў Акадэміі ў сваіх сэкцыях: аграномічнай, прыродазнаўчай, лясной, і мэліярацыйна-зямляўпарадкавальнай. За гэты час таварыства выдала пяць тамоў сваіх прац, адзін з якіх прысьвечаны цалкам апісаньню Горацкага раёну Аршанскай акругі.

Вялікае значэньне гэтай усебаковай навуковай працы зусім правільна вызначана старшынёй таварыства наступнымі словамі: „Гэты том прадстаўляе ў навуковай літаратуры нязвычайнае зьявішча. Тут на падставе як літаратурных дадзеных, так, галоўным чынам, і ўласных дасьледваньняў даюцца не матар'ялы па вывучэньні данай мясцовасьці, а сводныя нарысы яе геолёгічнае будовы, глебаў, флёры, фаўны, сельскае гаспадаркі, гісторыі, быту і інш., што агулам і цалкам дае зьвязаны і выразны малюнак жыцьця данага раёну. Навуковае таварыства лічыць, што падобнае выданьне павінна прадставіць глыбокі краязнаўчы інтарэс, што яно можа быць узорам для імкненьняў іншых краязнаўчых організацый і што яно з свайго боку павінна дапамагаць краязнаўчаму руху на Беларусі". Некалькі навуковых працаўнікоў і студэнтаў Акадэміі ўваходзяць у склад мясцовага Горацкага Раённага Таварыства Краязнаўства, хоць на жаль тут яшчэ не разгарнуўся такі масавы студэнцкі краязнаўчы рух, як у Менску.

Беларускі Дзяржаўны Вэтэрынарны Інстытут заснаваны ў Віцебску ў 1924 годзе. Пазалетась у ім працавала 5 профэсароў 20 доцэнтаў, 11 асыстэнтаў і 5 навуковых супрацоўнікаў, усяго 41 навуковы работнік, а сёлета 52. Летась у Інстытуце вучылася 273 беларусы. Сёлета адбыўся першы выпуск вэтэрынарных дактароў у ліку 75 асоб. Беларусізацыя выкладаньня ў Інстытуце яшчэ толькі пачынаецца.

У ліку дапаможных установ Інстытуту лічацца: Беларускі вэтэрынарны, орнітолёгічны і энтомолёгічны музэі, Ботанічны сад і д. т. п.

Навукова-дасьледчая праца Інстытуту выявілася як у распрацоўцы пытаньняў, зьвязаных з тэрыторыяй Беларусі, так і нязьвязаных з ёю і выконвалася катэдрамі і дапаможнымі ўстановамі Інстытуту.

Апрача таго, пры Інстытуце ў 1926 годзе было організавана навуковая конфэрэнцыя, у склад якой аўтоматычна ўваходзяць усе работнікі Інстытуту, вэтэрынарныя дактары з БССР, а таксама вэтэрынарныя дактары чырвонаармейскіх частак з Віцебску. За год яна заслухала каля 20 навуковых дакладаў.

З 1925 году Інстытут выдае штомесячнік „Беларуская вэтэрынарыя“, у якім і зьмяшчаюцца навуковыя працы акадэмічнага пэрсоналу Інстытуту, а таксама паасобныя выданьні.

Па ініцыятыве навуковых работнікаў Інстытуту ў Віцебску заснавана аддзяленьне Таварыства работнікаў навукі і тэхнікі для дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву СССР. Таварыства краязнаўства пры Інстытуце сваёй чыннасьці ня выявіла.

Комуністычны Унівэрсытэт заснаваны ў Менску ў 1925 годзе. У 1926-27 акад. годзе ў ім працавала 57 выкладчыкаў і навучалася 139 беларусаў.

Такім чынам нашы вышэйшыя школы выконваюць ня толькі навучальную працу з галіны спэцыяльнае падрыхтоўкі будаўнікоў новага беларускага жыцьця, але і значную навукова-дасьледчую. Але ўсё-ж галоўная навуковая праца вядзецца спэцыяльнымі навуковымі ўстановамі і організацыямі.

Беларуская Акадэмія Навук вырасла ў 1928 годзе з Інстытуту Беларускае Культуры, які ў сваю чаргу організаваўся ў 1922 годзе з Навукова-Тэрмінолёгічнае Камісіі, заснаванай у 1921 годзе. Адчыненьне Акадэміі цалкам падрыхтавана папярэдняй навуковай чыннасьцю Інстытуту. За гэты час апошнім выканана вялізная навукова-дасьледчая праца, галоўным чынам датычная тэрыторыі Беларусі, а таксама з галіны яго наступных заданьняў наогул: а) пашырэньня і ўдасканальваньня навуковых дысцыплін, якія належаць да яго компэтэнцыі, збагачаючы іх новымі выкрыцьцямі і мэтодамі дасьледваньня; б) плянавага дасьледваньня Беларусі з боку яе прыродных вытворчых сіл, вывучэньня і садзейнічаньня іх выкарыстаньню, народнай гаспадаркі, права, грамадзкага руху, мовы, літаратуры, гісторыі, этнографіі і інш.; в) аб'яднаньня ў гэтых галінах усяе навуковае працы, якая вядзецца навуковымі ўстановымі БССР і паасобнымі вучонымі; г) дапасаваньня навуковых твораў і вынікаў навуковых досьледаў да практычнага ўжываньня ў прамысловасьці і культурна-экономічным будаўніцтве БССР.

У апошні час Інстытут складаўся з двох аддзелаў: аддзелу прыродазнаўчых і гаспадарчых і аддзелу гуманітарных навук, двох сэктараў: яўрэйскага і польскага, Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, Бібліографічнай Камісіі, Камісіі для вывучэньня прыродных і вытворчых сіл Беларусі, бібліотэкі і друкарні. Непасрэдная навуковая праца адбывалася галоўным чынам у катэдрах і камісіях аддзелаў і сэктараў.

Так, Катэдра археолёгіі зрабіла шэраг раскопак курганоў і стаянак і выдала значны лік сваіх капітальных прац аб археолёгічных помніках Беларусі. Камісія для вывучэньня гісторыі асьветы на Беларусі апрацавала вельмі цікавую працу аб гісторыі грамадзкай думкі на Беларусі, частка якой друкавалася ў „Полымі“ пад назваю „западно-русская школа і яе прадстаўнікі“ ды „організаванае вывучэньне Бела-

русі“. Камісія гісторыі мастацтва выдала цікавы том сваіх прац, сярод якіх ёсьць і аб бэтлейцы, і аб архітэктуры і інш.; апрача таго ёю-ж выданы першы том „Нарысаў гісторыі беларускага мастацтва“. Катэдра этнографіі выдала свой том прац, сярод якіх ёсьць цікавыя даныя аб музыцы, узоры беларускай набіванкі і д. т. п. Апрача таго, Кляса гісторыі выдала два томы сваіх прац, том архіўных матар‘ялаў ды працы першага зьезду дасьледчыкаў беларускае археолёгіі і археографіі, зборнік аб чатырохсотлецьці беларускага друку і шмат іншага. Клясаю філёлёгіі Гуманітарнага-ж аддзелу выдана 18 выпускаў беларускай навуковай тэрмінолёгіі, лінгвістычная географія Беларусі, чатыры кнігі фольклёру, досьлед северска-беларускіх гутарак, працы акадэмічнае конфэрэнцыі пя рэформе правапісу і азбукі і шэраг іншых прац.

Апрача таго, выканана вялізная зьбіральніцкая праца: Слоўнікавай Камісіяй сабрана каля 300.000 слоў-картак народнай мовы ды выданы Віцебскі Краёвы слоўнік разам з Віцебскім акруговым таварыствам краязнаўства і выдаецца Чэрвенскі раённы слоўнік; Фольклёрнай Камісіяй сабраны сотні тысяч запісаў беларускай вуснай народнай творчасьці. Катэдрай этнографіі—значны лік зарысовак народнага орнамэнту і г. д. Катэдра літаратуры выдала першы том твораў Багдановіча, друкуе другі том яго і першы том А. Гаруна, ды зьбірае матар‘ялы да біографічнага слоўніка беларускіх пісьменьнікаў.

Аддзел прыродазнаўчых і гаспадарчых навук працаваў таксама ў складзе дзьвёх кляс: прыроды і гаспадаркі. Апошнія ў сваю чаргу падзяляюцца і зараз на шэраг установ. Так, Кляса прыроды аддзелу прыродазнаўчых і гаспадарчых навук мае: а) Геолёгічны інстытут з сэкцыяй рэгіональнае геолёгіі і сэкцыяй прыкладное геолёгіі, б) Катэдру глебазнаўства, в) Ботанічны сад ў В. Летцах, г) Ботанічную камісію, д) Зоолёгічны музэй, е) Камісію географіі і картографіі, з) цэнтральную хэмічную ляболаторыю (сумесна з Нав. Дасьл. Інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна), ё) Антрополёгічны габінэт, ж) Ляболаторыю вышэйшае нэрвовае дзейнасьці, з) Ляболаторыю экспэрымэнтальнае біолёгіі. У склад клясы гаспадаркі ўваходзяць: а) Камісія для вывучэньня прамысловасьці, б) Камісія для вывучэньня хатніх рамёстваў, в) Камісія для вывучэньня коопэрацыі, г) Навуковае таварыства для вывучэньня Беларусі ў Горках.

Аддзел за гэты час выдаў два томы прац і шэраг каштоўных монографій, а таксама мае значныя матар‘ялы з галіны пазнаньня вытворчых сіл Беларусі, картаграфаваньня апошняй, географічнага слоўніку Беларусі і д. т. п. Зоолёгічны музэй аддзелу ўжо бывае адчынены для агляду публікаю і мае ў сабе значныя колекцыі.

Такім чынам вывучэньне ўсіх насельнікаў Беларусі, яе прыроды і гаспадаркі цалкам забясьпечана адпаведнымі ўстановамі Інстытуту.

Асабовы склад апошняга складаецца з праўдзейных членаў, членаў корэспондэнтаў і навуковых супрацоўнікаў. Членамі Інстытуту абіраюцца асобы, якія ўзбагацілі навуку або мастацтва працамі высокавыдатнага значэньня.

Агульнае кіраўніцтва дзейнасьцю Інстытуту ажыцьцяўляецца Акадэмічнаю Радаю яго на чале з Прэзыдыумам Інстытуту. Аддзелы і сэктары кіруюцца сваімі радамі; выканаўча-кіраўнічым органам Інстытуту зьяўляецца яго Прэзыдыум, які зьбіраецца Акадэмічнаю Радаю.

Самаю-ж значнаю ўстановаю Акадэміі зьяўляецца памінанае ўжо Горацкае навуковае таварыства для вывучэньня Беларусі. Яно мае

мэтаю плянавае вывучэньне прыроды і гаспадаркі Беларусі і сваю дзейнасьць выяўляе паводле прынцыпаў і характару працы Інстытуту. У члены яго абіраюцца навуковыя працаўнікі, якія працуюць у Горы-Горках і прымаюць актыўны ўдзел у працах Таварыства; спачатку кандыдатуры іх абмяркоўваюцца радай Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі, а пасьля зацьвярджаюцца Прэзыдыумам Інстытуту. Агульнае кіраўніцтва працаю таварыства належыць радзе аддзелу, а непасрэднае—прэзыдыуму таварыства.

У сваёй бягучай працы Акадэмія Навук, а раней Інстытут, зьвязаны з шырокімі масамі мясцовых краязнаўцаў праз сваё Цэнтральнае Бюро Краязнаўства. Гэтым Акадэмія ня толькі не замыкаецца ў вузкія муры сваіх будынкаў, але цясьней зьвязана з жыцьцём стараны і ўладае неабмежаванымі магчымасьцямі ў галіне навуковай зьбіральніцкай працы, маючы свае вочы амаль у кожным глухім куточку Беларусі.

Згодна апошнім даным у БССР ёсьць 8 акруговых таварыстваў краязнаўства, 100 раённых таварыстваў краязнаўства, 96 гурткоў краязнаўства і, апрача іх, 97 гурткоў і таварыстваў краязнаўства ў сямігадовых і вышэйшых школах ды тэхнікумах, а ўсіх 301 арганізацыя з агульным лікам 10.500 членаў. Такі вялізны краязнаўчы рух разгарнуўся зьнізу дзеля задаваленьня канечнай патрэбы ўсебаковага вывучэньня мясцовага краю для зьмен яго на сваю карысьць. Першыя беларускія мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі заснаваліся ў 1918 і 1922 годзе, а з 1924 году пачалося масавае заснаваньне іх.

Вось, улічваючы гэта, а таксама немагчымасьць дасьледваньня Беларусі бяз шырокай дапамогі яе працоўных мас, Інстытут Беларускае Культуры ў сьнежні 1923 году вылучыў камісію з трох сяброў для арганізацыі Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, якое і было зацьверджана з 1-га студзеня 1924 году. На першым пасяджэньні ЦБК 29 лютага 24 году было ўхвалена выявіць мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі, апрацаваць нормальныя статуты для іх, заснаваць краязнаўчую консультацыю і г. д.

Дзякуючы частым зьменам складу ЦБК, а таксама арганізацыйным, дзейнасьць яго змагла шырока разгарнуцца толькі з пачатку 1926 году. Але і раней яно выконвала даволі вялікую аб'яднаючую, арганізацыйную і кіруючую працы. Паміж іншым, ім былі скліканы: першая Менская агульна-гарадзкая краязнаўчая конфэрэнцыя ў сакавіку 1924 году, першая ўсебеларуская краязнаўчая конфэрэнцыя ў сьнежні 1924 году, першы ўсебеларускі краязнаўчы зьезд у лютым 1926 году, другі ўсебеларускі краязнаўчы зьезд у лютым 1927 году і шэраг розных нарад. З 1925 году ЦБК выдае штомесячнік „Наш Край"; пры яго-ж дапамозе выходзіць і шэраг розных спэцыяльных інструкцый і програм. Апрача таго, кіраўніцтва ажыцьцяўляецца шляхам звычайнай перапіскі і выезду інструктароў і членаў прэзыдыуму ЦБК на месцы.

У арганізацыйным кірунку ЦБК дапамагала арганізацыйна аформіцца большасьці краязнаўчых арганізацый, і ў 1926 годзе выпрацавала нормальныя статуты для розных тыпаў краязнаўчых арганізацый. У той-жа час ЦБК падлічыла ўсе навуковыя краязнаўчыя інстытуцыі і апублікавала іх сьпіс у 1927 годзе.

Такім чынам, з 1924 году ЦБК яднае дзейнасьць усіх краязнаўчых арганізацый Беларусі, пераважная большасьць якіх афіцыйна пачала існаваць, як гаварылася, у 1924-25 акадэмічным годзе.

Дарэволюцыйныя краязнаўчыя організацыі на Беларусі па мове і мэтаімкнёнасьці былі або польскімі, або рускімі. Беларускія зьявіліся толькі ў часе Кастрычнікавае рэволюцыі ды былі адзінкавыя, пераходнага тыпу незадоўга перад ёю. Буржуазныя польскія і рускія краязнаўчыя організацыі на Беларусі ўпарта змагаліся паміж сабою, бо адны хацелі Беларусі для польскага магнацтва, а другія—для рускага царату. Краёвых організацый ня было; былі часамі толькі краязнаўцы-краёўцы, якія жадалі ўсялякага палепшаньня для мясцовага краю, але на основе культуры тае нацыі, да якой належалі яны самі, ды і яны самі ўваходзілі ў склад польскіх ці рускіх організацый. Таму вынікі іх чыннасьці, апрача сабранага фактычнага матар'ялу, у пераважнай большасьці былі шкодны працоўнаму насяленьню Беларусі.

Пасьлякастрычнікавыя-ж беларускія організацыі, як гаварылася маюць канцавою мэтаю ўласна палепшаньне жыцьця працоўных. І ўласна таму ды дзякуючы падтрыманьню Савецкае ўлады нашы краязнаўчыя організацыі за гэты час выканалі волатаву працу. У галіне зьбіраньня матар'ялаў імі сабрана каля 200.000 нумароў розных краязнаўчых матар'ялаў: музэйных, экспонатаў, запісаньняў, слоў-картак, фольклёру і д. т. п. Адбылося больш 600 конфэрэнцый і сходаў, на якіх заслухана звыш 1500 мэтодычных і навуковых краязнаўчых дакладаў. Выдана каля 20 мясцовых выданьняў—у Віцебску: Краёвы слоўнік, два томы прац, дзьве монографіі і шэсьць брошур; у Воршы: выпуск прац і брошуры; у Магілеве: том прац і г. д. Значная частка прац мясцовых краязнаўцаў друкуецца ў „Нашым Краі".

У шмат якіх мясцох у выніку краязнаўчых досьледаў вырасьлі—санаторы, майстэрня, распрацоўкі і д. т. п., што ўжо непасрэдна зьвязала мясцовы кразнаўчы рух з гаспадарчым і культурным будаўніцтвам краю і сьведчыць аб правільным выкананьні асноўных задач мясцовых організацый, якімі зьяўляюцца: а) усебаковае вывучэньне і дасьледваньне сваёй акругі ў грамадзка-экономічным, прыродна-географічным і культурна-гістарычным стасунках, б) пашырэньне ведаў, зьвязаных з вывучэньнем і дасьледваньнем акругі; в) абуджэньне зацікаўленасьці сярод шырокіх колаў грамадзтва да заданьняў таварыства і наогул да краязнаўства. Навукова-Дасьледчы Інстытут Сельскай і Лясной Гаспадаркі імя У. І. Леніна заснаваны ў пачатку 1927 году ў Менску і таксама, як Акадэмія, знаходзіцца ў непасрэдным падпарадкаваньні Савету Народных Камісараў. Ён мае мэтаю сыстэматычнае і ўсебаковае вывучэньне сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі, каб дапамагчы хутчэйшай перабудове яе на соцыялістычных асновах і шпарчэйшаму разьвіцьцю вытворчасьці ўсяе народнае гаспадаркі Беларусі наогул.

У сучасны момант Інстытут складаецца з аддзелаў: а) лясной гаспадаркі, 2) мэліорацыі і культуры балот, в) сельска-гаспадарчай экономікі і аграрнай політыкі, г) жывёлагадоўлі і прыкладной зоолёгіі і д) расьлінагадоўлі і прыкладной ботанікі. Апрача таго, Інстытут мае хэмічную лябораторыю, музэй, бібліотэку і інш.

Згодна сваёй справаздачы, найбольшую ўвагу Інстытут зьвярачвае на вывучэньне: а) жывёлагадоўлі і ў першую чаргу—сьвінагадоўлі, б) інтэнсыўных культур і ў першую чаргу—бульбы, в) лесу і ў першую чаргу—лясных дрэвастанаў, лесагадоўлі, хэмічнай і мэханічнай тэхнолёгіі лесу і г) мэліорацыі.

Пад кіраўніцтвам Навукова-Дасьледчага Інстытуту працуюць шэраг спэцыяльных дасьледчых станцый і мэтэоролёгічнае бюро з 22

мэтэоролёгічнымі станцыямі II разраду, 48 станцыямі III разраду і 46 вадамерна-дажджамернымі пастамі. У галіне паляводзтва працуюць Менская, Горацкая, Віцебская, Турская і Палеская дасьледчыя станцыі; у галіне сэлекцыі і насеньняводзтва—Горацкая, Віцебская, Турская і Менская; у галіне садоўніцтва—Горацкая; гародніцтва—Віцебская; лекавых расьлін—Магілеўская і культуры балот—Менская балотная дасьледчая станцыя і Забалоцкая балотная дасьледчая гаспадарка.

Апрача таго, падобна краязнаўчай сетцы Акадэміі, Інстытут мае сетку сялян-дасьледчыкаў на мясцох. Яны на сваіх палёх організуюць шэраг досьледаў, якія значна дапамагаюць Інстытуту ў справе набываньня масавых матар'ялаў для сваіх навуковых вывадаў. Зараз лік сялян-дасьледчыкаў перавышае 1000 чалавек, якія і зьяўляюцца наймацнейшым зьвяном сувязі Інстытуту з шырокімі масамі і іх патрэбамі.

Інстытут выдае свой часопіс „Сельская і лясная гаспадарка“ ўжо за гэты кароткі час пасьпеў выдаць некалькі паасобных выданьняў.

Выдатную працу выканала Беларуская станцыя Ўсесаюзнага Інстытуту прыкладной батанікі і новых культур у Лошыцы ля Менску пры ўдзеле нябожчыка Гайдукова. Вялікую зьбіральніцкую навуковую працу робяць і нашы бібліотэкі, музэі і архівы.

Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка заснавана ў 1921 годзе ў Менску і зараз мае каля 400.000 томаў. Асноўны фонд бібліотэкі склаўся з купленых бібліотэк Карскага, Янчука, Барысава, Ісаева, Грота, Гольдштэйна і інш., а таксама шляхам іншых паступленьняў, з якіх асабліва вылучаюцца бібліотэкі Каладзеева, Карнілава, Случэўскага і інш.

Дзейнасьць бібліотэкі абхоплівае ўсе віды бібліотэчнай і бібліографічнай працы. Адпаведна гэтаму бібліотэка складаецца з аддзелаў: агульнага, беларускага, яўрэйскага і польскага, марксызму і савецкага будаўніцтва і Беларускага бібліографічнага бюро ды Беларускай кніжнай палаты. Карыстаньне кнігамі Бібліотэкі адбываецца ў дзьвёх чытальнях, у якіх па даных леташняга году было выдана 220.905 кніг на 154.163 наведваньні.

Кніжная палата зьбірае абавязковыя паасобнікі ўсіх выданьняў з тэрыторыі БССР, вядзе сталы абмен кнігамі з самымі рознымі ўстановамі каля 30 дзяржаў—Амэрыкі, Азіі, Афрыкі і Эўропы і з 1925 году выдае „Летапіс беларускага друку“, у якім зьмяшчае бібліографію ўсёй сучаснай кніжнай продукцыі на тэрыторыі БССР.

Бібліографічнае бюро організуе картотэку беларускай бібліографіі і дае бібліографічныя даведкі ўстановам і ўсім жадаючым. Ім ужо зроблена каля 80.000 картак беларускага бібліографічнага рэпэртуару і выдана бібліографія беларускіх выданьняў 1917—1924 гг. і бібліографія пэрыодычнага друку на беларускай мове ды разам з Інбелкультам бібліогафія этнографіі; падрыхтаваны да друку: бібліографія зьместу беларускіх часопісаў 1917—1927 гг. і бібліографія паасобных выданьняў і артыкулаў па ўсіх галінах беларусазнаўства 1917—1927 г. Апрача таго, бібліографічныя матар'ялы Бюро часта друкуюцца ў розных часопісах з адпаведнаю адзнакаю, а то і без яе. Распачата праца па выданьні рэфэратаў і аглядаў з паасобных галін беларусазнаўства.

У 1928 годзе Бібліотэка адчыніла свае аддзяленьні ў Віцебску і Магілеве.

Беларускі Дзяржаўны Музэй у Менску адчыніўся 31 жніўня 1923 году. Зараз агульны лік яго экспонатаў перавышае 30.000, якія разьмяшчаюцца ў аддзелах: гістарычна-археолёгічным, нумізматычным

і сфрагістычным, этнографічным, царкоўна-археолёгічным і мастацкім ды архіве і бібліотэцы. У першым аддзеле самымі каштоўнымі зьяўляюцца колекцыі з раскопак беларускіх археолёгаў за час з 1921 да 1928 году ўключна; у другім—скарбы і паасобныя монэты, знойдзеныя ў гэты-ж час на Беларусі, ды пячаткі беларускіх установаў 18 і 19 веку; у трэцім—колекцыі паяскоў, тканін, вырабаў з дрэва і інш., асабліва з экспэдыцый 1928 году; у чацьвертым—беларускі іконапіс 15—16 веку, скульптура ды начыньне; у пятым—колекцыі прац мастакоў—ураджэнцаў Беларусі, ды беларускіх масткоў: Каганца, Драздовіча і інш. У архіве Музэю ёсьць старадрукі, колекцыі, фотографіі, зарысоўкі і д. т. п., а бібліотэка налічвае да 2000 томаў спэцыяльнай літаратуры.

Віцебскі дзяржаўны культурна-гістарычны музэй адчынены ў Віцебску ў 1924 годзе. Зараз у ім таксама больш за 30.000 экспонатаў. Віцебскі Музэй складаецца з а) археолёгічнага аддзелу, у якім асаблівую ўвагу зварачваюць старасьвецкія кахлі, рэшткі маманта ды інвэнтар Віцебскіх курганаў; б) гістарычнага аддзелу з асабліва цікавымі помнікамі цэхавага ладу Віцебшчыны ды масонскімі знакамі; в) мастацкага аддзелу, дзе найкаштоўнымі лічацца карціны Кс. Розы, Клевера ды левых мастакоў з часу пасьлякастрычнікавага мастацкага росквіту Віцебску; этнографічнага аддзелу з цікавай колекцыяй клішэ набіванкі ды бэтлейкай; д) аддзелу сучаснай прамысловасьці, яшчэ ня зусім поўнага і е) выдатнага царкоўна-археолёгічнага аддзелу з багатай колекцыяй драўлянай скульптуры і іконапісу. Працаўнік Музэю Красьнянскі шмат сіл паклаў на навуковую апрацоўку колекцый музэю і вынікі яго гэтай працы ўжо друкаваліся ў выданьнях Інбелкульту і Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства.

Гомельскі дзяржаўны культурна-гістарычны музэй організаваны ў б. палацы Паскевічаў у 1927 годзе з б. гарадзкога музэю. Сам палац зьяўляецца музэйнаю рэччу, сваёй архітэктурай характарызуючы політычна-экономічную пару 18-19 веку з сваім імкненьнем да клясыцызму, францускай плястыкі і нэронаўскага самаўладзтва. З колекцый скульптуры асаблівую ўвагу зварачваюць працы Кановы, Джузэпэ дэ ля Нэро, Торвальдсэна, Раўха і інш. Усе-ж колекцыі Музэю наогул: ваяньня, ліцьця, лепкі, разьбы, мадэльерныя, інкрустацыі і мозаікі, кэрамікі, сэлікату, тэкстылю, маляўніцтва, гравюры ды кнігазбор зьяўляюцца асабліва каштоўнымі па выяўленьні быту магнацтва на Беларусі 18-19 веку і з гэтага боку надзвычайна ідэолёгічна вытрыманым. Агульны лік экспонатаў музэю правышае 10.000, а кнігазбор мае каля 20.000 томаў. У апошні час у музэі заснаваны невялічкі куток мясцовага рэволюцыйнага руху, ды, апрача таго, ёсьць невялікая арэхолёгічная колекцыя.

Магілеўскі краёвы музэй адчынены ў Магілеве ў 1924 годзе і налічвае каля 10.000 экспонатаў, з якіх самымі каштоўнымі зьяўляюцца, бадай, колекцыі старога беларускага іконапісу. Апрача таго, у музэі ёсьць бібліотэка старадрукаў з амаль 10.000 томаў.

Менскі Музэй Рэволюцыі заснаваны ў Менску 2 траўня 1926 году. Матар'ялы Музэю даволі поўна адлюстроўваюць рэволюцыйны рух і Кастрычнікавую рэволюцыю на тэрыторыі былой Расіі. Асабліва цікавым зьяўляецца беларускі аддзел, у якім ёсьць даволі значны лік ня копій, а орыгіналаў. Апрача сваёй музэйнай працы, Музэй выконвае і вялікую працу з галіны вывучэньня рэволюцыйнага руху на Беларусі.

Аршанскі Сельска-Гаспадарчы Музэй заснаваны ў Воршы ў 1924 годзе. Самым каштоўным у ім зьяўляюцца, як відаць, ботанічныя колек-

цыі. Апрача яго, у Віцебску і ў Менску ёсьць сельска-гаспадарчыя музэі пры дамох селяніна.

З краёвых музэяў, якія належаць мясцовым краязнаўчым організацыям, асаблівай увагі заслугоўваюць наступныя багатыя музэі: Аршанскі, Бабруйскі, Клімавіцкі, Мазырскі, Нараўлянскі, Полацкі і Слуцкі.

Ня меншую працу па пазнаньні Беларусі выконваюць і шэраг ведамстваў: Дзяржаўны Архіў з 8 акруговымі аддзяленьнямі, Цэнтральная Статыстычная Ўправа з 8 акруговымі Бюро, Дзяржаўная Плянавая Камісія і акруговыя плянавыя камісіі, Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі, Народны Камісарыят Земляробства і інш. Яны выдаюць шэраг выданьняў, організуюць экспэдыцыі, маюць свае сталыя навукова-дасьледчыя ўстановы і г. д.

Такім чынам колькасьць сучасных навукова-краязнаўчых установ і організацый перавышае дарэволюцыйны лік іх больш чым у 30 раз. Аб усім гэтым, а асабліва аб навуковай працы карыснай Беларусі да рэволюцыі ня можна было і думаць. Толькі Кастрычнікавая рэволюцыя дала магчымасьць беларускім працоўным масам дасягнуць пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі такіх значных вынікаў свае творчасьці ў галіне беларускай навукі.

---

**П. В. Трамповіч.**

# Вывучэньне прыродных вытворчых сіл Беларусі[1].

Вывучэньне Беларусі, як гаспадарчай адзінкі, пачалося толькі ў пасьлякастрычнікавы пэрыод.

У дарэволюцыйныя часы Беларусь дасьледвалася толькі паасобнымі дасьледчыкамі ў парадку прыватнай ініцыятывы, якая часам сустракала спрыяючыя адносіны земскага самакіраўніцтва альбо нават акадэмічных інстытуцый.

Але ўсе досьледы, якія мелі месца на тэрыторыі сучаснае Беларусі, пераважна былі досьледамі суседніх з Беларусьсю абшараў і пераходзілі на яе тэрыторыю толькі ў мэтах удасканаленьня і заканчэньня самых досьледаў. Уся Беларусь ніколі ня была ахоплена досьледамі аніводнай галіны навукі. Дасьледчык ніколі ня ставіў сабе задачы ацэнкі ўсіх вытворчых сіл краіны як цэлага, а толькі вырашэньне паасобных, абмежаваных пытаньняў, праўда, маючых вялікую навуковую вартасьць.

Пытаньне аб выкарыстаньні вынікаў усіх гэтых досьледаў, як асновы для разгортваньня гаспадаркі і прамысловасьці краіны, у дарэволюцыйныя часы і да ўтварэньня БССР ніколі ня ставілася.

Толькі пры працы Дзяржаўнай Плянавай Камісіі выявілася настойлівая неабходнасьць утварэньня інстытуцыі, якая магла-б апрацаваць навукова абгрунтованыя даныя для пабудовы пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі.

Дзяржплянам БССР у 1923 годзе для дэталёвага вывучэньня БССР была ўтворана камісія для вывучэньня прыродных вытворчых сіл БССР і такім чынам пачалося сыстэматычнае вывучэньне Беларусі.

---

[1]) Паводле матар'ялаў камісіі для вывучэньня прыродных вытворчых сіл БССР пры Беларускай Акадэміі Навук.

Недахват навуковых сіл, неабходнасьць увязкі ўсёй дасьледчай працы з вывучэньнем Беларусі наогул, а таксама, немагчымасьць існаваньня ў складзе Дзяржаўнай Плянавай Камісіі інстытуцыі, якая праводзіла-б практычную дасьледчую працу,—былі об'ектыўнымі прычынамі таго, што камісія была перададзена Інстытуту Беларускае Культуры, як установе, якая концэнтравала ў сваіх мурох навуковых работнікаў і ўсебаковае вывучэньне Беларусі, як дзяржаўнай і гаспадарчай адзінцы.

Дзейнасьць камісіі ў складзе Інстытуту Беларускае Культуры была: 1) організацыйнай і 2) практычнай.

Організацыйная праца КПВСБ выявілася ў разглядзе і ўстанаўленьні пераліку і чарговасьці досьледаў а таксама ў распрацаваньні маршрутаў паасобных партый.

Практычная дзейнасьць КПВСБ складалася з організацыі самых досьледаў па плянах і ў чарзе, якія былі апрацованы камісіяй, у організацыі зімовай апрацоўкі матар'ялаў, здабытых падчас летніх экспэдыцый, унутранай увязцы досьледаў па паасобных галінах для організацыі ўсебаковага вывучэньня Беларусі.

Досьледы, якія вяліся пад кіраўніцтвам і па заданьнях Камісіі, ахапілі наступныя галіны: 1) геолёгію Беларусі, 2) глебы Беларусі, 3) гео-ботанічныя досьледы, 4) гідроэнэргетычныя досьледы, 5) геомагнетавая здымка, 6) для вывучэньня мясцовых угнаеньняў, 7) для вывучэньня некаторых тэхнічных расьлін, 8) вывучэньне месц, маючых курортнае значэньне.

Геолёгічныя досьледы, да організацыі Беларускага Геолёгічнага Інстытуту, вяліся трыма партыямі ў акругах Менскай, Бабруйскай, Магілеўскай, Віцебскай і Полацкай.

Апрача гэтага, геолёгічныя матар'ялы зьбіраліся ўздоўж будуючыхся чыгуначных ліній, на выемках, пры пабудове мастоў, пры сьвідравальных працах.

Пасьля організацыі Беларускага Геолёгічнага Інстытуту ўсе геолёгічныя досьледы былі аб'яднаны, увязаны з ВСНГ і працамі дасьледчыкаў інстытуцый агульнасаюзнага значэньня (пр. Мірчэнка і інш.) пад агульным кіраўніцтвам Ін. Бел. Геол. Інст. Пэрсанальна кіраваў досьледамі дырэктар Інстытуту проф. М. Т. Блюдухо.

Геолёгічнае вывучэньне Беларусі мае дзьве мэты: сыстэматычнае вывучэньне рэгіонарнай геолёгіі і вывучэньне карысных выкапняў, як грунту для разгортваньня прамысловасьці Беларусі.

Невялічкія сродкі, якія былі адпушчаны на дасьледчую працу наогул і на геолёгічныя досьледы ў прыватнасьці, не далі магчымасьці закончыць усе вызначаныя маршруты.

Яшчэ не адбылася сустрэча паасобных дасьледчых партый, не закончаны працы ў адміністрацыйных межах акруг, няма друкаваных карт. Для гэтага яшчэ патрэбна шмат часу, працы і вялікія сродкі.

Папярэдняя геолёгічная карта ўложана толькі ў старых межах Менскае акругі Б. К. Тэрлецкім.

Ва ўсёй Беларусі знойдзена і занесена на карты звыш 300 выхадаў карысных выкапняў, з якіх заслугоўваюць адзначэньня наступныя:

Па Меншчыне—выхады крэйды, валунаў, вапнякоў, гляўконітавых пяскоў, маргеляў, жалезістых крыніц і жалезістага торпу.

Па Бабруйскай акрузе—выхады крэйды, бурага і чырвонага жалеза, кварцавых пяскоў, вапнякоў палеозойскіх і валунных, крэйды высокай якасьці.

Па Аршаншчыне—выхады маргеляў, трэпелаў, кварцавых пяскоў, вапнякоў палеозойскіх і валунных, каштоўных глін, торпавага вугальля, фасфарытаў.

Па Магілеўшчыне — выхады крэйды, каштоўных пяскоў, глін, маргеляў, фасфарытаў, жалезных руд, крэмнявых запасаў.

Па Мазыршчыне—выхады бурага вугальля, асабліва каштоўных гатункаў торпу, розных надта плястычных глін, белых кварцавых пяскоў.

Па Гомельшчыне—выхады агнятрывалых, керамічных і фарбовых глін, гляўконітавых пяскоў, вохры, белых кварцавых пяскоў і фасфарытаў.

Па Віцебшчыне—выхады глін і палеозойскіх вапнякоў.

Па Полаччыне—выхады пяскоў, глін, валунных вапнякоў, сярчаныя і жалезістыя крыніцы.

Гэты пералік карысных выкапняў дае характарыстыку галоўнейшым з іх, але большасьць гэтых выхадаў толькі зарэгістраваны і патрабуюць далейшага вывучэньня.

Агульная вывучанасьць геолёгічнага акрыцьця Беларусі нездавальняючая. Няма даных аб генэзісе паасобных выхадаў. Няма іх экономічнае ацэнкі і разьведкі. Таму да гэтага часу месцы выхадаў карысных выкапняў не падзелены ў залежнасьці іх значэньня і экономічных магчымасьцяй на агульна-саюзныя, рэспубліканскія і мясцовыя.

Узоры, якія ўзяты з зарэгістраваных выхадаў, толькі часткова апрацованы хэмічна, і мы яшчэ ня маем дасканалай якаснай ацэнкі, так неабходнай пры эксплёатацыі гэтых карысных выкапняў.

Камэральная апрацоўка ідзе надта павольна, з прычын невыстарчальнага абсталяваньня хэмічнай лябораторыі і адсутнасьці патрэбнай колькасьці штатных працаўнікоў.

Тым часам, цэлы шэраг пералічаных выкапняў, пры ўмове рацыянальнае апрацоўкі, мог-бы паступіць у эксплёатацыю і даць рэспублiцы шмат карысьці.

Пытаньне аб нетрах магчыма вырашыць толькі на аснове дэталёвага вывучэньня тэктонікі Беларусі. Зроўнены рэльеф мясцовасьці, нязначнасьць натуральных агаленьняў, магутнае акрыцьцё мяккіх парод патрабуюць, для вывучэньня тэктонікі, генэзісу выкапняў і парод займаючых нізкі гіпсомэтрычны ўзровень, моцнага разьвіцьця сьвідравальных прац.

З другога боку горная прамысловасьць адыгрывае вялікую ролю ў экономіцы кожнае краіны.

Неабходна зараз-жа высьветліць магчымасьці забясьпечваньня мясцовым сырцом і палівам як прадпрыемстваў, якія ўжо працуюць, гэтак і тых, якія толькі будуюцца.

Інтэнсыўнае будаўніцтва, якое разгарнулася ў рэспубліцы, патрабуе ўтварэньня заводаў па вытворчасьці, портланд-цэмэнту, парцаляны, фаянсу, оптычнага шкла, агнятрывалых вырабаў.

На чарзе стаіць пытаньне аб падвышэньні продукцыі шкляных, цагляных і керамічных заводаў.

Інтэсыфікацыя і разьвіцьцё сельскае гаспадаркі даюць дасканалыя пэрспэктывы да выкарыстаньня мясцовых мінэральных угнаеньняў.

Пытаньне эксплёатацыі торпу і бурага вугальля набывае, у зьвязку з індустрыялізацыяй краіны, першараднае значэньне.

Неабходна адзначыць вялікую працу, праробленую проф. М.Т. Блюдухо, які склаў бібліографію матар'ялаў, якія маюць адносіны да вы-

вучэньня геолёгіі Беларусі. Гэтай працай ахоплена 2500 назваў і яна ўтварае грунт для далейшай працы Беларускага Геолёгічнага Інстытуту.

Наогул, Геолёгічны Інстытут мае перад сабой вялізарныя задачы, таму неабходна падтрымаць усімі сродкамі гэтую маладую інстытуцыю, забясьпечыць яе навуковымі сіламі, абсталяваньнем і сродкамі для хуткае і дэталёвае апрацоўкі маючыхся матар'ялаў.

Глебавыя досьледы на Беларусі павінны ўявіць магчымасьці правільнай эксплёатацыі глебы як вытворчае сілы і закончыцца складаньнем глебовай карты БССР трохвёрснага маштабу.

Асаблівасьці і якасьць беларускіх глеб зусім ня вывучаны. Глебавыя досьледы на тэрыторыі БССР пачаліся ў 1923 годзе. У 1924 годзе Інбелкультам была склікана першая глебазнаўчая конфэрэнцыя. Пасьля конфэрэнцыі шэраг дасьледчыкаў вёў працу самастойна і толькі ў канцы 1925 году Інбелкульт аб'яднаў глебавыя досьледы ў аднэй інстытуцыі, пад адзіным кіраўніцтвам. З гэтага часу і пачалося плянавае вывучэньне глебавага акрыцьця БССР.

Да гэтага часу зроблена дэталёвая здымка акруг: Аршанскае, Менскае, б. Барысаўскае, Мазырскае, б. Слуцкае і Бабруйскае.

Акрамя гэтага глебавая здымка рабілася ў ваколіцах вопытных станцый і ў некаторых лясьніцтвах.

На падставе папярэдніх досьледаў складзена схэматычная глебавая карта 15-вёрснага маштабу ўсёй Беларусі, устаноўлены асновы для падзелу БССР на глебавыя раёны.

Па дасьледваных акругах складзены папярэднія карты глеб і кароткія нарысы.

У 1924 годзе Інстытутам Беларускае Культуры пачаты гео-батанічныя досьледы БССР. У 1927 годзе скончана маршрутнае дасьледваньне і здымка ўсёй тэрыторыі БССР. А ў летку 1928 году прароблены паверачныя маршруты. Складзена гео-батанічная карта 10-ці вёрснага маштабу, напісаны гео-батанічныя нарысы шэрагу акруг, складзены дадатковыя карты, якія ўяўляюць пашырэньне па БССР паасобных відаў расьлін. Заснованы цэнтральны беларускі гэрбары. Дзеля высьвятленьня магчымасьцяй організацыі Беларускага батанічнага саду зроблены досьледы ваколіц Менску.

Для вывучэньня фаўны Беларусі было наладжана некалькі экспэдыцый, у выніку якіх сабраны багаты матар'ял і шмат колекцый. У Менску адчынены зоолёгічны музэй. Падрабязна распрацоўваўся матар'ял аб драпежніках. Надрукаваны шэраг прац па географіі і дынаміцы паляўнічай фаўны БССР.

Асобнае месца ў працах камісіі для вывучэньня прыродных вытворчых сіл Беларусі займаюць досьледы катэдры антраполёгіі, якія накіраваны ў бок вывучэньня фізычнага тыпу беларускага насельніцтва.

У Менску дасьледуюцца прызыўнікі беларусы. Наладжаны шэраг экспэдыцый для дасьледваньня паасобных груп сялянства. У Менску і Гомелі праароблены працы па антропомэтрыі дзяцей, вынікі якіх надрукаваны ў працах ІБК.

Упяршыню пры антраполёгічных досьледах ужыты мэтод умоўных рэфлексаў па асобнай мэтодыцы, якая апрацавана проф. А.К. Ленцам і доктарам А. А. Сьмірновым.

Катэдрай географіі распрацавана дэталёвая дазімэтрычная 10-ці-вёрсная карта БССР, складзена географічнае апісаньне Асіпавіцкага і Горацкага раёнаў, маршрутамі пройдзена Аршаншчына, а таксама апрацованы матар'ялы, якія маюць адносіны да Заходняй Беларусі

Катэдрай этнографіі сабраны вялікі матар'ял па матар'яльнай культуры беларускага насельніцтва, які характарызуе яго ўмовы быту і працы.

Камісіяй хатніх рамёстваў вывучаны экономічныя і тэхнічныя ўмовы народнага ткацкага промыслу. Таксама вывучалася ганчарства і смалярства на Беларусі. Беларусь багата вазёрамі, якія ляжаць сярод астаткаў найлепшага сосновага бору, багата пяшчанымі адкладамі па берагох рэк і вазёр, бгата мінэралізаванымі крыніцамі і запасамі мінэралізаванага торпу.

Усё гэтае багацьце да гэтага часу зусім не эксплёатавалася. На Беларусі зараз ёсьць толькі дзьве санаторыі, якія не задавальняюць усіх запатрабаваньняў Рэспублікі. Сетка летніх санаторый ня разьвіта, сетка дамоў адпачынку разьвіваецца надта слаба. Дачнае пасёлкавае будаўніцтва пакуль што не разьвіваецца.

Тым часам паўночная і паўночна-ўсходняя часткі Беларусі, як па сваім ляндшафту, гэтак і па кліматычных і экономічных умовах ня толькі ня горш ад Фіншчыны, але па колькасьці сонечных дзён, умовах кармленьня і інш. значна лепш.

Полаччына, частка Віцебшчыны і Магілеўшчыны здаўна вядомы як дасканалыя месцы адпачынку, дзе ёсьць добрыя ўмовы для купаньня, рачныя і вазёрныя пляжы, сасновыя бары, найлепшыя магчымасьці для разьвіцьця ўсіх відаў спорту і сельскае гаспадаркі, якая можа даставіць колькасьць продуктаў, якая зможа пакрыць запатрабаваньне значнай колькасьці курортнікаў і адпачываючых.

Разьвіцьцё беларускае прамысловасьці, павялічэньне кадраў пролетарыяту, электыфікацыя, бязумоўна, павялічаць попыт на месцы летняга адпачынку, на дамы адпачынку. Рост профэсійнае траўматызацыі выкліча рост колькасьці спэцыяльных інстытуцый санаторна-курортнага тыпу.

Дасьледваньне Беларускіх курортных мясцовасьцяй пачалося ў 1927 годзе. Дасьледваны мінэральныя крыніцы каля вёскі Баркоўшчызна на Полаччыне і каля вёскі Вішанковічы на Віцебшчыне. Дэталёва дасьледвана вазёрная частка Полаччыны, як адно з найлепшых месц для пабудовы санаторый фінлядзкага тыпу.

Магнэсавая здымка БССР пачалася ў 1926-27 акадэмічным годзе. Першы год працы прайшоў у падрыхтоўцы прылад, кваліфікаваных працаўнікоў і здымцы першых 8 пунктаў агульнай сеткі.

Фактычна гео-магнэсавая здымка пачалася толькі ўлетку 1928 году, калі прыбыла замежнае абсталяваньне, зьявілася магчымасьць рабіць усе вылічальныя працы на месцы і пройдзена маршрутам 40 асноўных пунктаў.

Роўналежна з геолёгічнымі досьледамі ідуць работы па вывучэньні плянктону рэк і вазёр БССР.

Торп і балоты складаюць значную частку прыродных багацьцяў Беларусі.

Для правільнай эксплёатацыі гэтых багацьцяў неабходна зрабіць дасьледваньне процэсаў торпаўтварэньня і забалачваньня вазёр, асабліва ў палудзённай частцы БССР.

Адносна плянктону Савецкая Беларусь зусім не дасьледваная частка СССР.

Ёсьць матар'ял па вывучэньні вазёр паўночнае Нямеччыны, Пінскіх балот, некаторых вазёр Віленшчыны і б. Ковенскай губэрні, часткова б. Горадзенскай губ. і Цьвярскога плянктоннага раёну. Уся тэры-

торыя, якая ляжыць паміж гэтых раёнаў, г. з. БССР, адносна плянктону зусім не вывучалася.

Па пляну Камісіі для вывучэньня прыродных вытворчых сіл Беларусі, вывучэньне плянктону вядзецца ў наступных кірунках: 1) вывучэньне плянктону вазёр, 2) вывучэньне даных адкладаў, 3) вывучэньне сапрапеляй, 4) вывучэньне адкладаў торпу і бурага вугля.

Як відаць з гэтага пляну, плянктонныя досьледы, побач з распрацоўкай пытаньняў вялікага тэорэтычнага значэньня, прадугледжваюць вырашэньне пытаньняў і практычных, надта паважных для экономікі нашае краіны. Гэтымі досьледамі будуць улічаны запасы паліва рэспублікі, высьветлены магчымасьці выкарыстаньня гэтых запасаў і спыненьня процэсу вынішчэньня нашых лясоў.

Плянктонныя досьледы толькі пачаліся, пачалася камэральная праца па дасьледваньні матар'ялаў, здабытых падчас двух экспэдыцый.

Адным з вынікау геолёгічных, плянктонных і іншых досьледаў зьяўляецца высьвятленьне вялікіх запасаў матар'ялаў, якія маюць значэньне ўгнаеньняў. Напрыклад, фосфарыты залягаюць у БССР магутнымі пластамі, ёсьць вялікія запасы торпу, крэйдавых пакладаў. Усё гэта можа быць выкарыстана як дасканалае мінэральнае ўгнаеньне.

Насельніцтва Беларусі здаўна прызвычаілася карыстацца мінэральнымі ўгнаеньнямі. Пры наяўнасьці апошніх і іх добрай якасьці рынак збыту забясьпечаны.

Таму КПВСБ распрацавала і праводзіла плян лбораторнага дасьледваньня фізіолёгічных і хэмічных якасьцяй беларускіх агро-руд. Вывучаны фосфарыты Парадзінскага раёну. Зараз гэтыя досьледы перададзены Бел. Нав. Дасьл. Інст. імя Леніна.

Такім чынам, па аддзелу геолёгіі, нетраў і зьвязаных з гэтым аддзелам плянктонных, курортных і інш. досьледаў зроблены практычныя вывады.

1) Наяўнасьць значных пакладаў фосфарытаў высокай якасьці ў вадазборах рэк Лабжанкі, Бесядзі і Сажа.

2) У крэйдавых пакладах адзначана і шляхам доўгага вывучэньня, даведзена наяўнасьць флёрыдзінавых матар'ялаў.

3) У раёне м. Копысь выяўлена наяўнасьць трэпелаў надта высокай якасьці.

4) Адзначаны выхады тэхнічных кварцавых пяскоў, якія па папярэдніх даных зьяўляюцца найлепшай сыравінай для крыштальнае вытворчасьці.

5) Выяўлены значныя запасы керамічных матар'ялаў.

6) Выяўлены старажытныя сапрапелі і пахаваныя торпы (торпавы вугаль).

7) Выяўлены мінэралізаваныя крыніцы і торп як матар'ялы лекавага значэньня.

Гідроэнэргетычныя досьледы Камісіі для вывучэньня прыродных вытворчых сіл Беларусі маюць на мэце высьветліць статычныя запасы вадзяной энэргіі, дынаміку іх выкарыстаньня, рэнтабельнасьць, радыус экономічнага прыцяжэньня, магчымасьці гідраэнэргетычных установак, іх карыснасьць і ступень шкоднасьці, зьвязанай з павышэньнем роўню вады, затапленьнем ральлі і сенажаці.

Да гэтага часу праароблена толькі невялічкая частка працы: складзен каталёг вазёр і рэк Беларусі (бяз Гомельшчыны), часткова выяў-

лены ўмовы іх вадакармленьня, вадзянога рэжыму, тэрмінаў ускрыцьця і замярзаньня.

Апісаньне, складаньне гідроэнэргетычнае карты БССР, тэхнічнае, інструмэнтальнае і экономічнае дасьледваньне патрабуюць шмат часу, навукова-інжынэрных сіл і сродкаў.

На жаль, у 1928 годзе гэтая праца спынілася дзеля таго, што немагчыма было знайсьці працаўніка на тыя ўмовы, якія магла запрапанаваць КПВСБ.

Па пытаньнях гідраэнэргетыкі БССР існуе некалькі дзесяткаў старых друкаваных прац, пераважна апісальных. Большасьць гэтых прац ня можа даць адказу на пытаньні, якія ставіць сучаснасьць і якія зьвязаны з агульным плянам і тэмпам разьвіцьця народнае гаспадаркі Беларусі. Таму плян гідраэнэргетычных досьледаў рэспублікі, які распрацаваны КПВСБ, дае шэраг орыгінальных прац з гэтае галіны, і будуць мець агульнасаюзнае значэньне.

У сучасны момант зроблена гідрографічная карта з паказаньнем рэк і вадазбораў, з якіх улічана 34.000 кіл. рэк і 2300 вадазбораў. Высьветлены падставы для падзелу Беларусі на пяць гідраэнэргетычных раёнаў у залежнасьці ад моцы плыні і вышыні спаданьня вады.

Акрамя КПВСБ, вывучэньне прыродных вытворчых сіл Беларусі праводзілася іншымі інстытуцыямі: Беларускім Навукова-Дасьледчым Інстытутам імя У. І. Леніна; Горацкай Сельска-Гаспадарчай Акадэміяй, Горным Аддзелам ВСНГБел. і некаторымі іншымі. Гэтыя досьледы мелі мэтавы характар, зьвязаны з агульнымі мэтамі пералічаных інстытуцый, і вынікі іх прац немагчыма ахапіць у гэтым артыкуле.

Заслугоўвае адзначэньня праца Горы-Горацкага Навуковага Таварыства для вывучэньня Беларусі, якая дала матар'ял для пяці тамоў прац таварыства.

Такім чынам, мы бачым, што працы, праробленыя на тэрыторыі БССР для вывучэньня прыродных вытворчых сіл, выявілі, што Беларусь—краіна не такая бедная, што яе гаспадарчы рост і разьвіцьцё яе прамысьловасьці маюць цьвёрдыя прыродныя падставы.

З другога боку, праца па вывучэньні прыродных вытворчых сіл ня можа быць прызнана выстарчальнай, адказваючай яе дзяржаўнаму значэньню, і настойліва патрубуе як пашырэньня, гэтак і радыкальнага палепшаньня ўмоў, пры якіх яна працякае.

11-ую гадавіну Кастрычніка працаўнікі і дасьледчыкі КПВСБ сустракаюць са значнымі дасягненьнямі ў працы і організацыі.

У 12-ты год рэволюцыі і 11-ы год існаваньня БССР мы ўваходзім пад знакам рэорганізацыі Інстытуту Беларускае Культуры ў Беларускую Акадэмію Навук.

Гэты акт Савецкае ўлады ўжо досыць ацэнены з боку палітычнага і грамадзкага, гэты акт для дасьледчыкаў багаты практычнымі вынікамі.

Пертварэньне Інбелкульту ў Беларускую Акадэмію Навук раз назаўсёды скончыць непаразуменьне навукова-дасьледчых інстытуцый Беларусі з такімі-ж інстытуцыямі агульнасаюзнага значэньня.

Да гэтага часу наглядаюцца зьявішчы, калі цэнтральныя ўстановы праводзяць досьледы на тэрыторыі БССР, не ўвязаўшы іх перад гэтым з мясцовымі навуковымі інстытуцыямі і аб'яднаньнямі навуковых працаўнікоў. Пры гэтым зусім ня прымаецца пад увагу ні вопыт мясцовых сіл і інстытуцый, ні літаратура, ні мясцовая кніжная продукцыя.

Часта цэнтральныя інстытуцыі абяцаюць правядзеньне працы на тэрыторыі БССР, але для гэтае працы вызначаюць настолькі нязначныя сродкі, што аб паважнай і сур'ёзнай рабоце ня можа быць гутаркі. А гэткім чынам і з такімі сродкамі робяцца спробы правясьці досьледы агульна-рэспубліканскага значэньня.

Гэткае распыленьне сродкаў і навуковых сіл ня можа мець месца пры наяўнасьці Беларускае Акадэміі Навук, і бязумоўна будзе ўстаноўлены модус, пры якім усе працы, якія робяцца за кошт агульнасаюзных сродкаў, павінны выконвацца, у першую чаргу, мясцовымі інстытуцыямі і мясцовымі навуковымі працаўнікамі і толькі пры недахопах у спэцыяльным абсталяваньні альбо ў паасобных спэцыялістых, альбо неабходнасьці атрымаць сцэцыяліста найвышэйшае кваліфікацыі запрашаюцца экспэдыцыі з цэнтру. У апошнім пыпадку наяўнасьць БАН забясьпечыць мясцовыя музэі і сховішчы ўзорамі дабытых матар'ялаў.

Наяўнасьць Беларускае Акадэміі Навук будзе спрыяць і зьнішчэньню адбежных сіл у справе вывучэньня прыроды Беларусі, якія маюць месца ў БССР.

Беларуская Акадэмія Навук аб'яднае ўсе магчымасьці па дасьледваньні прыродных вытворчых сіл, усіх навуковых працаўнікоў, якія цікавяцца гэтай справай, выпрацуе адзіны плян, які ўвяжа з ведамствамі і зьнішчыць тую саматужнасьць у гэтай справе, якая наглядалася ў мінулым.

Наяўнасьць БАН зьнішчыць таксама і крызіс памяшканьняў для навукова-дасьледчае працы, які наглядаецца у Менску: новы будынак БАН забясьпечыць ня толькі працу яе катэдраў, але іх нормальнае разьвіцьцё і ляфараторныя магчымасьці для апрацоўкі матар'ялаў.

Утварэньнем Беларускае Акадэміі Навук вырашаецца яшчэ адно актуальнейшае пытаньне для правільнае пастаноўкі навукова-дасьледчае працы ў БССР,—організацыя добра абсталяванай сучаснай у поўным сэнсе гэтага слова, хэмічнай ляфараторыі. Гэта будзе набыцьцё, значэньне якога будзе адчувацца ня толькі за межамі БССР, але і за межамі СССР.

Рэорганізацыя Інбелкульту ў Бел. Акад. Навук падштурхне да абсталяваньня існуючых інстытуцый і ляфараторый, дасьць палёгку ў атрыманьні замежнага абсталяваньня.

Утвараецца асяродак для падрыхтоўкі новых кадраў навуковых працоўнікоў, вырасьце лічба асьпірантаў, асабліва па дысцыплінах, якія ня выкладаюцца ў В. Н. У. Беларусі.

Вывучэньне прыродных вытворчых сіл гэта ёсьць праца, разьлічаная на доўгі тэрмін, на прыцягненьне да яе шэрагу працаўнікоў, фіксацыі каля яе грамадзкае думкі.

У праробленай працы пачэснае месца займаюць беларускія краязнаўцы. Пры паглыбленьні і пашырэньні гэтай працы ўдзельная вага краязнаўцаў павялічыцца і на іх актыў падае адказная праца па рэгістрацыі і занатаваньні багацьцяў нашай краіны, карысных і шкодных прыродных зьявішч.

Мы ўваходзім у 12 год рэволюцыі і 11-ты год існаваньня БССР з бадзёрасьцью, надзеямі і імкненьнямі да творчае працы. Нашы дасягненьні ў параўнаньні з тым, што яшчэ патрэбна зрабіць, невялікія; але ў параўнаньні з тым, што зроблена ў Заходняй Беларусі, нашы дасягненьні набываюць характару бліскучай перамогі.

Гэтая перамога магчыма толькі дзякуючы рэволюцыі, дзякуючы дыктатуры пролетарыяту, дзякуючы кіраўніцтву Комуністычнае партыі.

Гэтыя абставіны адчыняюць шлях да новых перамог, да разьвіцьця і гаспадарчага росквіту нашае краіны.

Залогам гэткага росквіту зьяўляецца наша цесная гаспадарчая сувязь з вялікім Савецкім Саюзам, які тоіць у сабе нявычарпаныя магчымасьці.

Пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі, кожны навуковы працаўнік, кожны краязнаўца аддадуць усе свае веды, свае сілы, каб хутчэй падняць нашу гаспадарку і вясьці яе па шляху соцыялістычнага будауніцтва да поўнай перамогі соцыялізму.

---

Ал. Шлюбскі.

# Трэці год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу.

Мінулы 1927-28 акадэмічны год быў трэцім годам зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу на абшарах БССР, якое ажыцьцяўлялася Катэдрай Этнографіі Інстытуту Беларускае Культуры пры дапамозе беларускіх краязнаўчых організацый.

Па традыцыі папярэдніх гадоў (гл. „Наш Край“ за 1927 г. №№ 1-2, за 1928 г. № 3) зробім агляд зьбіральніцкай дзейнасьці і за мінулы год.

## I.

### Аршанская акруга.

Коханаўскі р. выявіў найбольшую актыўнасьць у справе зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу ў параўнаньні з іншымі раёнамі акругі, ён даў 1038 тэкстаў розных адмен вуснай народнай творчасьці. Амаль што ўвесь гэты матар'ял быў сабраны наступнымі вучнямі Коханаўскай сямігодкі: Аладзьдзевай, М., Атрошчанкай, І., Антаневічам, Ф., Блюмкінай, Ф., Барашкавай, А., Варанковай, В., Вараб'ёвай, В., Вараб'ёвым, І., Гаўрыленкам, Е., Гракавай, З., Гендаль, М., Дземяшкевіч, І., Дзянісавай, Е., Дубоўскай, П., Ермаковым, Е., Жадзінскім, А., Зарубавым, Н., Казлоўскім, В., Кармазінавым, С., Касінцом, Е. і Г., Каспэрскім, Я., Крывіцкім, І., Каплеўскім, І., Клімянковым, Казлоўскім, В., Кановічам, Я., Кітаёвым, Кагнарам, А., Катляровай, В., Лагойскім, А., Лукашэвічам, І. і Ф., Петрашкевічам, О., Рудштэйнам, З., Савінічам, І., Скобелевым, Н., Савіцкім, А., Урыным, М., Хейфіцам, Я., Церашковым, М., Чэпікавым, П., Шараевым, Ф., Шапавалавым, І., Шамітай, В., Шымханавым, П., Шчэрбай, О., Шыліханавым, П.

Найлепшыя запісы з ліку пералічаных асоб належаць Кагнеру, А., Кітаёву, Клімянкову, Крывіцкаму, Я. і Шмыглеўскаму, М.

Наогул-жа трэба адзначыць, што сярод тысячы тэкстаў, якая сабрана вышэйпералічынамі вучнямі, шмат ёсьць малакаштоўнага матар'ялу, як, напр., вялікая колькасьць расійскіх прыказак, розных романсаў, узятых з расійскіх лубочных песеньнікаў і г. д.

Апрача вучняў Коханаўскай сямігодкі з гэтага раёну прыслалі запісы—Галубовіч, В., Кудраўцаў, П., Тумар, А., Цюніс, Е.—26 тэкстаў і Катуржэнец, П.,—12 песень.

Аршанскі р.—Радкевічам, К. і некаторымі іншымі асобамі, якія не адзначылі свайго прозьвішча, прыслана 10 запісаў песень.

Горацкі р. Настаўнік Горацкай сямігодкі Дзянісёнак праз сваіх вучняў Гапонаву, Г., Дручакор, Р., Зуйкова, Л., Кароткіна, К., Кузьняцова, А., Котава, П., Лазоўскую, Л., Новікавых, В. і С. і Семянкова, У. сабраў 215 тэкстаў песень і адрывачныя апісаньні некаторых звычаяў і абрадаў.

Нам здавалася-б, што дапаручаць дзецям (нават і старшых клясаў) апісаньні народных абрадаў і звычаяў ня варта, бо яны з прычыны сваёй нявопытнасьці ня могуць цалкам абхапіць і зразумець тыя ці іншыя абрады; да абрадаў яны падыходзяць з дзіцячай наіўнасьцю і прастатой, робячы выпадковыя адзначэньні, якія ня маюць аніякай вартасьці.

Апрача адзначаных у Горацкім раёне А. Яўхімавым запісана 37 тэкстаў і В. Маслоўскім—30.

Дрыбінскій р. Казаковым К. запісана 40 розных тэкстаў. Тут варта адзначыць, што фольклёрныя запісы трэба рабіць атрамантам, а не алоўкам; так, напр., у некаторых запісах К. Казакова аловак сьцёрся і запісы ня маюць ніякай значнасьці, бо нельга нічога разабраць.

Копыскі р. Карцовым запісана 21 вясельная песьня і 62 прыпеўкі.

Мсьціслаўскі р. Длугаконскім, І. прыслана 169 дужа цікавых вясельных песень старых запісаў; апрача таго Антошчанка, П. запісаў 40 песень і 2 замовы, запісы выкананы добра і нарэшце Ганчароў, Я. даў 4 песьні.

Апрача пералічанага без адзначэньня месц запісаў 43 тэксты прыслала А. Арцішэўская і 29 тэкстаў прыслала Культкамісія Аршанскага Вучкому Працасьветы.

### Бабруйская акруга.

Асіпавіцкі р. даў найбольшую колькасьць матар'ялаў, запісаных у акрузе ўсяго 1209 тэкстаў; у зьбіраньні гэтага матар'ялу прынялі ўдзел: Альхавік, П., Акановіч, Андрыевіч, М., Бакланоўскі, Вайцаховіч, А., Валодзька, Выдрыч, Н., Габрыельчык, М., Грышановіч, М., Даўнар, А., Драздовіч, Жук, М., Крыловіч, Комар, В., Лейкоўскі, М., Леванда, І., Ланеўскія, К. і Л.,Налівайка, Г., Пастушонак, Г., Раеўская, Рэмянь, Стэльмах, М., Тамковіч, П., Трус, Я., Хэлмоўскі, В., Ціхонская, М., Цяцерскі, М., Цьвірко, К., Чаропка, А., Чэрнік, А., Шафранаў, А., Шынклер. Найлепшыя запісы належаць М. Андрыевічу.

Бабруйскі р. Бяляўскі, В. запісаў 40 песень. Чайкоўскі, Я. запісаў 50 тэкстаў, прычым да песень ён далучыў кароткую характарыстыку вёскі, у якой зроблены запісы. Бародзіны А. і З., Кандратовіч, Н. і Пінчук, З. далі разам 31 запіс розных адмен вуснай народ. творчасьці. Стралкоў, П. запісаў 176 прыпевак; у сувязі са сваімі прыпеўкамі ён піша: „Трэба зазначыць, што сярод прыпевак шмат можна спаткаць русіцызмаў; народныя прыпеўкі перапраўляць ня варта. Ня варта, я лічу, пераводзіць іх і на агульна-літаратурную мову, а пісаць (трэба) так, як яны сьпяваюцца. У праціўным выпадку яны згубяць усялякую каштоўнасьць і цікавасьць“. Бясспрэчна падыход

да пытаньня ў Стралкова правільны. Ніякіх зьмен у тых песьнях, якія запісваюцца, рабіць нельга, бо тыя ці іншыя зьмены зьменшаць каштоўнасьць запісаў пры іх навуковым вывучэньні.

Глускі р. Сянкевіч і некаторыя іншыя асобы, якія не адзначылі свайго прозьвішча, запісалі 49 тэкстаў.

Жлобінскі р. Клімянком Х. зроблена 25 запісаў, Савіцкім, Р. запісана 18 прыказак і Выцерскай, Зэльманавай і Іванашкай запісана 70 розных тэкстаў.

Парыцкі р. Ліневіч, Я. запісаў 13 тэкстаў і Лечкі, А.—11 т.

Рагачэўскі р. Ларычкаў, А. запісаў 9 тэкстаў; Слухачы Рагачэўскага Пэдтэхнікуму Акіншэвіч, Гулюхава, Заруба, Кузьлянкоў, Трайковіч, Шаўрук далі 120 тэкстаў розных адмен вуснай народн. творчасьці; Савіцкі, Я. запісаў 2 песьні; Чапцова, М., Паўлава, З. і Варачкова далі апісаньне вясельля з дадаткам 97 песень; Галава, Н. і Гратцава, О. запісалі 129 тэкстаў розных адмен песень. Савіцкі, Я. апісаў ткацтва і даў дзьве песьні, якія сьпяваюцца ў час працы над тканьнём. Зяолькоў, В. запісаў 7 тэкстаў.

Слуцкі р. Ажэўскім, П. у часе экспэдыцыі на возера „Князь“ сабраны каштоўны фольклёрны матар‘ял, з ліку якога ён падаў у Катэдру Этнографіі 153 песьні ў добрых запісах з захаваньнем патрэбных этнографічных даных. Почарк, М., прыслаў 5 песень.

Старобінскі р. Розныя дробныя запісы былі прысланы: Бародкай, Я., Ванчукевічам, Х., Бярдніковічам М. і Лагуном, Т., якія разам далі 71 тэкст.

Сьвіслацкі р. Нісьневіч, С. прыслаў 15 запісаў розных тэкстаў.

### Віцебская акруга.

Віцебскі р. Ерашэвіч, А. запісаў 15 прыпевак.

Гарадоцкі р., запісы рабіў Стальмашэўскі і некаторыя іншыя асобы, якія не адзначылі свайго прозьвішча; разам яны далі 43 тэксты.

Езярышчанскі р.; гэты раён таксама як і папярэдні Гарадоцкі, за тры гады прыслалі фольклёрны матар‘ял у першы раз і запісы ў гэтым раёне рабілі Котаў, П. і Шандарэўскі, С., якія далі 74 тэксты.

Ліозьнянскі р. Жураўлёў, В. зрабіў 8 запісаў (4 замовы і 4 песьні).

Межанскі р. Актыўнасьць раёну ў параўнаньні з папярэднімі гадамі значна зьменшылася; замест 712 запісаў першага году і 313 запісаў другога году ў мінулым годзе гэты раён даў усяго толькі 95 запісаў. Чым тлумачыцца гэтае зьмяншэньне цікавасьці да зьбіраньня фольклёрных матар‘ялаў невядома. У мінулым годзе ў зьбіраньні матар‘ялаў у раёне прыймалі ўдзел: Вашчылаў, Н., Багданаў, В., Кіслоў, Л., Мач, П. і Нікалаешчанка, І.

Сіроцінскі р. Сташонак, З. запісаў 46 прыпевак; у прадмове да якіх ён, паміж іншым, піша: „У мове прыпевак значна адчуваецца ўплыў русіфікацыі, тлумачыцца гэта тым, што ²/₃ жыхароў нашай вёскі складаюць расійцы-стараверы“. Дужа важная заўвага, якая дае тлумачэньне расійскасьці прыпевак. Усім зьбіральнікам прыпевак і песень наогул пры запісах зрусіфікаваных тэкстаў трэба зьвяртаць увагу на прычыны русіфікацыі (напр., вялікарускія колёністыя стараверы—„маскалі“, вялікарускі песеньнік, пакінуты салдатамі вялікару-

самі, якія дзе-небудзь суседзілі, з ленінградзкага заводу і г. д.) і запісваць іх у сшытак тут-жа разам з самымі тэкстамі.

Чашніцкі р. Настаўніца Н. Адэльская запісала 231 тэкст розных адмен вуснай народн. творчасьці. Даўгапольскі, Э. запісаў 24 тэксты.

### Гомельская акруга.

Гэтая акруга на працягу ўсіх трох год зьяўляецца самай слабай у справе зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу; у гэтых адносінах мясцовыя краязнаўцы выказваюць дужа малую зацікаўленасьць.

Веткаўскі р. Казуноў, Е. запісаў 143 прыпеўкі і 10 песень.

Цэрахоўскі р. Бандарэнка, В. зрабіў 17 запісаў.

Чачэрскі р. Ржавуцкі, Б. апісаў некаторыя вясельныя абрады з дадаткам 10 песень.

Некаторы матар'ял па Гомельскай акр. быў надасланы Мазырскім Акруговым Таварыствам Краязнаўства.

### Магілеўская акруга.

Клімавіцкі р. па ліку сабранага матар'ялў ўсяго каля чатырох тысяч запісаў займае ў справаздачным годзе першае месца ня толькі ў Магілеўскай акрузе, але нават ва ўсіх акругах БССР.

Амаль што ўвесь матар'ял сабраны пад кіраўніцтвам настаўніцы Гіркант вучнямі другой Клімавіцкай сямігодкі. У зьбіраньні матар'ялаў прынялі ўдзел наступныя вучні: Андрэйчыкаў, А., Антонавы, А. і З., Алейнікава, М., Анішчанка, П., Асмалоўскія М., Я., Г. і А., Асіпёнак, С., Аскінадзін, В., Аўсеенкава, В., Бычкаў, В., Бабураў, П., Большына, Л., Бадзяка, М., Буранкова, Г., Блюмкіна, Я., Ветрава, А., Гэнкіна, Е., Гамолка Г., П., Х. і К., Грыгор'еў, В., Данькін, В., Дваракоў, Я., Давыдавы К. Л. і Р., Дадыка, В., Драздоў, Я., Дуброўскі, С., Дарменя, У., Эльмаж, У., Эберман, С., Жыц, Р. і М., Жабыка, А., Забялышчынская, А., Захарэнка, В., Залманава, Р., Зубовіч, А., Зэлкіны Л. і Ф., Ілініч, Я., Івашкевіч, К., Ісачэнкаў, П., Індзіна, Г., Казінцаў, І., Коган, М., Казлова, А., Клімянкоў, Я., Кучук, В., Конахава, П., Курачоў, М., Кашанская, А., Кухаравы, В. і Т., Кандраценка, Р., Кірпічэнкаў, Б., Кавалёў, М., Кураткоў, А., Казакевіч, В., Карась, Б., Кіндраў, Карюшка, Л., Ларына, М., Лявіцына, Ф., Локшын, Г., Летнікава, В., Леваньков, М., Ліхтэрман, П., Малыгін, Я., Міркіна, Ф., Мінаймаў, М., Маглыш, А., Марчанка, А., Новікава, Н., Персіны М. і Р., Петрашын, Ю., Падабед, Б., Падгурскі, М., Райскіны А. і Д., Родзевіч, Л. і С., Разанцава, В., Рабчэўскі, М., Раманаў, П., Радзівілаў, П., Скачкоў, Г., Сахонкін, М., Салаўцоў, А., Смотрына, Л., Сапранкоў, А., Сакальніцкі, А., Сяўроў, Я., Саковіч, М., Саваршэнны, А., Смотрына, Н., Судзілоўскі, Я., Тэмкіна, Е., Фэйгін, Л., Федаровіч, Н., Фельдман, З., Фрумкіна, Ф., Хазанава, Э., Цыганкоў, А., Ціханава, М., Т. і К., Цупянкоў, Я., Чмыхаў, П., Чумасаў, В., Чарткова, Х., Шаўцова, К., Шафранскі, Я., Шапавалаў, Я., Шаўцова, А., Шалыгін, П., Шчарбоў, Х., Якубенка, В.

Апрача пералічаных асоб з Клімавіцкага р. 100 запісаў прысланы М. Рухавым.

Ня ўсе запісы вучняў Клімавіцкай сямігодкі маюць аднолькавую вартасьць; паводле значнасьці матар'ялы можна падзяліць на некалькі груп; так, найлепшымі запісамі зьяўляюцца матар'ялы, сабраныя Андрэйчыкавым, А., Гэнкінай, Е., Ларынай, М., Міркінай, Ф. і Чума-

савым, В.; прыемнае ўражаньне робяць запісы Антонавай, А., Каган, М., Карась, Б., Смотрыных Л. і Н., Шалыгіна, Б., Фэйгінай, Л. і Петрашына, Ю.; найгоршымі зьяўляюцца матар‘ялы, якія прысланы Бабуравым, П., Дадыкай, В., Забялышчанскай, А., Клімянковым, Я., Ліхтэрманам, П., Персінымі М. і Р., Хазанавай, Э., Шчарбовым. Х., Захарэнкай, В., Кашанскай, А., Кандрашчанкай, Р., Локшыным, Г. і Шапавалавым, Я.

Галоўнейшым недахопам сабранага матар‘ялу зьяўляецца запіс значнай колькасьці рамансаў расійскіх лубочных песельнікаў, якія пры нашай мэце, зьбіраньня выключна беларускага фольклёру, можна не запісваць; настаўніку, які кіруе зьбіраньнем фольклёрнага матар‘ялу ў школе, трэба даваць вучням дакладныя паказаньні на тое, што трэба запісваць, ілюструючы іх такімі непатрэбнымі запісамі як, напр.:

„Дитя не тянись ты за розой весною“...
*(Запіс Ліхтэрмана).*

„Ах зачем ты меня целовала
Жар безумных страстей затая...“
*(Запіс Какашынскай)*

„По старой Калужской дароге стоит одиноко сосна“...
*(Запіс Шапавалава).*

Такіх запісаў можна набраць значную колькасьць; і напэўна вучні, якім інструкцыя была-б ілюстравана шэрагам падобных прыкладаў (у параўнаньні з беларускімі песьнямі) непатрэбнага больш не запісвалі-б.

Быхаўскі р. Настаўнік с. Мокрага Мік. Караленка надаслаў 205 розных тэкстаў; ён у прадмове да свайго зборніка піша: „Галоўную ўвагу я зьвярнуў на вясельныя песьні, якія ў большасьці выпадкаў захаваліся ў старажытных формах“. Апошняе бясспрэчна правільна, калі раўнаць вясельныя песьні з сучаснай прыпеўкай, але мы пры аглядзе надасланых матар‘ялаў у папярэднія гады зьвярталі ўвагу нашых корэспондэнтаў на зьбіраньне тых адмен вуснай народнай творчасьці, якія зьнікаюць, як, напр., калядныя п., веснавыя і асабліва валачобныя п., русальныя і г. д. Гэта добра, што М. Караленка зрабіў шэраг запісаў вясельных песень, але зьвяртаць выключную ўвагу на гэтыя песьні ня трэба.

Апрача М. Караленкі з памянёнага раёну прысланы дужа добрыя запісы ў колькасьці 120 тэкстаў Аўгенам Гладкоўскім, які зьяўляецца найсур‘ёзнейшым і найлепшым зьбіральнікам фольклёрных матар‘ялаў у Магілеўскай акрузе.

Некаторую колькасьць тэкстаў запісалі Сабалеўская, М. і Дзергачоў, Ц.

Бялыніцкі р. У першы раз з раёну прыслана 36 песень В. Станчыцам.

Журавіцкі р. Іванцоў П. прыслаў 54 добрых запісы.

Кармянскі р. запісы рабілі Герасімовіч і Мадорскі.

Магілеўскі р. Барадзін, Н. прыслаў 203 запісы (з іх 150 прыказак і 45 загадак).

Чавускі р. Дазорцаў, А.—прыслаў 1 апавяданьне.

Чэрыкаўскі р. Матар‘ялы аб забабонах і шэраг запісаў песень надаслалі Дзянісенка, І. і некаторыя асобы, якія не адзначылі свайго прозьвішча.

Шклоўскі р. Акулаў, А. прыслаў 20 тэкстаў добрых запісаў, якія маюць нахіл да адзначэньня дыфтонгаў.

З Прапойскага р. А. Кузьміцкім і з Быхаўскага р. Дзяргачоў, Ц. прысланы шэраг апавяданьняў у літаратурным пераказе, якія, дзякуючы гэтаму, ня маюць амаль што ніякай значнасьці. Апавяданьні трэба запісваць з дакладным захаваньнем гутаркі казальніка.

### Мазырская акруга.

Тураўскі р. даў найбольшы лік запісаў у акрузе, усяго 253 тэксты. У зьбіраньні матар'ялаў прынялі ўдзел Раеўская А., якая зрабіла апісаньне вясельных звычаяў і дала 202 тэксты вясельных песень; менш каштоўны матар'ял надаслалі Трызна, У. і Янкоўскі, І.

Азарыцкі р.—матар'ялы ў раёне зьбіралі Астроўскі, Ліўшыц, Р. і Касьянчык, З.; імі запісана 69 тэкстаў і шэраг народных прыкмет.

Калінкавіцкі р. Змушко, М. дае 100 цікавых тэкстаў розных адмен песень; апрача яго запісы надаслалі Дарошык, А., Мазур, Л. і Сітнік, П.

Капаткевіцкі р. Чаўнавік, М. прыслў 2 песьні; больш у раёне запісаў не рабілася.

Каралінскі р. Куцкевіч, Н., зрабіў 28 запісаў; апрача таго некаторы матар'ял надасланы Шыбутамі С. і М., Гаравой, М., Рагінскі, С., Дзюрычам, Я., Пятроўскай, В., Пырх, В., Міlановічам,Я., Цітавым, М., Фрайман, М., і Куцковіч, Н. Усяго ў раёне зроблена 86 запісаў.

Лельчыцкі р. Багдановіч запісаў 6 замоў.

Нараўлянскі р. Запісы ў раёне рабілі Жукава, Н., Крыцкая, А., Лейфманы Ф. і Х., Сакіцкая, Я., Сякач, А., Сышчанка, Ф. і Шынкарчук, В.; разам яны запісалі 69 тэксаў.

Пятрыкоўскі р. Гутман, З. запісаў 8 тэкстаў.

Апрача пералічанага Бабырам, А. у гор. Мазыры запісана 15 тэкстаў.

### Менская акруга.

Астрашыцка-Гарадзецкі р. У мінулым акад. годзе выявіў найбольшую актыўнасьць у справе зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу ў сваёй акрузе, ён даў 493 тэксты розных адмен вуснай народнай творчасьці.

Але на вялікі жаль, самыя лепшыя запісы ў колькасьці 408 тэкстаў ня маюць адзначэньня прозьвішча асобы, якая іх запісвала. Гэта, бясспрэчна, недахоп запісаў. Апрача таго запісы надасланы Астраханам, Г., Яфімцам, М. і Качарэўскай, Н.

Барысаўскі р. Самцэвіч, П. А. даў 364 тэксты ў дужа добрых запісах, запісаных у адным невялікім раёне і апісаньне хрэсьбінскіх звычаяў, якое зьмешчана ў папярэднім нумары „Нашага Краю". У прадмове да аднаго з сваіх зборнікаў Самцэвіч піша: „Сумесна з жонкай сваёй—Б. С., задаўся я мэтай, па магчымасьці, запісаць усё, што толькі мажліва. У гэтым напрамку дапамагае мне мясцовая вясковая моладзь, старыя таксама не адмаўляюцца ад дапамогі"... П. А. Самцэвіч зьяўляецца адным з найлепшых і найсур'ёзных нашых корэспондэнтаў, да матар'ялаў якага можна аднесьціся з поўным давер'ем. Пастаўленая ім мэта, сабраць увесь фольклёрны матар'ял пэўнага раёну, бясспрэчна, дужа карысная і цікавая, застаецца толькі пажадаць, каб сабраны матар'ял клясыфікаваўся не па сюжэтах, не па адменах песень, а паводле казацеляў, каб такім чынам можна было-б

вывучаць рэпэртуар нашых вясковых казацеляў; пытаньне зусім ня высьветленае ў беларускай этнографіі.

Апрача Самцэвіча некаторая колькасьць песень у гэтым раёне была запісана Бірычам, А.

Грэскі р. Дзежка, Г. даў 27 добра запісаных песень.

Заслаўскі р. Прачук В. надаслаў 12 песень; Кузьміцкі, К.— зрабіў апісаньне народных павер'яў, зьвязаных з могілкамі.

Лагойскі р. надаслана 9 запісаў без адзначэньня прозьвішча зьбіраньніка матар'ялаў.

Пухавіцкі р. Матар'ялы надасланы Беразоўскім, Я. (28 цікавых песень), Васкабовічам, Я. і Коўзалем, Н.

Самахвалавіцкі р. даў 300 тэкстаў. Каштоўныя запісы ў колькасьці 96 тэкстаў надасланы Шчавелем, А., апрача яго ў раёне запісы рабілі Тарановіч, А. (85 тэкстаў), Грыб, У., Гарачка, У., Кросік, Русаловіч, М., Кнып, В. і Дзядзюля, Я.

Сьмілавіцкі р. даў 346 тэкстаў. Найбольшая колькасьць запісаў у гэтым раёне належыць Варэнікаву, С., які даў 256 тэкстаў; апрача яго запісы рабілі Пісарчык, Г. (80 тэкстаў), Бабіцкі, А. і Лухверчык, А. Паміж іншым Пісарчык Г. пытае, ці трэба запісваць тыя песьні, у якіх памінаецца бог і сустракаюцца розныя „рэлігійныя словы", а раней хтосьці пытаў ці трэба запісваць нецэнзурныя песьні.

Адно і другое дае для спэцыялістаў каштоўны матар'ял, а дзеля гэтага песьні рэлігійнага характару і песьні нецэнзурныя запісваць трэба не мяняючы нічога ў самым тэксьце.

Узьдзенскі р. запісы рабілі Доўнар, Б., Грыб, Я., Левіна, Б., Лычкоўскі, М., Мядзьвецкі, С., Прадуковіч, А., Трус, А., Шавель, А. і Скварцоў М.

Халапеніцкі р. запісы рабіліся Ў. Лепяшынскім (61 прыпеўка) і некаторымі іншымі асобамі, прозьвішча якіх часткай не адзначана, а часткай напісана нячытэльна.

Чэрвенскі р. даў 252 тэксты, з якіх Пастарнацкая, В. зрабіла 96 запісаў, Чаган—46, Вышнеўскі, А.—60; рэшта матар'ялу сабрана Нісьлевічам, Б., Карпучком, А., Габэрнікам, М., Лікманам, С. і Шарым П.

Апрача пералічанага ў Менскай акрузе запісана 69 тэкстаў без адзначэньня месц запісаў.

### Полацкая акруга.

Валынецкі р. даў 250 запісаў. Сур'ёзным падыходам да справы адзначаецца В. Губскі нават ня гледзячы на тое, ён ня даў выдатных запісаў у адносінах тэматыкі; апрача Губскага запісы ў раёне рабіліся Гузеем, В., Расіцыным, З. і Шломанам, П. Некаторыя запісы былі зроблены вучнямі Прудзінкаўскай школы.

Ветрынскі р. слухач Менскага Беларускага Пэдагогічнага Тэхнікуму А. Гагалінскі надаслаў 36 песень у добрых запісах.

## II.

Трохгадовы вопыт зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу на абшарах БССР пры дапамозе краязнаўчых організацый дазваляе зрабіць падагульненьне сабранаму ў асобку па кожным раёне. Такім чынам маем наступныя даныя:

| Назва акруг і раёнаў | Колькасьць запісанага матар'ялу | | | |
|---|---|---|---|---|
| | За 1925-26 г. | За 1926-27 г. | За 1927-28 г. | Усяго за тры гады. |
| **Аршанская.** | | | | |
| Аршанскі . . . | — | 144 | 10 | 154 |
| Багушэўскі . . | — | 690 | — | 690 |
| Горацкі. . . . | 220 | 108 | 282 | 610 |
| Дрыбінскі . . . | — | 14 | 40 | 54 |
| Дубровенскі . . | — | 40 | — | 40 |
| Копыскі . . . | — | 22 | 83 | 105 |
| Коханаўскі. . . | — | 7 | 1038 | 1045 |
| Круглянскі. . . | — | 1235 | — | 1235 |
| Крупскі . . . | 518 | — | — | 518 |
| Ляднянскі . . . | 362 | 779 | — | 1141 |
| Мсьціслаўскі . . | 9 | — | 215 | 224 |
| Расьнянскі. . . | 57 | — | — | 57 |
| Талачынскі. . . | — | 99 | — | 99 |
| Чарэйскі . . . | 110 | 109 | — | 219 |
| **Бабруйская** | | | | |
| Асіпавіцкі . . . | 116 | 807 | 1209 | 2132 |
| Бабруйскі . . . | — | 10 | 297 | 307 |
| Глускі . . . . | 10 | — | 49 | 59 |
| Жлобінскі . . . | — | 77 | 113 | 190 |
| Клічаўскі . . . | — | — | — | — |
| Любанскі . . . | 72 | 21 | — | 93 |
| Парыцкі . . . | — | 15 | 24 | 39 |
| Рагачэўскі . . . | 16 | — | 366 | 376 |
| Слуцкі . . . . | 75 | 58 | 158 | 291 |
| Стара-Дароскі . | 36 | 7 | — | 43 |
| Старобінскі. . . | 168 | 78 | 71 | 317 |
| Сьвіслацкі . . . | 52 | 15 | 15 | 82 |
| Чырвона-Слабодзкі. | 86 | 22 | — | 108 |
| **Віцебская** | | | | |
| Бешанкавіцкі . . | — | 601 | — | 601 |
| Віцебскі . . . | — | — | 15 | 15 |
| Высачанскі. . . | — | 33 | — | 33 |
| Гарадокскі . . . | — | — | 43 | 43 |
| Езярышчанскі . . | — | — | 74 | 74 |
| Ліозьнянскі . . | — | 35 | 8 | 43 |
| Межанск . . . | 712 | 313 | 95 | 1120 |
| Сеньненскі. . . | — | — | — | — |

| Назва акруг і раёнаў | Колькасьць запісанага матар'ялу | | | |
|---|---|---|---|---|
| | За 1925-26 г. | За 1926-27 г. | За 1927-28 г. | Усяго за тры гады |
| Сіроцінскі . . . | — | 106 | 46 | 152 |
| Сураскі . . . | — | — | — | — |
| Чашніцкі . . . | 89 | 1813 | 255 | 2157 |
| **Гомельская** | | | | |
| Брагінскі . . . | — | — | — | — |
| Буда-Кашалёўскі . | — | 59 | — | 59 |
| Веткаўскі . . . | — | — | 153 | 153 |
| Гомельскі . . . | 58 | - | — | 58 |
| Камарынскі. . . | — | — | — | — |
| Лоеўскі . . . | — | — | — | — |
| Рэчыцкі . . . | — | — | — | — |
| Церахоўскі. . . | — | — | 17 | 17 |
| Уваравіцкі . . . | — | 5 | -- | 5 |
| Хойніцкі . . . | — | — | — | — |
| Чачэрскі . . . | — | — | 10 | 10 |
| **Магілеўская** | | | | |
| Быхаўскі . . . | 114 | 401 | 414 | 929 |
| Бялыніцкі . . . | — | — | 36 | 36 |
| Журавіцкі . . . | — | 4 | 54 | 58 |
| Кармянскі . . . | — | 153 | 15 | 168 |
| Касьцюковіцкі . . | 3 | 218 | — | 321 |
| Клімавіцкі . . . | — | 35 | 3896 | 3931 |
| Краснапольскі . . | 128 | — | — | 128 |
| Крычаўскі . . . | 47 | — | — | 47 |
| Лупалаўскі. . . | — | — | — | — |
| Магілеўскі . . . | — | 75 | 203 | 278 |
| Прапойскі . . . | — | — | — | — |
| Хоцімскі . . . | 2068 | 210 | — | 2278 |
| Чавускі. . . . | — | 43 | 1 | 44 |
| Чачавіцкі . . . | — | — | — | — |
| Чэрыкаўскі . . | 198 | — | 78 | 276 |
| Шклоўскі . . . | — | — | 20 | 20 |
| **Мазырская** | | | | |
| Азарыцкі . . . | 9 | 120 | 69 | 198 |
| Жыткавіцкі. . . | — | 165 | — | 165 |
| Калінкавіцкі . . | 15 | 58 | 135 | 208 |
| Капаткевіцкі . . | 25 | 32 | 2 | 59 |
| Каралінскі . . . | — | 80 | 86 | 166 |

| Назва акруг і раёнаў | Колькасьць запісанага матар'ялу | | | |
|---|---|---|---|---|
| | За 1925-26 г. | За 1926-27 г. | За 1927-28 г. | Усяго за тры гады |
| Лельчыцкі . . . | — | 78 | 6 | 84 |
| Нараўлянскі . . | — | 14 | 69 | 83 |
| Пятрыкоўскі . . | 31 | 3 | 8 | 42 |
| Тураўскі . . . | 391 | 69 | 253 | 713 |
| Юравіцкі . . . | — | — | — | — |
| Менская | | | | |
| Астрашыцка-Гарадзецкі . . . | — | 101 | 493 | 494 |
| Барысаўскі. . . | 85 | 316 | 390 | 791 |
| Бягомльскі . . . | 381 | 86 | — | 467 |
| Бярэзінскі . . . | 4 | — | — | 4 |
| Грэскі . . . . | 191 | — | 27 | 218 |
| Заслаўскі . . . | — | — | 12 | 12 |
| Капыльскі . . . | 184 | 47 | — | 231 |
| Койданаўскі . . | 304 | 693 | — | 997 |
| Лагойскі . . . | — | 190 | 9 | 199 |
| С/с. Менскай гар. мяжы . . . | 8 | — | — | 8 |
| Плешчаніцкі . . | 32 | 335 | — | 367 |
| Пухавіцкі . . . | — | 26 | 48 | 74 |
| Самахвалавіцкі . . | 27 | 38 | 300 | 365 |
| Смалявіцкі . . . | — | 123 | — | 123 |
| Сьмілавіцкі. . . | 12 | 5 | 346 | 363 |
| Узьдзенскі . . . | 17 | 23 | 83 | 123 |
| Халапеніцкі. . . | — | — | 121 | 121 |
| Чэрвенскі . . . | 310 | 542 | 252 | 1104 |
| Полацкая | | | | |
| Асьвейскі . . . | — | 4 | — | 4 |
| Валынецкі . . . | 73 | 131 | 250 | 454 |
| Ветрынскі . . . | — | — | 36 | 36 |
| Дрысенскі . . . | 286 | — | — | 286 |
| Лепельскі . . . | — | — | — | — |
| Полацкі . . . | — | — | — | — |
| Расонскі . . . | — | 362 | — | 362 |
| Ульскі . . . . | — | 535 | — | 535 |
| Ушацкі. . . . | 217 | 179 | — | 396 |

Гэтая табліца паказвае ў якой меры расьце або падае зацікаўленьне зьбіраньнем фольклёрнага матар'ялу ў паасобных раёнах; яна таксама вызначае і тыя раёны, у якіх на працягу трох гадоў ня было зроблена ніводнага этнографічнага запісу або было зроблена дужа нязначная колькасьць. Зразумела, што раённым таварыствам краязнаўства найбольш адсталым у справе зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу варта было-б на гэты недахоп у іх краязнаўчай дзейнасьці зьвярнуць сур'ёзную ўвагу.

Сабраны матар'ял у мінулым 1927-28 акад. годзе паміж акругамі падзяляецца наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| Магілеўская акруга . . . | 4702 | запісы. |
| Бабруйская „ . . . . . | 2206 | „ |
| Менская „ . . . . . | 2081 | „ |
| Аршанская „ . . . . . | 1668 | „ |
| Мазырская „ . . . . . | 628 | „ |
| Віцебская „ . . . . . | 536 | „ |
| Полацкая „ . . . . . | 286 | „ |
| Гомельская „ . . . . . | 180 | „ |

прычым 387 запісаў ня маюць дакладных азначэньняў месц запісаў, што зьяўляецца хібай матар'ялаў. Тут цікава адзначыць, што ў папярэднім акад. годзе першае месца па колькасьці сабранага фольклёрнага матар'ялу належала Аршанскай акр.; а ў 1925-26 г.—Калінінскай

(якая зараз уваходзіць у Магілеўскую). Апошняе месца ва ўсе тры гады належыць Гомельскай акрузе.

Сабраны матар'ял паводле сваіх адмен выяўляецца ў наступных лічбах:

| | Замовы | Прыказкі | Загадкі | Калядныя п. | Масьленічныя п. | Веснавыя п. | Русальныя п. | Купальскія п. | Песьні працы | Хрэсьбінскія (і дзіцячыя) п. | Вясельныя п. | Хаўтур. галашэньні | Бытавыя п. | Прыпеўкі | Духоўныя вершы | Казкі, апавяданьні і легенды | Усяго за год |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік запісаў за 1925-26 акад. год . | 163 | 452 | 680 | 180 | 47 | 242 | 9 | 103 | 355 | 112 | 1.480 | 1 | 1.167 | 3.427 | 3 | 144 | 8.565 |
| Лік запісаў за 1926-27 акад. год . | 255 | 1.653 | 1.666 | 177 | 114 | 309 | 13 | 193 | 502 | 147 | 1.976 | 7 | 1.720 | 4.521 | 5 | 201 | 13.459 |
| Лік запісаў за 1927-28 акад. год . | 293 | 1.742 | 2.520 | 126 | 26 | 221 | 14 | 99 | 818 | 117 | 1.360 | 10 | 1.056 | 4.197 | 8 | 163 | 12.776 |
| Усяго па адменах . | 711 | 3.847 | 4.866 | 483 | 187 | 772 | 36 | 395 | 1.675 | 376 | 4.816 | 18 | 3.943 | 12.145 | 16 | 508 | 34.794 |

Такім чынам у мінулым акад. годзе бачым некаторае, праўда нязначнае, зьніжэньне зацікаўленасьці зьбіраньнем фольклёрных матар'ялаў у параўнаньні з папярэднім годам. Гэты недахоп пакрываецца вялікай колькасьцю адказаў, якія былі прысланы на спэцыяльныя анкеты Катэдры этнаграфіі па вывучэньні пытаньня аб волатах і валатоўках, аб набіваньні тканіны ўзорамі і афарбаваньні яек. Падрабязны разгляд матар'ялу атрыманага ў адказ на анкеты будзе зроблены ў другім артыкуле.

У кароткай заметцы цяжка конкрэтна вызначыць навуковую значнасьць сабранага матар'ялу; ясна адно, што, ня гледзячы на цэлы шэраг (іншы раз і даволі сур'ёзных) недахопаў, увесь сабраны матар'ял у цэлым мае бясспрэчную навуковую каштоўнасьць. Кідаецца ў вочы паміж іншым, слабае вывучэньне нашымі корэспондэнтамі зараджэньня новага быту ў вёсцы; так, напр., на больш чым чатыры тысячы запісаных у справаздачным годзе прыпевак, тэкстаў з новымі мотывамі прыпадае вельмі, вельмі мала. За некаторымі нязначнымі выключэньнямі яны падаюцца ніжэй:

1. У нашага дзяка
Новыя законы:
Пачынае прапіваць
Старыя іконы.

(Запіс Пастарнацкай, В., Чэрвенскі р., Менск. акр.).

2. Правалісь зямля і неба—
Мы на кочцы пражывём;
Бога нет, цара ня трэба,
Ўласьць саветаў прызнаём.

(Запіс Сотчанка, Я. Клімавіцкі р., Магілеўск. акр.).

3. Ходзе бусел па балоту
Не памоча сваіх нох;
А хто ССР любіць кіне
Не паможа яму бох.

(Запіс Зарубы, Рагачэўскі р., Бабруйск. акр.).

4. Я ў бацькі спрашуся
Ў камсамольцы запішуся;
Жыць па-новаму пачнём—
Буржуяў разаб'ём.

(тс.).

5. Я ўжо з вёскай распрашчаўся
Кінуў сеяць і касіць,
Ў красну армію сабраўся
Брата старшага зьмяніць.

(Запіс Стралкова, П., Бабруйскі р. і акр.).

6. Ой, яблачка
наліваіцца;
А савецкая ўлада
украпляецца.

(Запісь Ванчукевіча, Х., Старобінскі р. Бабруйск. акр.).

7. Наша поля чарназёмная—
Ваша камяністая;
Нашы дзеўкі—камсамолкі,
Вашы—камуністыя.

(Асіпавіцкі р. Бабр. акр.).

8. А што гэта прыляцела—
На маё вакошка села?
Нітачка іголачка—
Буду камсамолачка.

(Запіс Казунова, Е. Веткаўскі р. Гомельск. акр.).

9. На стале стаіць талерка,
А ў талерцы вінаграт;
Мікалай прапіў Расію,
А Распуцін—Петраград.

(тс.).

10. Зь неба зорачка упала—
Пакацілася уніз;
У мяне—чырвонаармеец,
У падрушкі—камуніст.

(Валынецкі р. Полацк. акр.).

11. Я на бочцы сядзеў,
А пад бочкай сьлізка;
Бірагіся, паляк,
Камуністы блізка

(Рагачэўскі р. Бабруйск. р.).

12. Ой, яблачкі
наліваюцца;
А палякі
разьбігаюцца.

(Запіс Ванчукевіч, Х., Старобінскі р., Бабр. акр.).

13. Реней былі ўрыміна,
А цяпер мамэнты;
Скора кошка ў ката
Спросіць алімэнты.

(Запіс Кіслова, Л. Межынскі р. Віцебскае акр.).

З ліку паказаных тэкстаў пекаторыя, як відаць, зьяўляюцца чыста расійскага паходжаньня. На зьбіраньне і вывучэньне матар'ялаў беларускага паходжаньня, якія адбіваюць адносіны сялянства да новых умоў жыцьця, нашым краязнаўчым таварыствам бясспрэчна трэба зьвярнуць найсур'ёзьнейшую ўвагу.

III.

Тры гады сістэматычнага зьбіраньня фольклёрных матар'ялаў на абшарах Савецкай Беларусі далі шэраг асоб: пераважна з вясковага настаўніцтва, якія сур'ёзна зацікаўлены справай зьбіраньня этнографічных матар'ялаў, якія ў гэтай галіне маюць ужо некаторую практыку; да ліку іх можна аднесьці наступных асоб Ажэўскі Пііліп (Слуцкі р.), Адэльская, Н. (Полацк. акр.), Вашына Кастусь (Койданаўскі р.), Высоцкі, Л. (Гомельск. акр.), Вішнеўская, Н. (Менск), Галадкоўскі Аўген (Быхаў), Дзежка, Г. (Менск), Емельянаў (Чарэйскі р.), Іскраў, Ігнат (Аршанск. акр.), Кавалёў Базыль (Горацкі р.), Квіцінскі Мікола

(Тураўскі р.), Котаў, Ц. (Горацкі р.), Козел Мікола (Віцебск. акр.), Каем Блюма (Расонскі р.), Калецкі, Л. (Ляднянскі р.), Крукоўскі, А. (Мазыр), Мікалаеў, Т. (Касьцюковіцкі р.), Маркаў Дзяніс (Горкі), Пілецкая Надзея (Ляднянскі р.), Пятроў, А. (Бабр. акр.), Палладзьдзей, А. (Гомель), Раеўская, А. (Тураўскі р.), Рушкевіч, І. (Слуцкі р.), Сянкевіч Ангеліна (Сеньненскі р.), Сапун Янка (Менск), Самцэвіч Пётра (Барысаўскі р.), Тараймовіч, П. (Бабруйск), Цяста, Ю. (Дрысенскі р.) і шэраг іншых асоб.

У мэтах унясеньня найлепшага парадку і большай конкрэтнасьці ў справу зьбіраньня матар'ялу, як пералічанымі так і іншымі асобамі, дазволю зрабіць сабе некалькі мэтодычных заўваг.

Асобам, якія маюць на ўвазе рабіць сыстэматычныя этнографічныя назіраньні і запісы, неабходна, 1) канкрэтна выясьніць раён сваіх назіраньняў; 2) улажыць плян працы і 3) сыстэматычна весьці дзеньнік этнографічных назіраньняў.

У адносінах да раёну назіраньняў, агулам кажучы, думаем, што ім будзе месца, дзе жыве той ці іншы наш корэспондэнт, як куток найлепш яму вядомы, як куток, у якім мясцовае насельніцтва зьбірача этнографічных матар'ялаў будзе лічыць сваім чалавекам і ня будзе адносіцца да яго з падазронасьцю; апошнія акалічнасьці зьяўляюцца неабходнымі ўмовамі пры зьбіраньні этнографічных матар'ялаў. Тут толькі трэба зьвярнуць увагу на тое, што мясцовы чалавек, які звыкся з мясцовым бытам, можа не зафіксаваць цікавыя этнографічныя зьявы, да якіх ён прывык, бо яны будуць здавацца яму самымі звычайнымі, не заслугоўваючымі сур'ёзнай увагі.

Выходзячы з палажэньня, што этнографічная старасьветчына з кожным годам нішчыцца ўсё больш і больш—плян працы павінен мець сваёй мэтай строга сыстэматычным шляхам на працягу шэрагу гадоў усебакова вывучаць і апісваць пэўны раён. У справе гэтай „палявой этнографічнай працы“ (так называецца непасрэднае зьбіраньне матар'ялаў ад насельніцтва, якое мае этнографічныя перажыткі) найлепшым мэтодам зьяўляецца мэтод стацыянарны, калі запісы робяцца ў адным вузка абмежаваным раёне, без пераездаў з аднаго месца на другое; у апошнім выпадку матар'ял атрымліваецца выпадковы і ня глыбокі.

На дапамогу зьбірачу, пакуль ён яшчэ самастойна не орыентуецца ў этнографічных пытаньнях, павінны прыйсьці програмы. Яны былі надрукованы ў часопісе „Наш Край“. Дужа карысным падручнікам пры палявой этнографічнай працы зьяўляецца выданая ў 1928 г. Этнографічнай Камісіяй Ленінградзкага Унівэрсытэту кніга Макар'ева, С. А. „П о л е в а я  Э т н о г р а ф і я. Краткое руководство и программы для собирания этнографических материалов в СССР“. Кніга гэтая, разьлічаная на ўсходніх славян (вялікарусаў, беларусаў і украінцаў) у сьціслай форме обхоплівае ўсе галаўнейшыя моманты народнай культуры ва ўсіх яе галінах і ўвязвае зьбірача з шэрагам спэцыфічных пытаньняў, паўстаўшых у этнографіі ў выніках будаўніцтва новага быту.

Зразумела, што пры ўлажэньні пляну палявой працы неабходна знаёмства з папярэднімі этнографічнымі працамі, зробленымі ў даным раёне; гэтае апошняе ў сучасны момант упаўне мажліва для вясковага краязнаўца, дзякуючы організаваньню Дзяржаўнай Бібліотэкай справачнай бібліотэчкі па розных пытаньнях беларусазнаўства, кнігі якой будуць высылацца выключна на патрабаваньні краязнаўцаў. А орыен-

тавацца наогул у літаратуры беларускай этнографіі лёгка пры дапамозе выданага Інстытутам Беларускае Культуры бібліографічнага паказьніка, у які ўнесена ўся галаўнейшая літаратура па гэтым пытаньні.

Пажадана было-б, каб мясцовыя працаўнікі пляны сваіх палявых этнографічных прац узгаднялі-б з Катэдрай Этнографіі Інстытуту, якая магла-б зрабіць, калі гэта было-б патрэбна, відазьмены ці дапаўненьні.

Усе зробленыя нагляданьні і сабраныя матар'ялы можна зафіксоўваць двума мэтодамі: 1) запісваючы кожную песьню, кожнае апісаньне, кожную паасобную зьяву этнографічнага характару на паасобныя аркушы, якія з часам можна клясыфікаваць рознымі мэтодамі; 2) весьці дзеньнік сыстэматычна, заносячы ў яго ўсе матар'ялы ў парадку іх збору.

Зразумела, першы мэтод больш выгодны, бо ён дазваляе сабраны матар'ял лёгка клясыфікаваць, хоць і вядзеньне дзеньніка мае добры бок—лепш захоўвае сабранае, між тым як паасобныя аркушыкі могуць ва ўмовах жыцьця нашага настаўніцтва лёгка губляцца.

Такім чынам мэтод зафіксаваньня матар'ялу абіраецца самім зьбірачом, але неабходнай умовай сур'ёзных этнографічных занятак зьяўляецца неперарыўнасьць нагляданьняў, якая павінна сыстэматычна весьціся што дзень.

---

**Мік. Байкоў.**

# Слоўнікавая праца на мясцох у БССР за тры гады (1925-1928).

Што жывая народная мова, як яна ёсьць у вуснах простага народу, павінна быць аднэй з найгрунтоўнейшых крыніц для слоўніка жывой народнай мовы, гэта—агульнапрызнанае палажэньне.

Магчыма поўнае выкарыстаньне жывой народнай мовы і было пастаўлена, як адно з асноўных заданьняў Камісіяй для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы Інстытуту Беларускае Культуры.

Гэтае заданьне паўстала перад Камісіяй ужо тады, калі вызначаліся першыя крокі яе дзейнасьці,—у пачатку 1925 г.

Аднак і тады, да пачатку збору слоў з народнай мовы, было ясна, што габінэтным шляхам, без дапамогі шырокіх колаў грамадзянства, зорганізаваных у краязнаўчыя гурткі і таварыствы, разьвязаць гэтае пытаньне немагчыма.

Актыўная дапамога з боку Цэнтральнага Бюро Краязнаўства і мясцовых краязнаўчых організацый БССР у зборы слоў з народных вуснаў і зьяўляецца вельмі важным фактарам, які забясьпечыў Слоўнікавай Камісіі пасьпяховыя вынікі ў гэтай справе.

Слоўнікавая праца на мясцох у межах БССР разгарнулася ў канцы 1925 г. і цяпер можна налічваць якраз тры гады гэтае працы.

Па якіх кірунках адбывалася гэтая праца?

У дакладзе С. М. Некрашэвіча „Да пытаньня аб прынцыпах укладаньня слоўніка жывой беларускай мовы", прынятым за аснову працы Слоўнікавай Камісіяй ІБК, былі вызначаны два спосабы збору народнага слоўнага матар'ялу з месц, два кірункі мясцовай слоўнікавай працы.

Першы спосаб—збор слоў з народнай мовы пры дапамозе спэцыяльнай праграмы.

Другі спосаб—укладаньне мясцовых краёвых слоўнікаў.

Сутнасьць першага спосабу—у тым, што апрацоўваюцца асобыя праграмы, у якіх паказваецца, на што пры зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу трэба зьвярнуць увагу дапішчыкам з месц. Словы, запісаныя паводле паказаньняў такой праграмы непасрэдна або праз краязнаўчыя організацыі павінны пастунаць для карыстаньня пры ўкладаньні слоўніка жывой беларускай мовы. Гэта—самы просты, самы даступны спосаб разьвязаньня проблемы організацыі мясцовай слоўнікавай працы.

„Аднак практыка іншых асоб, якія рабілі збор матар'ялу падобным спосабам", як адзначаецца ў дакладзе, „паказала, што ён не дасягае сваёй мэты". Гэты спосаб, асабліва пры няправільным прыстасаваньні да мясцовай слоўнікавай працы і формальным падходзе корэспондэнтаў да сваёй справы, мог-бы даць вальмі няпоўны і няпэўны запіс слоў, што ўжываюцца ў вуснах простага народу.

Дзеля гэтага побач з першым спосабам Камісіяй быў прызнаны рацыянальным, як роўналежны яму, спосаб укладаньня мясцовых краёвых слоўнікаў, дзе з пэўнымі тлумачэньнямі і прыкладамі з жывой народнай мовы былі-б зарэгістраваны ўсе словы данай мясцовасьці.

Абодва гэтыя спосабы і знайшлі сабе прыстасаваньне ў практыцы слоўнікавай працы на мясцох у БССР.

Папершае, выкарыстоўваецца мэтод працы дапішчыкаў з месц паводле асобай праграмы,—інструкцыі да зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу з жывой народнай беларускай мовы.

Асаблівасьцю інструкцыі, выданай Слоўнікавай Камісіяй ІБК, зьяўляецца тое, што тут было прапанована дапішчыкам з месц запісваць *усе* беларускія словы, якія ўжываюцца ў пэўнай мясцовасьці (мэтод *суцэльнага* запісу). Для збору слоў паводле гэтай інструкцыі быў вызначаны тэрмін да 1 студзеня 1927 г.

Пасьля гэтага тэрміну Камісія знайшла рацыянальным ужыць, як спробу, мэтод запісу з *выбарам*,—і ў 1927-1928 акадэмічным годзе быў організаваны збор дадаткаў да „Беларуска-Расійскага слоўніка" М. Байкова і С. Некрашэвіча і корэктываў да яго.

Адначасна з масавым зборам слоўнікавага матар'ялу пачалася і праца ўкладаньня краёвых слоўнікаў.

Было зусім натуральным, што гэта праца сконцэнтравалася ў *акруговых* краязнаўчых організацыях. Пры абмеркаваньні пытаньня аб колькасьці краёвых слоўнікаў Камісіяй і было прынята ўкласьці для БССР 10 акруговых слоўнікаў адпаведна ліку акруговых таварыстваў краязнаўства, які быў у 1925 г. Паасобку стаялі краёвыя слоўнікі Заходняй Беларусі, Смаленшчыны, Гомельшчыны і Невельшчыны.

Для збору слоў для краёвых слоўнікаў краязнаўчым організацыям была даслана „Інструкцыя для зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове". Для кіраўніцтва-ж укладаньнікаў краёвых слоўнікаў была выпрацавана спэцыяльная інструкцыя, разасланая акруговым таварыствам краязнаўства.

Інструкцыяй былі вызначаны такія прынцыпы пры ўкладаньні краёвых слоўнікаў:

1. Слоўнік павінен адбіць беларускую жывую народную мову пэўнай акругі. Дзеля гэтага ў слоўнік павінны запісвацца *ўсе* беларускія словы, якія чуваць у народнай гутарцы пэўнай акругі, іншыя-ж

словы, якія могуць быць вядомы, як беларускія, але няўжываныя ў гэтай мясцовасьці, у слоўнік не запісваюцца. Таксама не патрэбна запісваць і тых слоў, якія ўжываюцца гарадзкою або местачковаю зрусіфікаванаю або спольшчанаю часткаю насельніцтва, а роўным спосабам запісваць словы з надрукаваных крыніц фольклёрнага. матар'ялу;

2. Азначанае беларускае слова ў асноўнай колюмне беларускага тэксту запісваецца *агульнапрынятым беларускім правапісам*.

3. Прыклады—фразы з народных вуснаў—запісваюцца на слух, як *слова вымаўляецца* ў тэй мясцовасьці, дзе быў запісаны прыклад;

4. Да кожнага беларускага слова з прыкладам дадаецца *мясцовае адзначэньне*, г. зн.—паказаньне месца (раён, вёска, сяло), дзе запісаны прыклад,—фраза з народных вуснаў.

З гэтых прынцыпаў найбольш важнае значэньне мае прыняты ў Камісіі пасьля досыць гарачых спрэчак прынцып запісу беларускіх слоў у асноўнай колюмне тэксту агульнапрынятым беларускім правапісам. Гэтым адхіляўся дыялектолёгічны тып краёвых слоўнікаў і падкрэсьлівалася сувязь іх з агульным акадэмічным слоўнікам жывой беларускай мовы, дзе бяз усякіх спрэчак словы ў асноўнай колюмне павінны запісвацца паводле правіл літаратурнага беларускага правапісу.

У інструкцыі было выказана пажаданьне, каб аб'ём слоўнікаў не перавышаў 10,000 слоў для кожнага паасобнага слоўніка.

Было паложана, што праца ўкладальнікаў краёвых слоўнікаў будзе аплачана з сродкаў Інбелкульту.

Слоўнікавай Камісіяй былі намечаны асобы з вядомых краязнаўцаў, якія маглі-б узяць на сябе організацыю ўкладаньня краёвых слоўнікаў у кожнай акрузе,—і з пачатку 1926 г. праца ўкладаньня гэтых слоўнікаў распачалася ў розных акруговых краязнаўчых таварыствах.

Якія-ж вынікі дала слоўнікавая праца на мясцох за тры гады?

У агульным абсягу мясцовай слоўнікавай працы найгалоўнейшае месца займае ўкладаньне краёвых слоўнікаў.

У гэтай галіне найбольш рухава праца пайшла ў Віцебшчыне, дзе справай кіраваў навуковы сакратар Віцебскага Акруговага Т-ва Краязнаўства М. Ів. Касьпяровіч, які з 1924 г. распачаў самастойны збор слоўнікавага матар'ялу з народных вуснаў. Дзякуючы энэргіі ўкладальніка, а таксама моцнасьці і наладжанасьці віцебскіх краязнаўчых організацый зьявілася магчымым ужо ўлетку 1926 г. распачаць працу ўкладаньня слоўніка на падставе сабранага карткавага матар'ялу,—і ўжо ў ліпні 1926 г. першыя літары слоўніка паступілі на рэдакцыю ў Слоўнікавую Камісію раней вызначанага тэрміну на паўгода. Канечна, пры больш працяглай апрацоўцы і большай дасьведчанасьці ўкладальніка ў мясцовай мове Віцебскі краёвы слоўнік зьявіўся-б у больш дасканалым выглядзе, але Слоўнікавая Камісія, зважаючы на жаданьне Віцебскага АНА забясьпечыць у найхутчэйшым часе гэтым слоўнікам школы Віцебшчыны, распачала яго рэдагаваньне; было толькі зазначана, што пададзены т. Касьпяровічам слоўнік мае характар ня столькі поўнага слоўніка Віцебшчыны, колькі матар'ялаў да яго. Камісія кіравалася тым, што Віцебскі краёвы слоўнік нават у няпоўным аб'ёме і недакладнай апрацоўцы можа быць карысным, як першы конкрэтны вынік мясцовай масавай краязнаўчай працы ў галіне беларускай лексыкалёгіі.

„Віцебскі краёвы слоўнік“ вышаў у 1927 г. у выданьні Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства і выдавецтва „Заря Запада“ у аб'ёме 362 стар. асноўнага тэксту з лікам 9703 беларускіх слоў.

Гэты слоўнік знайшоў сабе ацэнку як на старонках беларускіх („Полымя“, „Асьвета“), гэтак і замежных спэцыяльных мовазнаўчых часопісаў.

Вось, напр., як адзываецца аб ім рэцэнзэнт на старонках праскага славісцкага журналу „Prehled Slowiansky“ (1927 г., № 3):

„Слоўнік мае вялізарную каштоўнасьць для беларускай дыялектолёгіі і як адзін з каменьняў фундамэнту будучага навуковага слоўніка жывой беларушчыны. Ён будзе таксама вельмі карысным ня толькі дома, у краі, для практычнага ўжытку ў школах, установах і г. д., але галоўным чынам для мясцовых мовадасьледчыкаў, пісьменьнікаў, журналістых і ўсіх, хто цікавіцца беларускай мовай, як і для замежных славістых і перакладчыкаў з беларускай мовы“.

Менш пасьпяхова разьвінулася справа з укладаньнем краёвых слоўнікаў у іншых акругах. Праўда, усімі акруговымі таварыствамі краязнаўства была распачата праца збору матар'ялаў для краёвых слоўнікаў і ўсюды, за выняткам аднаго толькі Менскага Акруговага Т-ва, якое зусім не дасягнула посьпехаў у гэтым кірунку, былі сабраны пэўныя слоўныя матар'ялы, аднак у колькасьці, значна меншай параўнальна з Віцебшчынай. Вельмі нязначны лік, усяго 900 картак быў сабраны ў Слуцку, а з Полацку ня было ў вызначаны час зусім атрымана ведаў аб паступленьні карткавага матар'ялу. Больш інтэнсыўна разьвінулася праца ў Магілеве (да 5000 кр.), Бабруйску (3500 кр.) і Барысаве (больш 2000 кр.). З розных прычын гэтыя матар'ялы ня былі апрацаваны на мясцох, а былі дасланы ў Слоўнікавую Камісію для выкарыстаньня пры ўкладаньні акадэмічнага слоўніка. У 1927 годзе ў выдавецкім пляне Камісіі былі застаўлены толькі два краёвыя слоўнікі з вызначаных у 1925 г.,—Мазырскі і Калінінскі. Неразьвязаным было пакінута пытаньне аб Аршанскім краёвым слоўніку, дзе былі сабраны матар'ялы ў ліку 8000 картак, але без азначанага пляну іх рэалізацыі. Камісіяй была прынята магчымасьць выданьня гэтага слоўніка сіламі самога Аршанскага Т-ва Краязнаўства.

Слоўнікавая праца ў Мазыршчыне шырока разгарнулася дзякуючы энэргічным мерам Акруговага Т-ва Краязнаўства ўлетку 1927 г. і ўжо к восені гэтага году было сабрана некалькі тысяч картак, якія зьявіліся грунтам для ўкладаньня краёвага слоўніка т. Ал. Як. Крукоўскім. У канцы 1927 г. першыя літары Мазырскага слоўніка паступілі ўжо на разгляд Слоўнікавай Камісіі. Гэты разгляд даў магчымасьць укладальніку выправіць мэтодалёгічны бок працы і наагул удасканаліць сваю работу. У лістападзе 1928 г. Мазырскі слоўнік у канчаткова апрацаваным выглядзе, перадрукованы з картак на аркушы, у аб'ёме да 10.000 слоў ужо паступіў для рэдакцыі ў Слоўніковую Камісію і становіць другі пасьля Віцебскага краёвага слоўніка каштоўны вынік *масавай* краязнаўчай слоўнікавай работы ў Савецкай Беларусі. Мазырскі краёвы слоўнік—апрацаваны паводле таго-ж самага мэтоду, як і яго папярэднік—Віцебскі краёвы слоўнік, з перакладам беларускіх слоў на расійскую мову, аднак больш доўгі тэрмін апрацаваньня дазволіў укладальніку зрабіць тое, што не хапае першаму слоўніку,—праверку дыялектолёгічнай правільнасьці запісу прыкладаў з месц.

Калінінскі краёвы слоўнік укладаецца на падставе карткавых матар'ялаў, сабраных б. Калінінскім Акруговым Т-вам Краязнаўства і яго ўкладальнікам Я. Бялькевічам пры дапамозе краязнаўчага гуртка студэнтаў Амсьціслаўскага Пэдагогічнага Тэхнікуму ў ліку да 15.000 картак. Словы на першыя літары слоўніка ўжо апрацаваны ўкладальнікам. Розьніцу Калінінскага слоўніка параўнальна з Віцебскім і Ма-

зырскім складае тое, што тут даюцца не пераклады беларускіх слоў у расійскую мову, а іх *тлумачэньне ў беларускай-жа мове.*

Адсутнасьць Калінінскай акругі ў цяперашнім адміністрацыйным падзеле Савецкай Беларусі, канечна, ня можа быць перашкодай да заканчэньня працы ўкладаньня гэтага слоўніка, паколькі ўкладальнікам прыняты пад увагу асаблівасьці мовы цэлага раёну.

Віцебскі, Мазырскі і Калінінскі слоўнікі ў цэлым даюць фотографію народнага лексыкону амаль недасьледваных у гэтых адносінах раёнаў этнографічнай Беларусі, паколькі вядомы „Словарь Белорусского наречия“ Ів. Насовіча быў напісаны на падставе матар‘ялаў пераважна заходняй часьці б. Магілеўскай, Менскай і Гародненскай губэрань.

Мясцовыя адзначэньні, якія даюцца ў краёвых слоўніках, укладзеных паводле прынцыпаў Слоўнікавай Камісіі ІБК, становяць іх значны плюс параўнальна з слоўнікам Ів. Насовіча.

Побач з акруговымі краёвымі слоўнікамі пад кіраўніцтвам Слоўнікавай Камісіі чэрвенскім краязнаўцам Мік. Шатэрнікам укладзены паводле правіл інструкцыі для ўкладаньня акруговых слоўнікаў *раённы* слоўнік народнай гутаркі Чэрвеншчыны. Гэты слоўнік ужо ў восені 1927 паступіў у Слоўнікавую Камісію апрацаваным па карткавай сыстэме ў ліку да 9000 картак-слоў. Пасьля грунтоўных выпраўленьняў рэдактараў ён быў перапісаны ўкладальнікам на аркушы і ў восені 1928 г. паступіў у друк. Да 1 сьнежня надрукавана ўжо $4^1/_2$ арк.

Чэрвенскі краёвы слоўнік мае значэньне, як спроба ўкладаньня раённага слоўніка і як індывідуальная праца краязнаўца-дасьледчыка, добра знаёмага з гутаркай сваёй мясцовасьці. Апрача таго, гэты слоўнік становіць сабою і пэўную замену нерэалізаванага Менскага акруговага краёвага слоўніка, паколькі мова Чэрвеншчыны зьяўляецца тыповай для Меншчыны.

Слоўныя матар‘ялы, якія былі сабраны акруговымі таварыствамі краязнаўства для ўкладаньня краёвых слоўнікаў, дастаўлены ў Слоўнікавую Камісію ІБК. Дапушчальна, што тут знойдуцца словы, якія магчыма будзе выкарыстаць пры ўкладаньні акадэмічнага слоўніка жывой беларускай мовы паміма тых слоў, якія ўвайшлі ў краёвыя слоўнікі.

Але больш, як 70% усіх слоўных матар‘ялаў з месц, якія сабраны Слоўнікавай Камісіяй, паступілі сюды непасрэдна для акадэмічнага слоўніка ад розных краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў.

Аб паступленьні і колькасьці гэтых матар‘ялаў можа даць канкрэтнае ўяўленьне наступная табліца

Картак-слоў:

| Акругі | Сьнежань м. 1926 г. | Люты м. 1927 г., разам з папярэднімі | Усяго да 1 Сьнежня 1928 г. |
|---|---|---|---|
| Аршанская . . . | 817 | 3.874 | 6.461 |
| Бабруйская . . | 2.935 | 8.015 | 10.367 |
| б. Барысаўская . . | 3.597 | 5.689 | 7.673 |
| Віцебская . . . | 35.843 | 36.742 | 37.285 |
| Гомельская. . . | 2.187 | 2.269 | 2.371 |
| б. Калінінская. . . | 3.852 | 4.353 | 4.759 |
| Магілеўская . . | 2.632 | 9.188 | 9.867 |
| Мазырская . . | 491 | 556 | 10.842 |
| Менская . . . | 7.337 | 7.937 | 18.121 |
| Полацкая . . . | 450 | 450 | 1.895 |
| б. Слуцкая. . . . | 5.987 | 8.116 | 9.508 |
| Увогуле . . . | 66.128 | 87.189 | 119.153 |

З паасобных краязнаўчых організацый асабліва вызначыліся сваёй дапамогай у зборы слоўнікавага матар'ялу:

| | | |
|---|---|---|
| Бабруйскае Арк. Т-ва Краязнаўства | 3000 | картак. |
| Барысаўскае „ „ „ | 2500 | „ |
| Віцебскае „ „ „ | 34000 | „ |
| Магілеўскае „ „ „ | 5000 | „ |
| Мазырскае „ „ „ | 9500 | „ |
| Слуцкае „ „ „ | 900 | „ |
| Прапойскае раённае т-ва кр-ства | 1500 | |
| Асіпавіцкі краязнаўчы гурток | 1350 | „ |
| Гурток студэнтаў Менскага Пэдтэхнікуму | 6000 | „ |
| „ „ Магілеўскага Каморніцкага Тэхнікуму | 4500 | „ |
| „ „ Рагачэўскага Пэдтэхнікуму | 1450 | „ |

Як агульнае правіла, карткі, якія дасланы ў Слоўнікавую Камісію, маюць *іменнае* адзначэньне, г. зн. подпіс асобы, якая запісвала картку.

Ананімных картак ёсьць зусім нязначны процант па акругах:

| | | |
|---|---|---|
| Аршанскай | 242 | карткі |
| Бабруйскай | 108 | „ |
| Барысаўскай | 25 | „ |
| Віцебскай | 3.600 | „ |
| Магілеўскай | 291 | „ |
| Слуцкай | 18 | „ |
| Усяго | 4195 | „ |

Агульны лік асоб, якія запісвалі на мясцох народныя словы, даходзіць да 2500 чалавек.

Гэта—у пераважнасьці народныя настаўнікі, студэнцкая моладзь, аграномы, і часткова, вучні сямілетак.

З паасобных запісчыкаў слоў найбольш выдаліся сваёй дзейнасьцю ў зборы слоўнікавага матар'ялу з народных вуснаў па акругах:

### Аршанская акруга.

Алімаў А., Горацкі р.—102 карт., Быліна М., Талачынскі р.—159 карт., Капаневіч Ів., з розных месц—3636 карт., Картоша А., Талачынскі р.—127 карт., Нурчанкоў С., Дрыбінскі р.—108 карт., Ладысаў А. І., Макараўскі с.-с., в. Піліпава—108 карт., Леўшын П., Дрыбінскі р. (шапавальская мова)—104 карт. Кесьцяроў Яўхім., Дрыбінскі р.—103 карт., Федарава Л., Багушэўскі р., в.-в. Вакары, Старае Сяло, Маталыжына—134 карт., Шафранскі А., Аршанскі р.—109 карт.

### Бабруйская акруга.

Бамыка Я., 1 Бабруйскі р.—164 карт., Водзіла П., Бабр. р., в. Вусава—259 карт., Грыбоўскі В., Дварэцкі с.-с., в. Слабада—103 карт., Некрашэвіч Д., Парыцкі р.—110 карт., Пракопчык М., Стрэшынскі р.—114 карт., Прышч А., Глускі р.—195 карт., Рункевіч В., м. Крычаў—100 карт., Сафронаў Д., Жлобінскі р., в. Дзяніскавічы—105 карт., Шалупенка М., Асіпав. р.—102 карт.

### Б. Барысаўская акруга.

Вінаградаў Ів., Бярэзінскі р., с. Багушэвічы—1559 карт., Жукоўская Ал. Плешчаніцкі і Барысаўскі раёны—247 карт., Касьцюковіч М., Барысаўскі р., в. Чытальянка—283 карт., Кішкурна С., Плешчаніцкі р.—160 карт., Няронскі З., Халопецкі р.—129 карт., Патапенак Ул., Барысаўскі. р.—137 карт., Самцэвіч В., Барыс. р., в. Баяры—153 карт., Самцэвіч П., Крупскі р., в. Дакудава—1671 карт., Таразэвіч В., Плешчаніцкі р., в. Грыневічы і м. Крайск—271 карт., Шымук П., Плешчаніцкі р., в. Будзенічы—101 карт.

### Віцебская акруга.

Адэльская Н., Чашніцкі р., в. Стаішча—236 карт., Акаловіч В., Бешанк. р.—456 карт., Аносаў Г., Чашн. р., вв. Дзямідавічы, Падрэзы, Іванск—222 карт., Астраповіч, Сеньненскі р.,—304 карт., Аўчыньнікава М., Бешанк. р.—247 карт., Аўчыньнікаў І., Бешанк. р.—310 карт., Багданава Т., Азярышч. р.—169 карт., Бічай Т., Ульянаўскі с.-с.—182 карт., Брыгіневіч М., Сеньненскі р., в. Раманаўка—259 карт., Басьценкава Ал., Пайднёва-Віцебскі р., в. Купіна і Застадольле—157 карт., Васільева Н., Азярышч. р.—136 карт., Ваявода Н., Лёзьненскі р., в. Веляшковічы—207 карт., Вятоха М., Бешанк. р., вв. Санікі, Шарынава, Латы—432 карт., Габруковіч., Бешанк. р.—181 карт., Галаўнёва Н., Кузьн. р., в. Варашылы—141 карт., Галаўнёў Ів., Кузьн. р.—152 карт., Давыдоўская П., Бешанк. р.—231 карт., Данчанка Я., Кузьн. р.—232 карт., Дзямешкіна Э., Сеньненскі р.—159 карт., Даўгаполаў Ал., вв. Аляксіміч, Пяшчанка, Тур'ева—165 карт., Драздоў І., Бешанк. р.—147 карт., Іваноў В., Чашн. р.—107 карт., Кавалёў Рыг., Віцебскі р.—196 карт., Кажарская Г., Сеньн. р.—201 карт., Казакова М., Кузьн. р., в. Мікалаева—264 карт., Казлоўскі К., Сеньн. р.—1405 карт., Касьпяровіч М.,—розныя мясцовасьці Віцебшчыны—707 карт., Касьцючэнка М., Віцебскі р., вв. Макарава, Астроўна, Навікі—645 карт., Касьянава В., Сеньн. р.—178 карт., Касьянаў М., Сеньн. р.—167 карт., Кісялёва А., Бешанк. р.—208 карт., Крывенка Д., Кузьн. р.—118 карт., Кулак В., Бешанк. р.—367 карт., Ліанханцэвіч А., Кузьн. р.—246 карт., Мазуркевіч М., Азярышч. р.—183 карт., Манахоўскі А., Сеньн. р.—260 карт., Міхайлава С., Сеньн. р.—190 карт., Міхайлоўская А., Бешанк. р.—199 карт., Мясьнікоў І., Сеньн. р.—227 карт., Палескі М., Гарадокскі р.—2858 карт., Петрашкевіч А., Сеньн. р.—243 карт., Пракаповіч А., Сеньн. р.—312 карт., Рамашка В., Кузьн. р.—574 карт., Рыкоўская Г., Сеньн. р.—124 карт., Сазыка Ю., м. Бешанкавічы—388 карт., Саракалетава Л., Сеньн. р.—114 карт., Семяненак С., Кузьн. р.—172 карт., Скакун М., Беліцкі і Латычальскі с.-с.—263 карт., Старказьнікаў Ф., Віцебскі р.—626 карт., Сухабокова З., Сеньн. р.—196 карт., Сьлямнева А., Азярышч. р.—132 карт., Улазоўская М., Сеньн. р.—188 карт., Цітова Ал., Кузьн. р.—153 карт., Шашкоўскі А., Сеньн. р.—208 карт., Шчамянёў Б., Бешанк. р.—369 карт., Янушаў М., Бешанк. р.—266 карт.

### Гомельская акруга.

Карнажыцкі Л., Гомельскі пав., в. Стаўбун—143 карт., Карасікаў Л. Гомельскі пав., в. Старая—152 карт., Крукоўскі М., Гомельскі пав.—398 карт., Петрыкаў В., Церахоўскі р.—160 карт., Стрыбульскі В., Рачыцкі пав.—760 карт., Шульц Ів., с. Чыстыя Лужы—384 карт.

### б. Калінінская акруга.

Скотчайка Я., Касьцюковіцкі р.—108 карт., Шашалевіч Андрэй, Краснапольскі р.—3247 карт.

### Магілеўская акруга.

Багдановская Л., Лупалаўскі р.—176 карт., Гапонова В. Прапойскі р., в. Папараткі—321 карт., Іваноў П., Журавіцкі р.—117 карт., Камкова Ал., Магілеўскі р., в. Мікалаеўка—1503 карт., Марчанка Е., Прапойскі р.,—119 карт., Мацьвяёнак І., Быхаўскі р., м. Н. Быхаў—1178 карт., Масьлянцоў М., Прапойскі р.—358 карт., Радзівонаў С., Лупалаўскі р.—125 карт., Рыжанкаў Л., Журавіцкі р.—115 карт., Счэнсновічы браты., Быхаўскі р., в. Баркалабава—980 карт.

### Мазырская акруга.

Бруй М., Тураўскі р., м. Тураў—251 карт., Валатоўскі М., Азарыцкі р., вв. Крукавічы і Сышчыцы і Капаткев. р., в. Перабітая гара—337 карт., Гіляшоў С., Нараўлянскі р.—107 карт., Дарашэвіч В., Каленкавіцкі р., в. Слабада—110 карт., Жогла Д. Я., Каленкав. р., в. Раманаўка—117 карт., Жудра П. К. Капаткевіцкі р., в. Новасёлкі—179 карт., Казак П., Азарыцкі р., в. Воспін—228 карт., Кашней П., Нараўлянскі р., в. Міхалкі—123 карт., Крукоўскі А. Я., з розных месц—2128 карт., Ліпскі П. А., Капаткевіцкі р.—165 карт., Ліпскі І. А., Капаткевіцкі р.—125 карт., Мігай, Наряўлянскі р., в. Трайцюкі—154 карт., Навіцкая Н., Пятрыкоўскі р., в. Грабаў—182 карт., Пігулеўскі Ц. С., з розных месц—193 карт., Пількевіч І., Каленкавіцкі р., в. Гарбавічы—117 карт., Сасіна М., Каленкавіцкі р., в. Зеляночы—275 карт.

### Менская акруга.

Бабіцкі А., Смалявіцкі р., ур. Пасека—990 карт., Бяжок Р., Сьмілавіцкі р., в. Шасьціснопы—132 карт., Вашына К., Койданаўскі р.—2.783 карт., Вінаградаў Ів.

Чэрвенскі р.,—383 карт., Гурыновіч С., Шчацкі р.—991 карт., Дзяркач М., Сьмілав. р., в. Клянік—283 карт., Мацкевіч Ц., Заслаўскі р., в. Аксанаўшчына—215 карт., Мурашка С., Самахвалаўскі р.—1000 карт., Сапун, Я., Шчацкі р., в. Варонічы—265 карт., Сьвірыд Хв., Сьмілав. р., 319 карт., Шатэрнік М. Чэрвенскі р.—9177 карт.

**Полацкая акруга.**

Баброўскі У., Ушацкі р., в. Жэрчанічы—274 карт., Быкаў В., Ушацкі р.—661 карт., Сянькевіч А., Ушацкі р., в. Чарсьвяты 207 карт.

**Случчына.**

Будзька Я., с. Чырвоная Слабада—152 карт.,Ваўчок Л., Старобінскі р.—2015 карт., Казак Р., Слуцкі р., в. Еўлічы—355 карт., Калядка С., Слуцкі р., в. Бязьверхавічы—1343 карт., Касьцюк, Ів., Грэскі р., в. Папоўцы—222 карт., Мяцельскі А., Грэскі р., в. Дзюдава—194 карт., Пратасевіч У., Грэскі р., х. Навасёлкі—160 карт., Саладуха Ан. Грэскі р., в. Падлужжа—177 карт., Сямак Т., Старобінскі р., в. Цясова—181 карт., Ясінскі М., Слуцкі р., в. Каліта—146 карт., Яўхімчык Я., Капыльскі р., в., Валікая—109 карт.

Запішчыкам: Ваўчку Л., Вашыне К., Вінаградаву Ів., Гурыновічу Сьц., Казлоўскаму К., Капаневічу Ів., Мацьвяёнку Ів., Мурашка С., Самцэвічу П., Шашалевічу Андр. былі выданы з сродкаў Слоўнікавай Камісіі прэміі.

З паасобных раёнаў Савецкай Беларусі найбольш багата далі карткавага матар'ялу раёны:

Асіпавіцкі р., Бабруйскай акр.—1670 карт., Рагачэўскі р., Бабруйскай акр. да—2000 карт., Барэзінскі р., б. Барысаўскай акр.—1672 карт., Крупскі р. б. Барысаўскай акр.—1670 карт., Бешанкавіцкі р., Віцебскай акр.—6200 карт. Гарадокскі р., Віцебскай акр.—3245 карт., Азярышчынскі р., Віцебскай акр.—1430+123 кр. анан., Кузьнецкі р., Віцебскай акр.—4855+143 кр. анан., Мяжынскі р., Віцебскай акр. — Сеньненскі р., Віцебскай акр.—6455+2085 кр. анан., Чашніцкі р., Віцебскай акр.—1946 карт., Краснапольскі р., б. Калінінскай акр.—3200 карт., Быхаўскі р., Магілеўскай акр.—2400 карт., Лупалаўскі р., Магілеўскай акр. 1100 карт., Магілеўскі р., Магілеўскай акр.—2000 карт., Прапойскі р., Магілеўскай акр.—2640 карт., Койданаўскі р., Менскай акр.—3100 карт., Самахвалаўскі р., Менскай акр.—1100 карт., Смалявіцкі р., Менскай акр.—1500 карт., Сьмілавіцкі р., Менскай акр. 1100 карт., Шацкі р., Менскай акр.—1435 карт., Чэрвенскі р., Менскай акр.—да 8000 карт., Вушацкі р., Полацкае акр.,—1586 карт., Грэскі р., б. Слуцкай акр.—1125 карт., Капыльскі р., б. Слуцкай акр.—1442 карт., Слуцкі р., б. Слуцкай акр.—2154 карт., Старобінскі р., б. Слуцкай акр.—2454 карт., Каленкавіцкі р., Мазырскай акр.—3000 карт., Капаткевіцкі р., Мазырскай акр.—1600 карт., Нараўлянскі р., Мазырскай акр.—2200 карт.

Разглядаючы карткавы матар'ял, дастаўлены ў Слоўнікавую Камісію ІБК, з колькаснага боку, ня трэба забывацца і аб *якасным* баку гэтага матар'ялу.

Разумецца, што ня ўсе карткі, запісаныя на мясцох, будуць скарыстаны для акадэмічнага слоўніка. Напэўна, значны процант іх будзе забракаваны.

Сярод картак, што дасланы ў Слоўнікавую Камісію ІБК, ёсьць ня мала дублетаў, ёсьць карткі, напісаныя нячытэльна, бяз сэнсу,—нават няпісьменна.

Як агульнае правіла, нездавальняючымі зьяўляюцца карткі, дастаўленыя з *вучнёўскіх* краязнаўчых гурткоў.

Аб гэтых недахопах картак запішчыкаў яшчэ ў восені 1926 г. быў разасланы Слоўнікавай Камісіяй ІБК спэцыяльны ліст да краязнаўчых організацый (гл. журналы „Наш Край", 1926 г., № 10-11 і „Асьвета", 1926 г., № 6).

Аднак сярод картак ёсьць пэўны процант такіх, што даюць рэдкія, цікаўныя з лексычнага погляду словы.

Вось, напр., вынятка з водзыву рэдактара Слоўнікавай Камісіі ІБК проф. Бр. Іг. Эпімах-Шыпіла аб картках Ів. К. Мацьвяёнка з Быхаўскага раёну Магілеўшчыны.

„З лексычнага боку краткі даюць многа каштоўнага матар'ялу, бо больш 9% рэдкіх, цікавых, новых або з новым значэньнем, характэрных, трапных і зусім нячуваных прыгожых слоў, як—*бажадай*—пожалуй, *бліскуха*—маланка, *зэз:* толькі пачалі людзі касіць, як на той *зэз* пашоў дождж, *імжэль* у восень цэлымі днямі, як цераз сіта ліецца, *казàба*—хіба, расійск—разве: а *казаба* ты ня ведаў, што сяньні будзе сход, *перакараніўся* ўвесь яго род, а цяпер ад яго і сьледу няма, *коц*—саламяная мата на вакно, *чэмер*—паралич, цэлым карагодам лётаюць *салдацікі* (стрекозы), як табе *собіла* (угораздило) скінуцца з ганак? і многа іншых гэтым падобных".

І такія новыя, незарэгістраваныя ў ранейшых слоўніках беларускай мовы, словы знойдзены амаль у ўсіх запішчыкаў пры папярэдняй рэдакцыі 50% дастаўленых з месц картак-слоў.

Калі прыняць 9%, паказаныя ў водзыве, за сярэдні лік, дык з усіх 118.000 картак-слоў, сабраных на мясцох, можа выйсьці больш 10000 незарэгістраваных яшчэ беларускіх слоў, г. зн.—адна трэць „Словаря белорусского наречия" Ів. Насовіча.

Але асабліваe значэньне ў якасных адносінах мае разгляд „Беларуска-Расійскага слоўніка" М. Байкова і С. Некрашэвіча, арганізаваны ў 1927-1928 акадэмічным годзе.

Экзэмпляры слоўніка былі разасланы для такога разгляду ўва ўсе акруговыя т-вы краязнаўства і некаторым кваліфікаваным краязнаўцам па атрыманьні ад іх згоды на выкананьне заданьня Камісіі.

З краязнаўчых організацый даслала ў Слоўнікавую Камісію ІБК у вызначаны тэрмін (1 сакавіка 1928 г.) Аршанскае Т-ва Краязнаўства.

З паасобных краязнаўцаў даслалі свае разгляды:

*К. Вашына*, Самахвал. р., Менскай акр.,
*П. Самцэвіч*, в. Дакудава, Крупскага раёну,
*С. Калядка*,
*А. К. Сержпутоўскі* і
*А. Мяцельскі* са Случчыны,
*Андрэй Шашалевіч*, Краснапольскі р., б. Калінінскай акругі.

Гэтыя разгляды маюць перш за ўсё значэньне з сэмасіялёгічнага погляду.

Вось, напр., што кажа ў сваёй рэцэнзіі аб разглядзе П. Самцэвіча проф. Бр. Іг. Эпімах-Шыпіла:

„Самае багатае і самае каштоўнае ў разглядзе Самцэвіча, гэта—яго сьпіс слоў, каторыя апроч значэньняў, што даны ў слоўніку, маюць яшчэ іншыя. Выпіс такіх слоў, каля 680, зроблены Самцэвічам на асобных 27 аркушох, дзе даданы адно, два ці нават і болей значэньняў, якіх брак у слоўніку. Гэта вялікі сэмасіялёгічны матар'ял для слоўніка, якога ніхто яшчэ не даваў у такой колькасьці.

Багаты сэмасіялёгічны матар'ял даюць і выпраўленьні К. Вашыны і А. Шашалевіча.

Зразумела, што вялікай колькасьці новых слоў разгляды „Беларуска-Расійскага слоўніка" даць не маглі, бо ў ім запісана даволі значная колькасьць беларускіх слоў, асабліва тых, што розьняцца ад слоў расійскай мовы.

Аднак, усе-ж выпраўшчыкі далі на паасобных картках да 1500 новых слоў, незарэгістраваных у слоўніку.

Калі-ж лічыць да 20.000 выпраўленьняў да паасобных слоў з боку іх вымовы, націску, роду і інш., дык каштоўнасьць працы выпраўшчыкаў будзе выяўляцца з яшчэ большай яснасьцю.

Дадаючы выпраўленьні „Беларуска-Расійскага слоўніка“ да 119.000 картак-слоў, дастаўленых з месц у Слоўнікавую Камісію, маючы пры гэтым на ўвазе, што ў Калінінска-Амсьціслаўскім раёнах і Аршаншчыне сабрана minimum 20.000 картак для акруговых слоўнікаў, можна вывесьці, што слоўнікавая праца на мясцох у БССР за тры гады дасягнула значных посьпехаў.

Гэтыя посьпехі дасягнуты дзякуючы сумеснай працы Слоўнікавай Камісіі ІБК і краязнаўчых арганізацый БССР.

Зразумела, што дасягнутымі поспехамі абмежавацца ня можна. Нават, больш таго—ня трэба пераўвялічваць зробленыя дасягненьні, калі разглядаць іх, асабліва, у агульным маштабе дасьледваньня жывой беларускай народнай мовы. Правільна будзе сказаць, што зроблены толькі першыя крокі ў гэтым дасьледваньні,—і яшчэ застаецца шырокае поле для далейшай працы.

Папершае, неабходна, каб кожная акруга Беларусі мела свой краёвы слоўнік, які магчыма поўна адбіваў-бы мову гэтай акругі.

Падругое, будзе карысным дакладнае абсьледваньне мовы і паасобных раёнаў. Некаторыя раёны яшчэ слаба дасьледваны з лексыколёгічнага боку, нават у тых акругах, дзе ўкладзены краёвыя слоўнікі, напр., у Віцебшчыне—Сураскі, Лёзьненскі, Мяжынскі і Высачанскі раёны, у Мазыршчыне—Слабадзкі, Юравіцкі раёны. Наагул слаба дасьледаваны Полаччына і Гомельшчына.

У адносінах да раёнаў паўстае пытаньне аб укладаньні паасобных слоўнікаў кожнага раёну.

У „Нашым Краі“ за гэты год, № 1, была выдрукавана програмаінструкцыя, апрацаваная т. М. Касьпяровічам і разгледжаная Слоўнікавай і Дыялектолёгічнай камісіямі ІБК, „Як сабраць і ўкласьці слоўнік мовы свайго раёну“.

Гэтая програма зьявіцца добрым дапаможнікам для раённых краязнаўчых арганізацый у справе ўкладаньня раённых слоўнікаў.

Гэтыя слоўнікі будуць мець асаблівы інтарэс з дыялектолёгічнага погляду, чаму ў іх і патрэбна строга праводзіць прынцып фонэтычнага запісу беларускіх слоў.

Зразумела, што ўкладаньне раённых слоўнікаў—справа не аднаго году, а некалькіх, прынамсі, год.

У далейшыя гады таксама павінен ісьці і збор слоў для акадэмічнага слоўніка беларускай мовы. Запіс корэспондэнтамі рэдкіх, цікаўных слоў, якіх няма ў літаратурнай беларускай мове, і цікаўных фразэолёгічных зваротаў дапаможа спэцыялістым навукі з належнаю паўнатой ахапіць вялікае слоўнікавае багацьце жывой беларускай мовы.

---

А. Н. Ляўданскі.

# Краязнаўчыя організацыі і археолёгія.

У галіне вывучэньня археолёгіі Беларусі за апошнія дзесяць год праароблена вялікая работа. Досыць значная частка гэтай працы прыпадае на Цэнтр. Бюро Краязнаўства з яго краязнаўчымі організацыямі на мясцох. ЦБК, не адзін раз ставячы пытаньні вывучэньня археолёгічных помнікаў на краязнаўчых зьездах (1 і 2-гі Ўсебеларускія

Краязнаўчыя Зьезды) пленумах, садзейнічала абуджэньню інтарэсу да вывучэньня старасьветчыны на мясцох.

Я спынюся тут толькі на галоўных момантах яе, а менавіта: вучоце археолёгічных помнікаў, ахове іх, збору выпадковых знаходак і навукова-дасьледчай дзейнасьці.

### Вучот археолёгічных помнікаў.

У справе вучоту захаваўшыхся дагэтуль археолёгічных помнікаў на Беларусі (курганоў, гарадзішч і інш.) работа краязнаўцаў стаіць на першым месцы. Шляхам рассылкі ў 1924 годзе анкет („опросных листов“) аб археолёгічных помніках, былая Навукова-Экспэртная Камісія (існавала з 1923 па 1925 г.) атрымала вялікую колькасьць адказаў на іх краязнаўцаў, школ і інш. устаноў. Асабліва многа было атрымана адказаў з Магілеўскай, Калінінскай, Мазырскай і б. Барысаўскай акруг. Усе гэтыя анкетныя зьвесткі, як і пасьля атрыманыя мнагакалькасныя пісьмовыя паведамленьні і паведамленьні ў друку—„Нашым Краі“, „Савецкай Беларусі“, „Зьвязьдзе“, „Рабочым“, „Зары Захаду“, „Полымі“ і інш., ляглі ў аснову карткавага каталёгу Катэдры Археолёгіі Інбелкульту для складаньня археолёгічнай карты Беларусі. Адначасова са зьбіраньнем вестак аб археолёгічных помніках для ІБК, шмат якія акруговыя і нават раённыя краязнаўчыя т-вы пачалі складаць (ці вядуць падрыхтоўчую працу да складаньня) мясцовыя археолёгічныя карты, як, напрыклад, Аршанскае, Мазырскае і інш. краязнаўчыя т-вы. Асабліва ўзмацнілася гэтая работа пасьля 2-га Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду. І блізка той час, калі ўсе акруговыя т-вы будуць мець поўны вучот помнікаў старасьветчыны ў сваіх акругах і складуць археолёгічныя карты, на аснове якіх можна будзе з большай лёгкасьцю скласьці агульную археолёгічную карту ўсяе Беларусі. Было-б вельмі пажадана, каб краязнаўчыя т-вы ўсякі новы матар'ял аб помніках сабраны для складаньня сваіх мясцовых карт паведамлялі ў Катэдру Археолёгіі ІБК. Гэтым яны ў значнай меры дапамаглі-б Катэдры Археолёгіі пры складаньні плянаў археолёгічных досьледаў і яе плянаў экспэдыцый у тую альбо іншую мясцовасьць Беларусі.

### Ахова археолёгічных помнікаў.

У справе аховы помнікаў старасьветчыны ў БССР краязнаўчыя організацыі стаяць таксама на першым месцы. Камісія па Ахове помнікаў старасьветчыны і выданыя ў 1924 і 1926 г.г. Саўнаркомам БССР законы аб ахове помнікаў мастацтва і старасьветчыны [1]), а таксама агалошаны ў друку ў 1924 годзе абежнік Наркамасьветы аб парадку ўжываньня закону 1924 г., не дасягнулі-б сваёй мэты аховы, калі-б не пропаганда краязнаўцаў, а то і проста забарона разворваць, руйнаваць, забудоўваць, рабіць самачынныя, часта скарбашукальніцкія, раскопкі курганоў, гарадзішч і інш. Трэба констатаваць, што ахова археолёгічных помнікаў на мясцох краязнаўчымі організацыямі, якія разумеюць вялізарнае значэньне іх для вывучэньня мінулага, з кожным годам усё павялічваецца і павялічваецца. А Аршанскае краязнаўчае

---

[1]) Выданы Ўрадам БССР закон 5-га лютага 1924 г. гаворыць аб тым, што ўсе археолёгічныя помнікі зьяўляюцца дзяржаўнай маемасьцю (Збор законаў Рабоча-Сялянскага Ўраду БССР, 1926 г., № 28).

т-ва нават дабілася таго, што Акрвыканком у 1925 годзе выдаў пастанову аб ахове помнікаў старасьветчыны ў акрузе і абвясьціў археолёгічны заказьнік (курганны магільнік XI ст.) каля в. Чаркасова пад Воршай. Калі раней назіраліся вельмі часта самачынныя археолёгічныя раскопкі краязнаўчых т-ваў (аб раскопках паасобных краязнаўцаў, школ і інш. організацый гаварыць ня прыходзіцца), то ў сучасны момант яны амаль зусім не назіраюцца. Але затое яшчэ, на жаль, маюць месца раскопкі некаторых настаўнікаў, а таксама і выпадковыя раскопкі паасобных краязнаўцаў, і проста аматараў, якія цікавяцца, што ёсьць у тым альбо іншым кургане ці гарадзішчы. Гэтымі выпадковымі раскопкамі, а тым больш выпадковымі, зусім не падрыхтаванымі да гэтай спэцыяльнасьці людзьмі, прыносіцца аграмадная шкода навуцы. Усе павінны ведаць і памятаць, што археолёгічныя раскопкі ў БССР маюць права рабіць (а таксама і даваць належныя дазволы спэцыялістым на раскопкі) толькі Катэдра Археолёгіі Беларускай Акадэміі Навук. Усе сьвядомыя грамадзяне, а тым больш краязнаўцы, павінны ўсяляк перашкаджаць незаконным раскопкам.

## Выпадковыя знахадкі.

Краязнаўцы ў справе зьбіраньня выпадковых знахадак археолёгічнага характару стаяць на першым месцы. Трэба адзначыць, што Беларусь, асабліва яе паўночная частка, вельмі багата выпадковымі знахадкамі каменных прылад: малаткоў, клікноў-сякер, стрэлак і інш. і вельмі рэдка бронзавых кельтаў (сякер). Знаходзяць іх у вялікай колькасьці па ральлі, пры розных земляных работах, па берагох рэк, вазёр і ў інш. мясцох. Большасьць каменных малаткоў і кліньняў адносіцца да пераходнага часу ад каменнага веку (праз век медзі і бронзы) да жалезнага. Служылі яны чалавеку для розных мэт—паляваньня, вырубу дрэў, даўбленьня чаўноў, бойкі і інш. Для навукі яны вельмі цікавы. Гэтак, напрыклад, па знахадках крамнёвых стрэл, крамнёвых пласьцінак-нажоў, кліноў і інш. ўсюды можна знайсьці стаянкі (месца жыцьця) людзей каменнага і бронзавага вякоў. Такіх прыклад у археолёгіі ёсьць вельмі многа. Па форме і апрацоўцы малаткоў і іншых прадметаў можна прасачыць распаўсюджваньне тэй альбо іншай культуры, яны дапамагаюць высьветліць перамяшчэньне тых альбо іншых народаў у дагістарычныя часы.

Выпадковых знахадак за пасьлярэволюцыйныя часы сабрана на Беларусі вельмі многа. Вялікая колькасьць іх паступіла ў Бел. Дзярж. Музэі ў Менску, Віцебску і менш у музэі Магілеву і Гомлю. Маюцца яны і ўва ўсіх краязнаўчых музэях, і іншы раз у вялікай колькасьці (Асьвея і інш.); няма амаль ніводнай школы, каб там ня было тэй альбо іншай каменнай прылады (малатка, кліна і інш.). Яшчэ больш іх знаходзіцца на руках у сялян, якія ня ведаючы аб іх паходжэньні, прыймаюць іх часта за громовыя стрэлы „пяруноўкі" і ўжываюць іх для лячэньня розных хвароб, як у людзей, так і жывёлы, а таксама ўжываюць іх ад папярэджаньня пажараў, udараў маланкі і інш. Задача ўсіх краязнаўцаў старацца рознымі спосабамі зьбіраць гэтыя прылады ў свае музэі і растлумачваць сэнс іх паходжэньня. На жаль, ня ўсе краязнаўцы (у тым ліку настаўнікі і вучні) уяўляюць сабе значэньне для навукі гэтых знахадак. Прыходзіцца часта назіраць, як у школьных музэях і нават краязнаўчых (Полацак і інш.) знахадкі не запісваюцца адкуль паступілі і дзе знойдзены, ня ставяцца на іх нумары,

дзеля чаго з працягам часу забываюцца адкуль яны і робяцца беспашпартнымі, а часта і проста губляюцца. Многія знахадкі, не запісаныя ў інвэнтар музэйчыку з пераходам настаўніка ў другую школу (прыклад в. Юр'ева, Смалявіцкага р. і інш.) альбо на другую работу, перавозяцца з месца на месца і з працягам часу робяцца таксама беспашпартнымі, а значыць страціўшымі сваё значэньне для навукі.

Усё вышэйсказанае аднолькава адносіцца і да знахадак монэт, бронзавых і жалезных прадметаў. Задача краязнаўцаў ня толькі старацца іх зьбіраць і любоўна захоўваць, але і паведамляць аб гэтых знахадках ці перасылаць іх для вывучэньня Катэдры Археолёгіі Бел. Акадэміі Навук. А то атрымліваецца вельмі ненормальнае зьявішча, што знахадкі, якія захоўваюцца ў школах і краязнаўчых музэях і якія зьяўляюцца вялікай навуковай каштоўнасьцю, ляжаць незразумелымі і для краязнаўцаў, і нескарыстанымі навукай. Варта паказаць на адзін цікавы выпадак захоўваньня бронзавага кельта (сякеры) ў Леплі. Такіх прылад на Беларусі вядома пакуль што толькі 3; яны надзвычайна каштоўны для навукі, але лепельскія краязнаўцы ня толькі не паведамілі Інбелкульт і ЦБК аб кельце, але і на просьбу Катэдры Археолёгіі выслаць яго для вывучэньня, ня высылаюць. А такіх прыкрых зьвішч яшчэ вельмі многа.

Тое самае можна сказаць і аб знахадках касьцей дагістарычных жывёл (маманта, насарога і інш.). На тэрыторыі БССР ужо вядома звыш 70 пунктаў, дзе знойдзены косьці гэтых даўно вымершых жывёл. Знаходзяць гэтыя косьці часта ў зрывах берагоў рэк і вазёр, рвох і пры ўсякага роду земляных работах. Аб многіх знахадках краязнаўцы паведамлялі ЦБК і Інбелкульт, але вялікая колькасьць выпадкаў аб знахадках касьцей памянёных жывёл Інбелкульту невядома. Між тым як знахадкі гэтыя вельмі каштоўны як для геолёгіі, палеонтолёгіі, гэтак і для археолёгіі. Часта здараецца, што выпадковая знахадка касьцей вядзе да адкрыцьця паліолётычных (старакаменнага веку) стаянак першабытнага чалавека, што было і з адкрытай К. М. Палікарповічам такой стаянкай (першай на Беларусі) на р. Сажы недалёка ад в. Бярдыж, Гомельскае акр.

З усяго вышэйсказанага становіцца ясным, якое вялікае значэньне маюць выпадковыя знахадкі, але раскопкі рабіць на тых мясцох, дзе была знойдзена тая ці іншая рэч, ці косьці жывёл, таксама забараняецца без дазволу Катэдры Археолёгіі Бел. Акадэміі Навук.

## Навукова-дасьледчая праца.

Навукова-дасьледчая праца краязнаўцаў працякала галоўным чынам у разьведках і абсьледваньні помнікаў старасьветчыны, г. зн. апісваліся новыя стаянкі, гарадзішчы, курганы і інш., рабіліся пляны, зарысоўкі і фотографіі, зьбіраліся на паверхні зямлі археолёгічныя матар'ялы (каменныя і мэталёвыя прадметы, абломкі пасуды і інш.) тых помнікаў, якія руйнаваліся прыродай і чалавекам. У гэтай галіне краязнаўцамі праароблена вялікая работа, асабліва ў апошнія 3-4 гады, калі шырака разгарнулася краязнаўчая праца на Беларусі. Мала таго, што краязнаўцы рабілі дасьледваньні, яны часта зьмяшчалі зьвесткі і артыкулы ў газэтах, часопісах[1]).

[1]) Мялешка М. В. „Нашы старажытнасьці", „Вольны Сьцяг", 6(8), 1921 г.
Касьпяровіч М. І. „Старажытнасьці Случчыны", „Савецкая Беларусь", № 105, 1924 г.

Цікавыя досьледы 1923-27 г.г. краязнаўца-студэнта С. С. Шутава ў ваколіцах Н. Быхава, якім адкрыты цэлы шэраг стаянак і сабрана многа прадметаў, з якіх адзін—бронзавы кельт па сваёй форме ўпяршыню сустрэўся на Беларусі. Цікавы дасьледчыя работы краязнаўца-студэнта А. Зьм. Каваленi, які самастойна зрабіў цэлы шэраг досьледаў гарадзішч і селішч за 1925-1928 г. у розных мясцох Беларусі, а таксама і Г. Калодкіна, мазырскага краязнаўца, які адкрыў у 1927 г. цэлы шэраг стаянак на р. Прыпяці і яе ўтоках і занёс і іх на карту; ім-жа адкрыта некалькі стаянак і гарадзішч каля Віцебску. Сабраныя ім матар'ял вельмі каштоўны для навукі. Цікавыя раскопкі ў Гомельскай акрузе зрабілі гомельскія краязнаўцы: І. Х. Юшчанка—Любэнскае гарадзішча (1926-27 г.г.) і С. Х. Бабарыкін—7 курганаў пад Чачэрскам (1924 г.). Зроблены раскопкі кургаНоў каля Віцебску А. К. Супінскім (Віцебскі зборнік № 1, 1925 г., стар. 18-21). На раскопках іншых краязнаўцаў і наогул усякага роду аматараў я спыняцца ня буду, бо яны рабіліся несьвядомымі ў археолёгіі асобамі і прынесьлі толькі шкоду для навукі.

У Койданаўскім раёне І. Т. Шпілеўскім адкрыты цікавыя гарадзішчы і курганы. Зробленыя Катэдрай Археолёгіі раскопкі гэтых помнікаў, пры ўдзеле І. Т. Шпілеўскага і С. К. Жураўскага, далі багаты для навукі матар'ял.

Вельмі цікавы краязнаўчыя экспэдыцыі, наладжаныя Краязнаўчым Т-вам студэнтаў Бел. Дзярж. Унівэрсытэту. У першай экспэдыцыі 1926 г. па р. Сьвіслачы студ. Шутавым і Ўлашчыкам выяўлены і ўпяршыню абсьледваны цэлы шэраг даслявянскіх і славянскіх гарадзішч, селішч і курганаў і зроблены пляны гэтых помнікаў.

У другой экспэдыцыі 1927 г. на Мазыршчыну студ. Каваленяй, Шутавым і мясцовым краязнаўцам Калодкіным зроблена яшчэ вялікая работа. Тут абсьледваны таксама ўпяршыню цэлы шэраг гарадзішч (у тым ліку і Тураўскае), селішч, стаянак, магіл і кургаНоў, якія руйнуюцца. Зьняты пляны, сабраны вельмі цікавы навуковы матар'ял, які паказвае на новыя культуры, якія да гэтага часу былі невядомы, на тэрыторыі БССР.

У трэцяй экспэдыцыі 1928 г. у Ушацкі раён, Полацкае акр. студэнты БДУ на чале з І. А. Сэрбавым зрабілі цэлы шэраг абсьлед-

---

Работа Губбюро Краеведения. „Полесская Правда". Гомель, 1924, № 230; Наука и Техника, 1925, № 43.

Супінскі А. К. Магільнік каля в. Лятох. Віцебшчына. Зборнік І, Віцебск, 1925, стар. 18-21.

Артыкулы Юшчанкі: „Палеская Праўда", Гомель. 1925, № 259. „1926 № 205, „Рабочий Досуг", № 2, дадатак да „Полесск. Правды", 1026, ст. 12-13; „Искра Ильича". Гомель, 1927, № 15-19; „Набат Молодежи". Гомель. 1925, № 80; „Вечерняя Москва". 1926, № ад 5/X; „В Помощь Просвещенцу". Гомель. 1926, № 14, стр. 120—123; Даўгяла З. І. Новыя раскопкі каля Гомеля.—Гіст. Археолёг. Зборнік, № 1, стар. 363—364.

Зьмешчаны ў часопісу „Наш Край" наступныя артыкулы: Васілеўскі Д. З. З матар'ялаў да арх. карты Аршанскае акругі. 1926. № 6-7, стар. 64-67. Яго-ж. Помнікі старасьветчыны на Аршаншчыне „Полымя". 1927, № 2, стар. 40—44.

Вінаградаў Г. Л. Сівыя сьведкі мінулага Чэрвеншчыны. 1916, № 8-9, стар. 59-61 Зянюк Я. З кіем па раёну (Случчына) 1926, № 8-9, стар. 62-64; Крукоўскі А. Я. Старадаўні Тураў, 1926, № 8-9, стар. 51-55; Яго-ж. Горад Мазыр і яго ваколіцы. 1927, № 3, стар. 16-28; Нямцоў—Экскурсія вучняў Асіпавіцкай сямігодкі. 1925, № 2. ст. 21-25; Сяргеенка Я. Гарадзішча ў Бабынавічах. 1926, № 8-9. ст. 56-58; Федарака. Помнікі старасьветчыны ў Мазыршчыне, 1926 г. № 4-5, ст. 51-52.

Аб Чаркасове: „Зьвязда" 1927, № 45; „Сав. Беларусь", 1926, № 138; 1927, № 45. Аб ст. Дзедзіне: „Зьвязда" 1926, № 153, 157; „Сав. Беларусь". 1926, № 164, „Наш Працаўнік". Клімавічы, 1926, № 51 (артыкул Фралова). Друкаваліся ў „Савецкай Беларусі" за 1923 г. артыкулы А. Я. Рынейскага па археолёгіі Бабруйшчыны і шмат інш.

ваньняў цікавых гарадзішч і раскапана да 8 курганаў X-XI стагодзьдзя, якімі так багата р. Ушач. У гэтым-жа раёне студ. Шутавым упяршыню адкрыта нэолітычная стаянка каля в. Гараны.

У чацьвертай экспэдыцыі 1928 г. у Дубровенскі раён, Аршанскае акр. І. А. Сербаў і С. К. Жураўскі абсьледвалі да дзесяці гарадзішч і раскапалі адзін курган. У апошніх двух экспэдыцыях, апрача плянаў, зроблены цэлы шэраг фотографічных здымкаў.

Адзначым яшчэ работы членаў ЦБК Жураўскага і Касьпяровіча, якімі сабрана ў часе камандыровак 1927-28 г.г. у Краязнаўчыя Т-вы на раёны шмат даных аб гарадзішчах і курганох. Асабліва многа сабрана даных аб курганох і гарадзішчах Касьпяровічам, якім былі разасланы ў 1928 г. да дзесяці тысяч анкет аб валатоўках.

У час археолёгічных экспэдыцый, асабліва 1928 г., організаваных Катэдрай Археолёгіі ІБК, краязнаўцы на мясцох аказвалі ўсякую дапамогу і прымалі шчыры ўдзел у работах. Гэтак, напрыклад, у час раскопак Бердыскай стаянкі на Сажы, Гомельскай акр., прымалі ўдзел у раскопках, апрача студэнтаў Кавалені, Шутава, Улашчыка і Рытар, гомельскія краязнаўцы Бабарыкін, Юшчанка і Калодкін з Віцебску. Дапамагалі ў працы экспэдыцыі магілеўскія краязнаўцы т. Вянюкоў і інш., а таксама Аршанскія краязнаўцы Дм. Васілеўскі і П. А. Вашкевіч; яны нават выдзелілі ад Раённага Т-ва 70 руб. на раскопкі Аршанскага гарадзішча і Чаркасоўскіх курганоў. Дапамаглі ў рабоце і полацкія краязнаўцы Мялешка, Лаўроўскі, Дадон і інш. Віцебскія краязнаўцы Супінскі, Калодкін, і настаўнік-краязнаўца Ст. Сяла М. А. Палякоў прымалі ўдзел у раскопках курганоў і гарадзішч каля Ст. Сяла пад Віцебскам і аказвалі, разам з Багароцкім і Віцебскім музэямі экспэдыцыі ўсякую дапамогу. Словам, куды-б археолёгічныя экспэдыцыі (як і іншыя) ні прыбывалі, ім дапамагалі краязнаўцы і школы.

Усе вышэйадзначаныя работы краязнаўчых організацый на чале з Цэнтральным Бюро Краязнаўства і паасобных краязнаўцаў у гэтым невялічкім артыкуле ня вычарпаны[1]), але і з гэтага кароткага пераліку відаць, якую аграмадную дапамогу аказалі яны ў справе вывучэньня мінулага за апошняе дзесяцігодзьдзе. У надыходзячым дзесяцігодзьдзі мірнага соцыялістычнага будаўніцтва будзем мець надзею, што будзе зроблена яшчэ больш.

Урэшце Катэдра Археолёгіі ІБК зьвяртаецца да ўсіх краязнаўцаў, настаўнікаў, студэнтаў і вучняў з наступным:

1. Весьці пропаганду па ахове помнікаў старасьветчыны і ўстрымліваецца ад самачынных раскопак;

2. Зьбіраць зьвесткі аб помніках старасьветчыны;

3. Рабіць патрэбныя абсьледваньні і апісаньні, рабіць па магчымасьці, зарысоўкі, пляны і фотографіі;

4. Зьбіраючы зьвесткі аб помніках старасьветчыны (стаянках, гарадзішчах, селішчах, курганох) і выпадковых знаходках, па магчымасьці, заносіць іх на карту;

5. Увесь пералічаны матар'ял, а таксама і археолёгічныя прадметы перасылаць у ЦБК альбо Катэдру Археолёгіі Беларускай Акадэміі Навук[2]).

---

[1]) Указаньні аб работах краязнаўцаў за 10 год існаваньня БССР зьмешчаны яшчэ ў вып. І „Прац" Катэдры Археолёгіі ІБК за 1928 год.

[2]) Лісты і пасылкі да 16 кілё на імя ЦБК і Беларускай Акадэміі Навук перасылаюцца па пошце дарма.

Р. Пяцэвіч, У. Мікіцінскі, П. Ажэўскі.

# Краязнаўчы рух на Случчыне.

*(Да пяцігодзьдзя Слуцкага Краязнаўчага Таварыства).*

### Агульны гістарычны агляд і сучасны стан[1]).

Пачатак краязнаўчае працы на Случчыне трэба аднесьці да 1918 году, калі тут заснавалася Культурна-Асьветнае Таварыства „Папараць-кветка“.

Праца Т-ва хутка пашырылася: яно мела ў самым Слуцку звыш 150 сяброў, апрача таго дзьве філіі на павеце: „Крыніцу“ ў Старыцы і „Зорку“ ў Ліпнікох. Таварыства выдавала часопіс „Наша Каляіна“. Дзейнасьць яго выявілася ў зьбіраньні фольклёру, папулярызацыі ведаў пра Беларусь і распаўсюджваньні кніжак на беларускай мове, якіх за кароткі час снаваньня таварыства было пашырана праз філіі звыш 10.000.

У 1921 годзе таварыства „Папараць-кветка“ зачынілася. У гэты час быў організаваны Слуцкі Павятовы Аддзел Народнае Асьветы, які ставіў сабе мэтай пашырэньне беларускай культуры і вывучэньне пытаньняў краязнаўства. Зараз-жа Аддзел даручыў аднаму з сяброў Таварыства „Папараць кветка“ Андрэю Бараноўскаму распачаць працу па зьбіраньні і захаваньні рэчаў культурна-краёвага значэньня, для чаго адвёў пакой у будынку былой гімназіі і палажыў яму зарплату па стаўцы настаўніка. Такім чынам быў паложаны пачатак заснаваньню ў Слуцку краязнаўчага музэю. Але ў хуткім часе выявілася, што Павятовы Аддзел, які ў тыя часы меў шмат працы, ня можа аддаць належнага часу і сродкаў на пашырэньне чыста краёвай працы, таму ён стаў клапаціцца аб заснаваньні асобнай камісіі, з шырокім удзелам у ёй зацікаўленых асоб, па прынцыпу дабраахвотнасьці. У выніку ўсяго гэтага ў верасьні 1922 г. і была заснавана Слуцкая Павятовая Камісія Беларусазнаўства, пры Павятовым Аддзеле Народнае Асьветы; яна праіснавала год, да верасьня 1923 г., калі і была рэорганізавана ў Слуцкае Павятовае Таварыства Краязнаўства.

Камісія мела мэтаю: 1) Апанаваньне ведамі пра Беларусь, якія былі назапашаны да часу заснаваньня камісіі, 2) распрацоўку мэтодычных пытаньняў выкладаньня комплексу ведаў аб Беларусі, гэта значыць, беларусазнаўства ў школах, і 3) вывучэньне і дасьледваньне Беларусі, асабліва былога Слуцкага Павету. Камісія складалася пераважна з асьветнікаў, выкладчыкаў беларусазнаўства ў школах, інспэктароў соцыяльнага выхаваньня і іншых. За час свайго існаваньня яна прарабіла вялізарную, для таго часу, працу, якая выклікала водгукі на старонках „Полымя“, „Савецкай Беларусі“ і інш. Гэтаму спрыяла тое, што праца камісіі мела сваім прадметам пераважна заданьні сучаснасьці.

Камісар Народнае Асьветы Беларусі Ў. Ігнатоўскі, у часе свайго побыту ў Слуцку, ухваліў працу камісіі і даручыў Павятоваму Аддзелу Народнае Асьветы і надалей дапамагаць пашырэньню гэтай працы. Адбывалася яна ў двух кірунках: асьветнага беларусазнаўства

[1]) Усе весткі аб Слуцкай павятовай камісіі беларусазнаўства ўзяты намі з надасланай нам к гадавіне т. Касьпяровічам копіі яго артыкулу, які друкуецца ў брошуры „Краязнаўства“.

і краязнаўства наогул. У першым кірунку дзейнасьць камісіі выявілася ў скліканьні сходаў і агульна-гарадзкіх і павятовых беларусазнаўчых конфэрэнцый. На іх, адпаведна вымаганьням часу і патрэбам асьветнай працы Случчыны, заслухоўваліся даклады, якія мелі дапамагаць выкладчыку беларусазнаўства ў яго школьнай працы: аб творчасьці М. Чарота, аб прозе Гартнага, аб стане Беларусі пасьля Люблінскае вуніі, аб рэволюцыйным руху на Беларусі, а таксама даклады аб спосабах і задачах выкладаньня беларусазнаўства ў школе.

Паваротнымі ў апошняй галіне былі агульна-гарадзкая беларусазнаўчая конфэрэнцыя—18 кастрычніка 1922 г. і павятовая—15-17 студзеня 1923 г. У працы апошняй прымалі ўдзел выкладчыкі прадметаў беларусазнаўства поўных і няпоўных сямігодак Слуцкага павету ў ліку 27 асоб, прадстаўнік Камісарыяту Асьветы, інструктары соцыяльнага выхаваньня і госьці. Былі абмеркаваны наступныя даклады: аб выкладаньні географіі Беларусі, аб мэтодах выкладаньня гісторыі Беларусі, аб выкладаньні беларускае мовы, аб пісьмовых працах вучняў на беларускай мове. Конфэрэнцыя прызнала тэрмін беларусазнаўства ў стасунках да працоўнай школы на Беларусі лічыць архаічным і неадпаведным, разумеючы, што працоўная школа на Беларусі павінна быць цалкам пабудавана на прынцыпах радзімазнаўства. Тыя-ж прадметы, якія мы прывыклі разумець пад беларусазнаўствам: беларуская мова, літаратура, географія і гісторыя Беларусі, зьяўляюцца, па думцы конфэрэнцыі, толькі часткай беларусазнаўства і як гэткія, не павінны выдзяляцца ў асобную групу, а павінны цесна злучацца з іншымі прадметамі і ўзаемна дапаўняцца. Загадчыкі школ і школьныя рады павінны імкнуцца да таго, каб выводзіць нашу школу на шлях радзімазнаўства; пры выкладаньні беларускай мовы ў малодшых групах, грунтавацца на жывой народнай мове данай мясцовасьці, дзе знаходзіцца школа. Усебаковае вывучэньне на лекцыях географіі прыродных багацьцяў краю і заняткаў насельнікаў павінна даць цьвёрды грунт масам вучнёўскае моладзі, для далейшай працы ў справе экономічнага адраджэньня краю. Гэтыя думкі конфэрэнцыі, побач з іншымі, упяршыню сказалі масцовае цьвёрдае слова аб школьным краязнаўстве.

У галіне краязнаўчай дзейнасьць Слуцкай павятовай камісіі беларусазнаўства выявілася ў заслухоўваньні дакладаў па школьным краязнаўстве, выпрацоўцы анкет і програм, пашырэньні музэю, наладжваньні экскурсіі і популярызацыі ідэй краязнаўства. З прычыны адсутнасьці ў Слуцку патрэбных архіваў і бібліотэк, а таксама неабходнасьці ўсебакова ведаць Случчыну, дзеля беспамылковага будаваньня яе новага жыцьця, камісія ўсю сваю ўвагу сконцэнтравала на вывучэньні сучаснага яе становішча ў самых разнастайных галінах. Адпаведна гэтаму на сходах камісіі абмяркоўваліся наступныя даклады: школа на Случчыне, Слуцкія паясы, соцыяльнае выхаваньне на Случчыне, вывучэньне беларускага мастацтва наогул і народнага мастацтва Случчыны організацыя і плян Слуцкага музэю радзімазнаўства і школьныя радзімазнаўчыя музэі. Кароткі зьмест гэтых дакладаў пазьней друкаваўся ў газэце „Савецкая Беларусь“. Для зьбіраньня патрэбных матар‘ялаў, камісія організоўвага экспэдыцыі. Фактычнае кіраўніцтва Слуцкай павятовай сельска-гаспадарчай выстаўкай з этнографічным аддзелам у 1923 г. наладжана таксама камісіяй беларусазнаўства. Запісваньне фольклёру рабілася настаўнікамі і вучнямі на мясцох, якія прысылаліся ў камісію. Рассылаліся таксама анкеты, на якія атрымоўваліся з месц адказы. Камісіяй організоўваліся экскурсіі з розных месц

павету ў Слуцак і са Слуцку на павет. Для пашырэньня музэйнай працы была вылучана асобная падкамісія, якая ў першую чаргу занялася зьбіраньнем і захоўваньнем тых рэчаў, якія маглі зьнікнуць. Пад кіраўніцтвам падкамісіі, пачаў засноўвацца шэраг валасных радзімазнаўчых музэяў. Апрача таго падкамісія клапацілася аховаю мясцовых помнікаў старасьветчыны, якімі так багата Случчына. Папулярызацыя ідэй краязнаўства і працы самой камісіі рабілася сябрамі праз пэрыодычны друк і даклады на сходах настаўнікаў, комсамольцаў, вучняў, піонэраў і т. д. Па валасьцёх было зроблена звыш 40 такіх дакладаў, інспэктарамі соцыяльнага выхаваньня,—сябрамі камісіі. Для пашырэньня пропаганды ідэі і ведаў аб сваім краі было ўтворана асобнае лектарскае бюро камісіі, якое наладзіла шэраг лэкцый у горадзе, а таксама некалькі па розных кірмашох у Слуцку. На ўсім працягу сваёй дзейнасьці, камісія трымала моцную сувязь з Павятовым зямельным аддзелам, мясцовым земляробчым тэхнікумам і іншымі ўстановамі, што значна паляпшала яе працу. Аб працы камісіі ў свой час друкавалася ў розных пэрыодычных выданьнях.

У верасьні 1923 г. дзякуючы таму, што пільная патрэба вырашэньня тэрміновых пытаньняў асьветнага краязнаўства была задаволена працай камісіі, яна рэорганізавалася ў навукова-дасьледчую організацыю—Слуцкае Павятовае Таварыства Краязнаўства. Глеба для існаваньня Таварыства была настолькі падрыхтавана, што ў першым месяцы ў склад яго ўвайшло больш за 100 чалавек розных працаўнікоў. Статут Таварыства быў зацьверджаны Аддзелам Народнай Асьветы, і праца, распачатая папярэдняй камісіяй, значна ажывілася. Але хутка падышоў перапынак яе. Да лістапада месяца ўсе асобы, якія стаялі на чале праўленьня, у тым ліку і загадчык музэю, пакінулі Слуцак. Краязнаўчая праца зусім спынілася да вясны 1925 г., калі адбыўся сход зацікаўленых асоб, які і заснаваў Слуцкае Акруговае Таварыства Краязнаўства. Летам праца зноў спынілася і аднавілася толькі 22 лістапада 1925 г., калі зацьверджаны быў АВК сталы статут таварыства, апрацаваны ЦБК. З гэтага часу і да ліквідацыі Слуцкае Акругі, дзейнасьць Таварыства была вельмі жвавай, дзякуючы ўважлівым адносінам Акрвыканкому, які дапамагаў таварыству матар'яльнымі сродкамі, асыгноўваючы іх на розныя мэты: экскурсіі, конфэрэнцыю, таксама водпускам сродкаў у каштарысным парадку; так у 1926 годзе было асыгнавана 100 р. на экскурсіі, а ў 1926—1927 бюджэтным годзе адпушчана па каштарысу на ўтрыманьне музэю і на краязнавчую працу 1000 руб. Апрача гэтага Акрвыканком дапамагаў вярбоўцы сяброў Таварыства, і быў час, калі ўсе працаўнікі яго цалкам уваходзілі ў склад Акруговага Таварыства Краязнаўства. Вынікам гэтага было тое, што ў 1925-26 годзе агульных сходаў Т-ва, на якіх прысутнічала ад 40 да 100 сяброў, было 6, а пасяджэньняў праўленьня 27. Усяго сяброў таварыства лічылася 100 чалавек: беларусоў 60, яўрэяў 35, палякаў—5; партыйных 7, беспартыйных 93. Настаўнікаў—45, вучняў—40 і іншых—15. Сябры таварыства падзяляліся на сэкцыі і вялі працу паводле распрацаванага пляну. Усіх сэкцый было 5, а) музэйная 32 сяброў, б) прыродна-географічная—20 сяброў, в) культурна-гістарычная—21 чалавек., г) этнографічна-эканомічная—27 асоб, д) юнсэкцыя з бягучым лікам асоб; апрача таго працавала слоўнікавая камісія—37 асоб. На раёнах былі краязнаўчыя гурткі: Чырвона-Слабодзкі, Грозаўскі, Копыльскі і Стара-Дароскі, з агульным лікам 120 сяброў. Гурткі таксама

працавалі пры школах-сямігодках: Любаньскай, Пагосцкай, Старобінскай, Ленінскай і пры Слуцкіх агульна-адукацыйных курсах.

На агульных сходах і сходах праўленьня заслухоўваліся даклады і вырашаліся наступныя пытаньні: мэты краязнаўства, пабудова музэю і музэйная праца, гісторыя гор. Слуцку, слоўнікавая праца і праца іншых сэкцый, краязнаўчыя экскурсіі, папулярызацыя працы па раёнах



**Актыў Слуцкага Раённа-Гарадзкога Т-ва Краязнаўства 1928 г.**

Зьлева направа сядзяць: С. Куровіч, Ю. Саляновіч, Т. Бахановіч, Р. Пяцэвіч, К. Касьцюк, У. Мікіцінскі, В. Нямковіч. Адсутнічае П. Ажэўскі.
Стаяць: К. Пражога, К. Аўгусьцінскі, В. Мікіцінскі, П. Кацярыніч, І. Крыцкі. Б. Русак, А. Крываль.

праз інструктароў і організаваны плян вывучэньня Капыльскага раёну. Па сэкцыях праца выканана наступная: Этнографічна-экономічная сабрала 300 песень і казак Случчыны, кароткі нарыс Случчыны ў этнографічным, географічным і экономічным напрамку, экзэмпляр яго быў адасланы ў Інбелкульт для часопісу „Наш Край“. Прыродна-географічная сэкцыя апрацавала 100 відаў расьлін Случчыны, вывучала жывёлы і расьліны Случчыны. Культурна-гістарычная сэкцыя здабыла і перамалявала плян гораду Слуцку 1780 г., агледзела і ўзяла на вучот помнікі старасьветчыны Слуцку, вывучала гісторыю гораду і рэволюцыйнага руху сярод сялянства ў 1905 г. і таксама вывучала жыцьцё яўрэяў на Случчыне. Музэйная сэкцыя дабілася адводу памяшканьня пад музэй, перавязла архіў Кальвінскага касьцёлу, сабрала і пашырыла бібліотэку, злажыла і распаўсюдзіла адозву па акрузе аб ахвяраваньні музэйных рэчаў. Слоўнікавая камісія сабрала 1000 слоў мясцовай мовы. Акруговае Т-ва мела бюджэт 430 рублёў, якія злажыліся з асыгнаваньняў Інбелкульту 300 рублёў, Акрвыканкому—100 р. і сяброўскіх узносаў 30 руб. Га-

лоўны выдатак гэтых сродкаў пайшоў на абсталяваньне музэю, 150 р. на Акруговую конфэрэнцыю, якая адбылася 23 і 24 кастрычніка 1926 г. На гэтай конфэрэнцыі, якая праводзілася пры ўдзеле прадстаўніка ЦБК тав. Казака, прысутнічалі 41 дэлегат Т-ва. На ёй абгаварваліся пытаньні: 1) Справаздача Акруговага Праўленьня і двух раённых таварыстваў: Грэскага, Любаньскага і аднаго гуртка пры Пагосцкай сямігодцы. 2) Задачы і мэты краязнаўства і аб далейшай працы па акрузе. 3) Краязнаўства і школа. 4) Выбары Праўленьня. 5) Рознае.

Конфэрэнцыя ўхваліла плян працы Т-ва на 1926—1927 г., які быў вельмі вялікі, не адпавядаў сілам і ўмовам працы і быў выкананы толькі часткова. Плян будаваўся па трох галінах: 1) Організацыя Т-ва. 2) Популярызацыя працы яго. 3) Дэталізацыя самой працы. Па першаму моманту прадбачылася організацыя сэкцыі, наладжваньне пасяджэньняў праўленьня і агульных сходаў, організацыя раённых таварыстваў і гурткоў па сельсаветах і школах. Значная ўвага адводзілася ўцягненьню сяброў у Т-ва, як па Саюзе Працасьветы, так і па іншых. Популярызацыяй працы прадбачылася асьвятленьне перад працоўнымі масамі ідэй краязнаўства на сходах сяброў саюзаў шляхам дакладаў, лекцый, друкаваньнем вестак аб краязнаўчай працы на мясцох у газэтах і пэрыодычных выданьнях, як часопіс „Наш Край", папаўненьне краязнаўчых бібліотэк, выдзеліць лектарскае бюро, прасіць Інбелкульт камандыраваць з цэнтру лектароў па навучна-краязнаўчых пытаньнях, уцягнуць у працу ЛКСМ з мэтаю скарыстаць маладыя, актыўныя сілы дзеля вывучэньня краю.

У напрамку конкрэтызацыі даваліся заданьні праўленьню лікам 7 і кожнай сэкцыі ня менш як па 7. Заданьні былі такога характару, што поўнага выкананьня за год немагчыма было чакаць нават і пры лепшых умовах. Вось напрыклад сьпіс заданьняў прыродна-географічнай сэкцыі: 1) Пабудаваць у Слуцку мэтэоролёгічную станцыю і стала весьці мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя нагляданьні. 2) Злажыць карты расьлінных згуртаваньняў глеб вадазбораў. 3) Паставіць шырока пытаньне аб заснаваньні дасьледчага ботанічнага надзелу. 4) Зьбіраць колекцыі розных жывёл, расьлін у іх зімовым стане. 5) Скласьці дэндролёгічную колекцыю мясцовых дрэўных пород. 6) Паставіць на сходах сэкцый і публічна шэраг дакладаў аб флёры, фаўне, клімаце і прыродных асаблівасьцях акругі. 7) Вывучыць і пісьмова злажыць шляхі зносін сухаземных і водных.

А тым часам умовы для працы сталі зьмяняцца к горшаму. У 1927 г. паўстала пытаньне аб ліквідацыі Слуцкай акругі, што выклікала адліў са Слуцку актыўных і працаздольных сяброў. З другога боку пераход на раённае становішча паграшаў і зьменшэньнем матэр'яльных сродкаў. Праца прымала меншы, раённы маштаб; усё гэта не давала магчымасьці шчыра ўзяцца за працу, вынікам чаго мы маем наступную справаздачу 25 верасьня 1927 г. аб дзейнасьці Слуцкага Акруговага Т-ва краязнаўства за 1926-1927 г.

Сяброў Т-ва з 100 зьменшылася на 50, вышлі, як адзначана вышэй, карысныя для працы асобы. Праўда, што партыйнае ядро павялічылася з 7% на 43%. У папярэднім годзе было 7, у гэтым годзе дайшло да 21, ды яшчэ адзін комсамолец, але парыву таго да працы, як раней, ня было. Па нацыянальнасьці сябры падзяляліся наступным чынам: беларусоў—41, яўрэяў—9. Па профэсіі: настаўнікаў—34, вучняў—7, інспэктароў нарасьветы—2, дактароў—7, загадчыкаў розных установ—3, дзелаводаў—3.

Праўда, праўленьне працавала старэнна, зрабіўшы за гэты год 35 пасяджэньняў і арганізаваўшы 1 сталую экскурсію на возера Князь (глядзі экскурсійная праца Т-ва).

Сэкцыі зрабілі наступную працу. Музэйная: прыняла рад крокаў да замацаваньня выдаткаў на ўтрыманьне музэю ў 1927-28 г. за кошт бюджэту гораду, вынікам чаго было асыгнаваньне па бюджэту 300 р. на памянёную справу. Зроблена аднавярстовая топографічная карта Слуцкага раёну, як прадпасылка да ўсебоковага вывучэньня раёну. Набыты тыповыя ўзоры глеб (у монолітах) з ваколіц воз. Князь. Набыты чучалы птушак ад цімкавіцкага настаўніка Шахлевіча, апрацаваны матар'ялы, набытыя ў экскурсіі, якія ўзбагацілі музэй колекцыямі ботанічнымі, дэндролёгічнымі і геолёгічнымі. Набыты павялічаныя фотоздымкі тыпаў жыхароў Случчыны і фотоздымкі Слуцкага поясу. Прыняты вельмі каштоўныя статыстычныя матар'ялы ад ліквідаванага акруговага Статыстычнага Бюро.

Культурна-гістарычная сэкцыя зьбіралася 4 разы. Былі заслуханы даклады на тэмы: 1) апісаньне гор. Слуцку на аснове пляну 1780 г. 2) Слуцкая старасьветчына, у прыватнасьці Ражэсьцьвенская царква. 3) Аб паншчыне на Случчыне.

Прыродна-географічная сэкцыя зьбіралася 4 разы. Заслуханы даклады аб прыродных фарбах, якія ўжываюцца на Случчыне, і аб зьбіраньні кузурак. Сабрана колекцыя шасьціножак у ліку 82, расьлін—26, па орнітолёгіі 17 чучал і разаслана анкета аб шляхох зносін.

Грамадзка-экономічная сэкцыя зьбіралася 2 разы, заслухала даклад на тэму: „Дзяды на Случчыне".

Агульны сход Т-ва ў ліку 25 асоб, які адбыўся 25 верасьня 1927 г. падвёў вынікі працы за мінулы год, рэорганізаваў Слуцкае Акруговае Таварыства ў Слуцкае Раённа-Гарадзкое, адпаведна адміністрацыйнаму прынцыпу краязнаўчага раёнаваньня БССР і зложыў больш сьціслы плян працы на 1927—1928 год. Пры гэтым сход, прыняўшы пад увагу зьмяншэньне краязнаўчых сіл, ня лічыў потрэбным браць стаўку на вялікую колькасьць працы, абмежаваўшыся наступным плянам: а) па організацыйных пытаньнях: 1) весьці працу па ўцягненьні большага ліку сяброў. 2) Даставіць краязнаўчыя бібліотэкі і часопіс „Наш Край" у кожны гурток і весьці нагляд за працай апошніх. 3) Імкнуцца да організацыі гурткоў пры кожным сельсавеце і школе, якая налічвае ня менш 2 настаўнікаў. 4) Клапаціцца аб пабудове мэтэоролёгічнай станцыі. 5) Прыняць удзел у сустрэчы 10-е гадавіны Кастрычнікавае рэволюцыі. 6) Сабраць слоўнікавы матар'ял і адаслаць у Інбелкульт. Вытворчая праца: а) па музэйнай сэкцыі. 1) Узяць на вучот усю маемасьць па музэі. 2) Імкнуцца да пашырэньня будынку пад музэй. 3) Даставіць музэйныя рэчы з Цімкавіч. 4) Прыняць крокі да пашырэньня прыродна-географічнай і грамадзка-экономічнай частак музэю. б) Па прыродна-географічнай сэкцыі: 1) Весьці сталыя мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя назіраньні. 2) Зложыць раённыя карты для гурткоў. 3) Прыняць удзел у сельска-гаспадарчай выстаўцы. в) Па культурна-гістарычнай сэкцыі: 1) Скласьці карту і апісаньне курганоў і помнікаў старасьветчыны раёну. 2) Па грамадзка-экономічнай сэкцыі: 1) вывучыць прадпрыемствы Случчыны. 2) Сумесна з культурна-гістарычнай сэкцыяй правесьці вывучэньне сучаснага стану так званых Слуцкіх выбранцаў з гістарычным аглядам.

Як ні малы гэты плян, але цалкам выканаць яго не ўдалося, галоўным чынам з прычыны пераорганізацыі акругі, а таксама таварыства і малай зацікаўленасьці сяброў гэтаю справай.

Зрабіла Т-ва да часу 1 лістапада 1928 г. наступнае: 1) Па ўсіх сельсаветах, сямігодках, хатах-чытальнях таварыства разаслала адносьнікі са статутамі аб небходнасьці заснаваньня гурткоў і аб іх карысьці, з далучэньнем прыкладнага пляну працы. Вынікамі было тое, што краязнаўчая сетка пашырылася. К пачатку 1928 г. яна складалася з раённа-гарадзкога Т-ва і 2 гурткоў пры сямігодках з агульным лікам 100 сяброў. У сучасны момант акрамя раённа-гарадзкога Т-ва ёсьць 9 гурткоў, з якіх 8 пры школах гораду і раёну і адзін пры Кастрычнікаўскім сельсавеце, з агульным лікам сяброў 500 чалавек. Адносна пабудовы мэтэоролёгічнай станцыі, праўленьне клапацілася шмат, але сытуацыя ў гэтым годзе зьмянілася, бо зацікаўленыя ўстановы знайшлі больш карысным пабудаваць гэткую ў саўгасе Мар'іна, на балотах, дзе вядзецца мэліорацыя. Фэнолёгічныя нагляданьні вядуцца сыстэматычна і ўстаноўлены вадамерны пункт для назіраньня рэжыму вод. Садоўніцтва вывучаецца шляхам заданьняў вучням школ, але вынікі гэтае працы пакуль што слабыя.

У сэнсе апрацоўкі карты помнікаў старасьветчыны справа стаіць здавальняюча: Атрымана значная колькасьць матар'ялаў і ў канцы году будзе складзена трохвярстовая карта. Павялічылася падпіска на часопіс „Наш Край“ з пашырэньнем краязнаўчай сеткі. Вядзецца вывучэньне экономічнага і культурнага становішча раёну.

Павялічэньне музэю ідзе шпарка. У гэтым годзе набыта значная колькасьць матар'ялаў як прыродна-географічнага, так і грамадзка-экономічнага зьместу. У прыватнасьці апрацаваны 2 гэрбарыі,—адзін дрэўных парод, якія рэдка сустракаюцца, другі—звычайных мясцовых расьлін; апрацавана невялічкая дэндролёгічная колекцыя і колекцыя птушыных яек. Набыты 11 моделяй рыбацкіх прылад, якія ўжываюцца на Князь-возеры. Паступілі модэлі ткацкіх прылад; апрацавана больш за 100 фотоздымкаў, якія зьяўляюцца вынікамі падарожы на Князь-возера.

У сучасны момант апрацоўваюцца матар'ялы, набытыя ў часе падарожаў, якіх сёлета адбылося 4, з якіх тры з мэтай вывучэньня свайго раёну і адна па сумежных раёнах.

У сэнсе выкананьня даручэньняў ІБК сабрана некаторая колькасьць матар'ялаў аб прыродных фарбах, якія ўжываюцца на Случчыне; сабраны ў нязначным ліку весткі аб фарбаваньні яек-пісанак; зложаны сьпіс паселішч Слуцкага раёну з адзначэньнем націскаў, выканана шмат апытальнікаў аб словах: волаты, ваўкі, асілкі.

Апрача пералічанага, у гэтым годзе Слуцкае Т-ва краязнаўства прыняла ўдзел у часопісу „Наш Край“, надаслаўшы матар'ялы, якія і былі надрукаваны.

Т-ва таксама прыняла ўдзел і ў выстаўцы краязнаўчых фотографій і зарысовак, якая была організавана ЦБК у Менску, на якой экспонавала 90 фотоздымкаў. Сябрам таварыства Ў. Мікіцінскім зложаны нарыс гісторыі Слуцку з часоў дагістарычных і да канца XIX ст., а другім сябрам П. Ажэўскім апрацавана „вясельле на Случчыне“. Акрамя пералічанага, адаслана ў ЦБК 150 нумароў фольклёру.

У сучасны момант Таварыства складаецца з 125 сяброў, праўленьне—з 9 асоб. З іх членаў і кандыдатаў КПБ—13 чал., ЛКСМ—29, беспартыйных—83 ч. беларусоў—103, яўрэяў—19, расійцаў—2, іншых—1,

настаўнікаў—33, палітасьветпрацаўнікоў—2, аграномаў—2, дактароў—1, коопэратараў—1, статыстыкаў—1, служачых у іншых установах—1, студэнтаў пэдкурсаў—і пэдтэхнікуму—76.

За гэты час адбылося 5 агульных сходаў, на якіх зачытаны два даклады: 1) Аб вытворчасьці Слуцкае фабрыкі паясоў XVIII ст., 2) аб падарожы па Случчыне. Апошні сход быў прысьвечаны пытаньням, зьвязаным з 10-гадовым юбілеем краязнаўчага руху на Случчыне і



Слуцкі Краязнаўчы Музэй.

5-годзьдзем дзейнасьці Краязнаўчага Таварыства. Адбылася яшчэ конфэрэнцыя краязнаўчых гурткоў.

Праўленьне працуе, робячы пасяджэньні досыць рэгулярна, амаль штотыднёва, хаця і пры нязначным ліку членаў праўленьня.

Да недахопаў трэба аднесьці слабую працу сэкцый, а таксама неакуратнае наведваньне пасяджэньняў праўленьня некаторымі яго членамі.

Да перашкод адносіцца немагчымасьць набыць памяшканьне пад музэй, які ўжо страціў сваё значэньне, набываючы характар складу музэйных рэчаў. Клопаты Праўленьня перад Гарсаветам не даюць ніякіх вынікаў. Збоку асоб, якія стаяць на чале кіруючых органаў, не наглядаецца зацікаўленасьці да спраў краязнаўства.

Зрабіўшы агульны агляд, неабходна спыніцца больш дакладна на асобных момантах з дзейнасьці Таварыства Краязнаўства.

### Асьвятленьне ў друку краязнаўчае дзейнасьці на Случчыне.

Краязнаўчая дзейнасьць на Случчыне не магла прайсьці неадзначанай. Калі дагэтуль няма значных друкаваных прац, якія змаглі-б азнаёміць грамаду з дасягненьнямі ў справе дасьледваньня краіны, то гэтага нельга сказаць у адносінах да асьвятленьня ў друку культурнае дзейнасьці організацыі.

Слуцкая павятовая Камісія Беларусазнаўства досыць шырока карысталася друкам, каб гэтым шляхам знаёміць шырокія колы працоўных з краязнаўчай працай і яе вынікамі.

Матар'ялы аб гэтай дзейнасьці (пастановы конфэрэнцыі) былі часткова апублікаваны адным з піонэраў краязнаўчага руху на Случчыне М. Касьпяровічам, у верасьні 1924 г. у № 3-7 „Бюлетэні афіцыяльных загадаў і паведамленьняў Віцебскага аддзелу Нарасьветы". Затым кароткі зьмест дакладаў, якія маюць краязнаўчы характар, друкаваліся ў газэце „Савецкая Беларусь" №№ 116, 150, 151 і інш. за 1923 г. і №№ 105, 197, 198 і інш. за 1924 г. №№ 219 і інш. за1925 г. Популярызацыя ідэй краязнаўства і працы камісіі рабіліся членамі яе праз пэрыодычны друк. Аб працы камісіі друкавалася ў „Полымі" (Менск 1923 г. № 2 ст. 133), „Савецкай Беларусі" за 1922 г. № 243, 282 і інш. і 1923 г. № 24, 27, 72, 114, 115, 124, 138, 149, 181, 290 і інш. З выхадам у сьвет з 1925 г. спэцыяльнага краязнаўчага часопісу „Наш Край" справа значна паляпшаецца: тут ужо, пабач з матар'яламі інформацыйнага характару, пачынаюць прасочвацца невялічкія орыгінальныя працы мясцовых краязнаўцаў. Гэтак у 1926 г. у № 8-9 (11-12) жнівень-верасень, час. „Наш Край" зьмяшчаецца першы артыкул Зянюка (Грозава) „З кіем па раёну" (краязнаўчая падарож па Грэшчыне), затым у № 12 (15) за сьнежань зьмешчана інформацыя аб першай Слуцкай Акруговай Краязнаўчай Конфэрэнцыі і дзейнасьці Таварыства.

1927 г. быў значна бяднейшым, толькі ў № 8-9, жнівень-верасень („Наш Край") была зьмешчана заметка І. Рушкевіча „Рэшткі старасьветчыны". Здабываньне агню ў в. Даманавічах, Старобінскага раёну. 1928 г. у справе зьмяшчэньня матар'ялаў трэба лічыць самым багатым. Гэтак у № 1 (28) „Наш Край" за студзень месяц, надрукаваны невялічкі артыкул У. Мікіцінскага „Слуцкі раённы краязнаўчы музэй" (кароткае апісаньне). У № 2 (29) за месяц люты. У. Мікіцінскі, Р. Пяцэвіч, П. Ажэўскі.—„Падарож па Случчыне" № 3 (30) сакавік У. Мікіцінскі, Р. Пяцэвіч,—П. Ажэўскі, „Падарож па Случчыне" (канец). У гэтым-жа нумары, М. Касьпяровіч. „З гісторыі краязнаўства" № 5 (32) май. У. Мікіцінскі.—„Аб організацыі групавых падарожай з мэтай пазнаньня і вывучэньня краю". № 6-7 (33 34) чэрвень-ліпень.—Інформацыя аб дзейнасьці Слуцкага Т-ва Краязнаўства за 5 месяцаў 1928 г.".

Акрамя гэтага за 1925-28 г. было зьмешчана да 40 корэспондэнцый у газ. „Савецкая Беларусь", „Зьвязда", „Вясковы Будаўнік", у якіх адзначалася як краязнаўчая дзейнасьць на Случчыне, гэтак і кароткія заметкі краязнаўчага характару.

## Падарожніцтва ў дзейнасьці Слуцкага Т-ва Краязнаўства.

Падарожніцтва, як спосаб пазнаньня і вывучэньня краю, у дзейнасьці Слуцкага Таварыства Краязнаўства займае досыць пачэснае месца. Пачаткам гэтае дзейнасьці трэба лічыць 1923 г., калі Слуцкая Павятовая Камісія Беларусазнаўства наладзіла першую экспэдыцыю па вывучэньні і зарысоўваньні народнага орнамэнту. На жаль, нам невядомы ні маршрут, ні іншыя падрабязнасьці экспэдыцыі. Вынікам яе было звыш 200 зарысовак, якія прадстаўляліся на Ўсесаюзную сельскагаспадарчую і саматужна-прамысловую выстаўку. Зразумела, што гэтая першая падарож насіла вузка-спэцыяльны характар, але тым часам, побач з выкананьнем спэцыяльнага заданьня азнаёміла ўдзельнікаў з жыцьцём і асаблівасьцямі краіны.

У далейшым, з заснаваньнем Акруговага Т-ва краязнаўства, падарожніцкая справа прымае іншых характар. Тут яна робіцца тэмай спэцыяльнага абгаварэньня, у вініках чаго ёй дадаецца характар асобнага віду дасьледчай працы да ўсебаковага вывучэньня краіны. Так абстаяла справа ў 1926 г., калі Таварыствам было высунута пытаньне аб наладжаньні вялікае падарожы па Случчыне, ласьне ў самую глухую частку акругі на воз. Князь і яго ваколіцы. Адсутнасьць практыкі, навізна справы выклікала жвавую дзейнасьць у гэтым напрамку. Трэба было вызначыць маршрут, каб захапіць больш цікавыя, мала дасьледваныя месцы, азнаёміцца з адпаведнай літаратурнай, выпрацаваць шэраг пытаньняў, на якія патрэбна было атрымаць адказ на месцы, правілы для ўдзельнікаў, потым паклапаціцца аб сродках. Але з некаторых прычын і адсутнасьці патрэбнай сумы грошай, падарож не адбылася. Прапробленая праца зьявілася тым грунтам, на якім у 1927 г. Т-ва зьдзейсьніла намечаную програму пры дастатковых грашовых сродках. Падарож адбылася пры ўдзеле пяцёх асоб і аднае фурманкі пад прылады і маемасьць падарожнікаў. Маршрут быў наступны: Слуцак—Журава—Белічы—Млынка—Чапялі—Бранчыцы—Жабіна—Іздрашава—Забродзкія хут.—Кулакі—Стамагілы—Тычыны—Лістападавічы—Старобін—Саковічы—воз. Сьвятое—Мількавічы—Гадзінскія хут.—Махнавічы—Дамановічы—Пісаравічы—Восаў—Князь-Вазерская—Ляхавічы—Пухавічы—Дзякавічы—Пасталы—Буды—Сосны—Сальцо—Юркавічы—Шыпілавічы—Обчынарачэнь—Вакальнае—Цёсава—Пагост—Быкава—Цараўцы—Журава—Слуцак,—працягам 232 вярсты. Заняла падарож 14 дзён. Было сабрана шмат апісальнага матар'ялу, запісана 150 нумароў фольклёру, зроблена 70 фотоздымкаў—краявідаў, тыпаў насельніцтва, паселішчаў, розных будоўлі і помнікаў старасьветчыны. Замалёвана 10 плянаў, сабраны гэрбарыі расьлін, набыты ўзоры глеб і некаторых выкапняў. Кароткае апісаньне падарожы было зьмешчана ў часопісу „Наш Край“ (№№ 2-3 Люты-Сакавік 1928 г.). Трэба сказаць, што падарож была старанна падрахтавана. Аб ёй гаварылася па радыё з Менску, газэта „Савецкая Беларусь“ у сваёй рэцэнзіі на № 3 „Наш Край“ вельмі цёпла адазвалася аб зьмешчаных матар'ялах.

Набыты вопыт 1927 г. быў пакладзены ў аснову далейшае дзейнасьці Таварыства ў гэтым напрамку. У програму на летні час 1928 г. былі ўведзены 4 падарожы, з якіх тры прызначаліся вывучэньню Слуцкага раёну і адна для азнаямленьня і дасьледваньня часткі тэрыторыі былое Слуцкае акругі.

Намечаныя падарожы адбыліся пешшу на працягу чэрвеня, ліпня і жніўня месяцаў па наступных маршрутах.

*Першая падарож* (па Слуцкім раёне. Паўночна-ўсходняя частка). Маршрут: Слуцак—Мелешкавічы—Бярозаўка—Папоўцы—Сорагі—Міргара,—Красная-гара—Волашава—Рыжыца—Мелітонава—Вілы—Амговічы—Гутніца—Старэва—Весея—Міхейкі—Слуцак,—працягам 102 в. Патрачана 6 дзён.

*Другая падарож* (па Слуцкім, Грэскім, Пухавіцкім, Стара-Дарожскім раёнах). Маршрут (скарочаны) Слуцак—Васілінкі—Докшыцы—Ушаловічы—Шулякі—Грэск—Маразы—Забелы—Шышчыцы—Замосьце—Вераб'ёва—Вежы—Неспадзянка—Рудзіца—Круглае—Асавец—Шчыткавічы—Леўкі—Дражна—Парэчча—Омельна—Суцін—Жыцін—Крымок—Юравічы—Масеевічы—воз. Скачальскае—Фалічы—Старыя Дарогі—Солан—Горкі—Омговічы—Слуцак,—працягам 267 вёрст Патрачана 12 дзён.

*Трэцяя падарож.* (Па Слуцкім раёне. Паўднёва-ўсходняя частка) Маршрут: Слуцак—Б.-Сьліўскія хут.—Волаты—Саўгас Некрашы—Панічы—Дарасіно—Княжа—Магіла—Урэчча—Слуцак,—працягам 61 вярста. Патрачана 5 дзён.

*Чацьвертая падарож.* (Па Слуцкім раёне. Паўночна-Заходняя частка). Маршрут: Слуцак—Івана Агароднікі—Саўгас Івань—м. Леніна—Шэлавічы—Лапацічы—Сярэднікі—Старцавічы--Падліпцы—Бязьверхавічы—Слуцак,—працягам 46 в. Патрачана 3 дні. Такім чынам чатыры падарожы ў 1928 г. занялі часу 26 дзён.

За гэты тэрмін пройдзена пешшу 449 в. і па чыгунцы 18 в. разам 467 в. Апрача вялікага ліку апісальнага матар'ялу, зроблена 351 замалёўка, з якіх: 265 узораў народнага орнамэнту, 8 схэматычных плянаў замчышч, гарадзішч, сядзіб, будоўляў; 43 краявіды, 22 малюнкі будоўлі прыватных, культавых, заводаў; 7 агульных відаў вёсак, 6—адзеньня, с.-г. прылад, вопраткі і інш. Набыты некаторыя рэчы для музэю.

З пералічанага відаць, што за час свайго існаваньня Слуцкае Т-ва Краязнаўства шляхам падарожай дасьледвала 699 вёрст тэрыторыі, сабраўшы шмат каштоўных матар'ялаў аб сваім краі.

**Музэябудаўніцтва на Случчыне.**

Дзейнасьць у галіне краязнаўчага музэябудаўніцтва распачалася разам з краязнаўчым рухам на Случчыне. Першы камень у гэтай справе быў пакладзены Слуцкай Павятовай камісіяй беларусазнаўства ў 1922 г., якая, ня гледзячы на кароткі час свайго існаваньня, шмат зрабіла ў гэтым напрамку. Камісіяй былі абгаворавы даклады аб арганізацыі і пляну Слуцкага музэю радзімазнаўства, а таксама як арганізаваць школьныя радзімазнаўчыя музэі. Для ажыцьцяўленьня намечанай програмы была складзена асобная камісія, якая і прыступіла да зьбіраньня матар'ялаў. З 1923 г. працяг дзейнасьці камісіі ў справах музэябудаўніцтва перайшоў да Павятовага Т-ва Краязнаўства. Гэты пэрыод да 1925 г. можна характарызаваць пэрыодам накапленьня багатых каштоўнасьцяй, пераважна гістарычнага і мастацкага характару. Складалася ядро, з якога мелася на ўвазе разгортваньне краёвага музэю. Побач з набыцьцём музэйных экспонатаў, была шырока пастаўлена справа па арганізацыі бібліотэкі пры музэі. Набыты кніжны скарб складаўся па большасьці з кніжок гістарычнага зьместу і каштоўных старадрукаў. Пад кіраўніцтвам музэйнай падкамісіі быў пакладзены пачатак заснаваньню валасных радзімазнаўчых музэяў, з якіх вядомы ў Грозаве і Леніне 1925 г. трэба лічыць паваротным у справе музэябудаўніцтва. Дзякуючы таму, што галоўная частка музэйнага скарбу складалася з рэчаў, якія маюць агульнадзяржаўнае значэньне, музэй быў пазбаўлены гэтых каштоўнасьцяй, таксама была забрана лепшая частка бібліотэкі. Такія прадметы, як портрэты князей Слуцкіх Алелькавічаў, рукапіснае евангельле XVI ст., епітрахіль і посах XVI ст., срэбная рыза XVI ст., малюнкі вядомага мастака Катарбінскага,—апынуліся ў Менскім Дзяржаўным музэі, а кніжнае багацьце—у Дзяржаўнай Бібліотэцы; засталіся рэчы другараднага і трэцяраднага значэньня, якія і паслужылі для пачатку новага музэябудаўніцтва, разам з заснаваньнем Акруговага Т-ва Краязнаўства. Спадчына, якая засталася ад Павятовага Т-ва Краязнаўства, складалася з 200 музэйных экспонатаў і бібліотэкі з 560 кніжок. Трынаццатага сьнежня 1925 г. на другім

агульным сходзе Акруговага Т-ва, прысьвечаным пытаньням організацыйнага характару, быў зачытаны даклад на тэму: краязнаўчы музэй, музэйная праца і першыя крокі ў справе яго складаньня. Думкі, выказаныя дакладчыкам, былі пакладзены ў аснову новага музэябудаўніцтва, па якіх музэй павінен будавацца па прынцыпу 3-х аддзелаў: культурна-гістарычнага, прыродна-географічнага і грамадзка-экономіччнага. Быў узяты напрамак на організацыю музэйнай сэкцыі, у абавязак якой уваходзіла: 1) распрацоўка пытаньняў у справе зьбіраньня му-



Слуцкі Краязнаўчы музэй.

Аддзел Грамадзка-Экономіччны.

зэйных матар'ялаў. 2) Прыёмка экспонатаў, кніжок, архіўных скарбаў. 3) Апрацоўка і сыстэматыка музэйных матар'ялаў. 4) Складаньне каталёгаў, інвэнтарных опісаў. 5) Выдача кніжок і іншых матар'ялаў для прац сябром Т-ва. 6) Складаньне протоколаў пасяджэньняў і іншых папер, зьвязаных з музэйнай працай. 7) Зьбіраньне выпісак аб сваім краі з розных выданьняў і пэрыодычнага друку. 8) Нагляданьне за парадкам у часы наведваньня і інш.

У музэйную сэкцыю запісалася 32 асобы, пераважна моладзі. Праца была распачата энэргічна: набыта памяшканьне пад музэй, у якое перавезены рэшткі музэйнага і кніжнага матар'ялаў. У справе зьбіраньня экспонатаў быў узяты наступны напрамак: складзена і надрукована адозва да ўсіх партыйных, савецкіх, грамадзкіх установаў і грамадзян Слуцкае акругі аб дараваньні матар'ялаў, якія маюць музэйны характар; затым па розных установах разасланы адносьнікі з пералічэньнем тых рэчаў, якія карысна было-б атрымаць дзеля адлюстраваньня дзейнасьці ўстаноў. Вынікі атрымаліся досыць здавальняючыя. Таварыству быў адданы архіў Кальвінскае царквы, у якім захоўвалася больш 400 кніжок, пабольшасьці рэлігійнага характару,

сярод якіх знайшлося шмат старадрукаў, а таксама некаторая колькасьць рукапісаў, якія адносяцца да гісторыі кальвінізму на Случчыне з паловы XVII ст. Паміж кніжнага багацьця знаходзілася вядомая Кальвінская біблія, надрукованая ў Берасьці 1563 г. Мікалаем Радзівілам Чорным, якая здадзена ў ІБК. Праца ў музэі праходзіла інтэнсыўна: апрацоўваліся гэрбарыі, прыводзілася ў парадак бібліотэка па карткавай сыстэме, складаліся каталёгі. За гэты час музэй павялічыўся на 468 прадметаў і 630 кніжок, так што к 26 кастрычніку, ласьне да дня першай акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі, была організавана часовая выстаўка апрацаваных і напалову апрацаваных матар'ялаў. Дзейнасьць музэйнай сэкцыі была адзначана конфэрэнцыяй. Да гэтых часоў трэба аднесьці заснаваньне па акрузе краязнаўчых музэяў у Копылі, Любані, Старых-Дарогах і Старобіне. З 1927 году праца па музэябудаўніцтву ў Слуцку яшчэ больш узмацнілася. Праўленьнем Т-ва былі асыгнаваны 100 руб. на абсталяваньне, каб зрабіць яго даступным да агляду шырокіх мас працоўных. На асыгнаваныя грошы былі заказаны вятрыны, скрынкі шчыты і некаторая мэбля. Такім чынам к 28 сакавіка, да дня акруговага зьезду Саветаў, музэй быў адчынены раней для агляду дэлегатаў, а потым і для грамады. З гэтага часу праца музэю пачынае ўваходзіць у звычайную калею—ён рэгулярна адчыняецца па два разы на тыдзень для агульнага агляду, праца сэкцыі ня спыняецца, паступленьне экспонатаў пашыраецца. На працягу 1927 г. паступіла 760 розных музэйных рэчаў і 144 тамы літаратуры. Дараваны яны былі наступнымі ўстановамі: 1) Слуцкім Акрвыканкомам—145 пр.; Слуцкай электрастанцыяй—14; Акрздравам—54; Акрземаддзелам—23; Рабоча-партыйным клюбам—28; Аграномічным пунктам Слуцкага раёну—11; Саўгасам Старчыцы—6; Любаньскім раённым таварыствам краязнаўства—9; разам 298 прадметаў і 16 прыватнымі асобамі 462 прадметы. Затым паступіла 135 прадметаў ад краязнаўчай падарожы па Случчыне, якія за недахопам сродкаў, нейкі час знаходзіліся не апрацаванымі. Музэй карыстаўся шырокай папулярнасьцю. За час з 23 сакавіка і да 25 верасьня прайшло 7254 гледачы, сярэднім па 150 асоб у музэйны дзень і 12 організаваных экскурсій, з агульным лікам 559 чалавек. Канец 1927 г. прынёс нейкі застой у працы. Ліквідацыя Слуцкай акругі значна адбілася і на справе музэябудаўніцтва; пераход на палажэньне раёну скараціла сродкі Т-ва, дзякуючы чаму прышлося скараціць на адзін дзень агляд музэю, але тым часам павялічэньне яго працягваецца. Спачатку 1928 г. паступіла 317 новых экспонатаў і 11 кніжок краязнаўчае літаратуры. К сучаснаму моманту музэй налічвае 1766 экспонатаў, якія разьмешчаны па трох аддзелах: 1) Культурна-гістарычным—654 пр. 2) Прыродна-географічным—859 пр. 3) Грамадзка-экономічным—523 пр.

Бібліотэка складаецца з 1345 кніжок, з якіх 255 па Беларусазнаўству і краязнаўству, 260 старадрукаў і 830 рознага зьместу. Ёсьць некаторая колькасьць рукапісаў, якія адносяцца да XVII—XVIII—XIX ст. Негатыўны архіў складаецца з 115 негатываў. Пры музэі ёсьць прэсы для сушкі расьлін, компас і інш. прылады. З пэрыодычнага друку выпісьваецца „Наш Край“ і газэта „Савецкая Беларусь“.

**Праца краязнаўчых гурткоў.**

Гаворачы аб дзейнасьці Слуцкага Краязнаўчага таварыства за пяцігадовы тэрмін, нельга абыйсьці моўчкі і такое важнае галіны ў яго працы, якою зьяўляецца дзейнасьць краязнаўчых гурткоў як га-

радзкіх, так і раённых. Праўда, на гэтую галіну працы асаблівую ўвагу прышлося зьвярнуць толькі з рэорганізацыяй Т-ва і з пераходам яго з акруговага ў рамкі раённага. У першы пэрыод свайго існаваньня, калі Т-ва зьяўлялася акруговым, нельга было ўдзяліць належнай увагі рабоце краязнаўчых гурткоў. Т-ва імкнулася тады популярызаваць ідэю краязнаўства ў раённых цэнтрах, заснаваць там раённыя краязнаўчыя таварыствы, якія і былі організаваны пры кожным раёне (лікам 7). Дзейнасьць гэта абхоплівае прыблізна 1926 год.

З працаю некаторых раённых гурткоў праўленьне знаёмілася на кразнаўчых конфэрэнцыях, дзе ставіліся даклады падраённых гурткоў, як прыкладам, Любаньскага, Пагосцкага і інш. Большую ўвагу прышлося ўдзяліць гэтай справе з пераходам Т-ва на раённае існаваньне, г. зн., у мінулым годзе. З самага пачатку навучальнага году праўленьнем Т-ва былі прыняты крокі к заснаваньню краязнаўчых гурткоў пры ўсіх сямігодках, як гораду, так і раёну. Апрача гэтага Т-ва імкнулася пашырыць сетку краязнаўчых гурткоў пры сельсаветах і апорных школах. Для гэтае мэты былі разасланы адпаведныя інструкцыі і ўзорныя пляны працы як па школах, так і сельсаветах.

У выніку мы мелі наступную сетку краязнаўчых гурткоў: у горадзе—7, пры раённых сямігодках—2 і сельсаветах—1.

Гарадзкія гурткі існавалі пры наступных школах: 1, 2, 3 і 4 пры адпаведных сямігодках, 5-ы гурток у профшколе, 6-ы на пэдкурсах і 7-ы пры вячэрняй школе дарослых. У раённых сямігодках існавалі гурткі Лучнікоўскі і Ленінскі (першы ў в. Лучнікох і другі ў м. Леніне) і нарэшце адзін гурток пры Кастрычнікаўскім сельсавеце. Абхоплівалі ўсе гурткі да 500 сяброў-вучняў. Склад кожнага гуртка відаць з наступнай табліцы:

| №№ чарговыя | Установа, дзе існуе гурток | Калі гурток заснаваны | Лік сяброў 1926-27 г. | Лік сяброў 1927-28 г. | % ахопу ў адносінах агульн. ліку (прыблізна) | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Гурток пры I сямігодцы . . | У пачатку лют. 1928 | — | 61 | 30,5% | % узяты ў адносінах да агульнага ліку II концэнтру. |
| 2 | „ „ II сямігодцы . . | 6-га лютага 1927 | 60 | 81 | 40% | |
| 3 | „ „ III сямігодцы . . | У студзені 1928 | — | 60 | 30% | |
| 4 | „ „ IV сямігодцы . . | У лютым 1928 | — | 63 | 31% | |
| 5 | Гурток пры профшколе. . . | 21 лютага 1928 | — | 47 | 23,5% | |
| 6 | „ на пэдкурсах . . . . | 13 лістапада 1927 | — | 82 | 60,5% | |
| 7 | „ „ вячэр. школе даросл. | У студзені 1927 | — | 32 | 11% | |
| 8 | „ „ Лучнікоўскай сяміг. | У канцы 1926 | 40 | 15 | 7% | |
| 9 | „ „ Ленінскай сямігодцы | „ 1926 | няма | вестак | — | |
| 10 | „ „ Кастрычнікаўскім с/с. | 22 студзеня 1928 | — | 9 | — | |
| | | Усяго. . . | 100 | 450 | — | — |

Як бачым, заўважваецца значны рост і пашырэньне сеткі гурткоў у параўнаньні з папярэднім 1926—27 навучальным годам.

Пяройдзем цяпер да самай працы памянёных гуркоў і паглядзім, як яны справіліся з ёю і што выканалі. Трэба адзначыць, што ўсе гурткі працавалі паводле зараней складзенага каляндарнага пляну. Праўда, не ўва ўсіх гуртках гэтыя пляны былі выкананы поўнасьцю на ўсе 100%. Гэта тлумачыцца тым, што ў многіх гуртках былі пашыраны тыя пляны, якія, як орыентовачныя, былі разасланы раённым праўленьнем, а з другога боку ня доўгім часам дзейнасьці іх, бо ў пераважнай большасьці гурткі разгарнулі сваю працу ў другім паўгодзьдзі. Ня гледзячы на гэта, мы маем у гэтым напрамку досыць значныя вынікі. Так, гурток І сямігодкі меў за гэты час 7 агульных сходаў, ня лічачы пасяджэньняў бюро ці прэзыдыуму гуртка. На агульных сходах былі заслуханы даклады і зачытаны рэфэраты: 1) гісторыя гор. Слуцку, 2) садоўніцтва на Случчыне, 3) саматужныя вырабы ў Случчыне; апрача таго праводзіліся назіраньні за прылётам птушак, закладзен быў школьны музэй, апрацавана некалькі колекцый па вырабу лёну і ткацкіх прылад, сабрана шмат фольклёрнага матар'ялу. У канцы году гуртком дэтальна распрацаваны былі практычныя індывідуальныя заданьні на летні час.

Гурток ІІ сямігодкі працаваў да 16-V. За ўвесь час адбылося 10 сходаў гуртка. Распрацаваныя пытаньні былі наступныя: 1) мясцовыя фарбы, 2) польская окупацыя і партызанскія атрады на Случчыне (па матар'ялах з „Нашага Краю“), звычаі і абрады, зьвязаныя з сьвятамі і асаблівымі здарэньнямі ў жыцьці чалавека. На апошнюю тэму сабрана шмат фольклёрнага матар'ялу. Апрача гэтага была зроблена экскурсія на скураны завод.

Праца гуртка ІІІ сямігодкі выявілася ў тым, што ён меў за час сваё дзейнасьці 7 сходаў, на якіх былі зачытаны даклады: аб птушках, аб зьбіраньні фольклёрнага матар'ялу, аб складаньні гэрбарыя, аб падрыхтаваньні зоолёгічных колекцый. Былі зроблены экскурсіі ў мясцовы музэй, на луг і поле для азнаямленьня з мясцовай флёрай. Паасобнымі сябрамі гуртка вяліся фэнолёгічныя назіраньні. Трэба адзначыць, што гурток гэты меў больш натуралістычны характар. Ім была сабрана значная колекцыя кузурак.

Гурток пры IV сямігодцы знаходзіўся ў пэрыодзе свайго афармленьня і належнай працы не разгарнуў. Ён меў 6 сходаў, але пытаньні, якія разглядаліся на іх, насілі больш організацыйны характар. (Мэты і заданьні гуртка, організацыя сэкцый, складаньне пляну і г. д.). Гурток злажыў невялічкі яўрэйска-беларускі слоўнік і зачытаў гісторыю мясцовага стралковага палка). Трэба адзначыць, што ён існаваў пры яўрэйскай сямігодцы, а ў апошніх гэтая справа абстаіць зусім дрэна. Так напрыклад, пры V і VI сямігодках зусім ня існавалі краязнаўчыя гурткі.

Профшкольцы мелі 7 сходаў, на якіх распрацоўваліся наступныя пытаньні: грамадзянская вайна на Случчыне і яе галоўныя падзеі, значэньне краязнаўства наогул і школьнага ў прыватнасьці, ахова садоў ад шкоднікаў, ахова птушыных гнёзд ад зьнішчэньня, дзень лесу. Гуртком вяліся фэнолёгічныя нагляданьні і зьбіраўся фольклёрны матар'ял.

Гурток на пэдкурсах меў 6 агульных сходаў. Пытаньні, распрацованыя ў гуртку, былі наступныя: краязнаўства і яго месца ў школе, гісторыя гор. Слуцку, як вясьці фэнолёгічныя нагляданьні, расьліны і жывёлы нашай мясцовасьці, як зьбіраць расьліны і складаць гэрбарыі. Сябрамі гуртку была зроблена экскурсія ў музэй і вывучаліся паасоб-

ныя старажытныя помнікі гор. Слуцку. На летні час кожны сябра гуртку атрымаў індывідуальнае заданьне (зьбіраньне фольклёру, рэчаў музэйнага значэньня, апісаньне сваe мясцовасьці, курганоў, гарадзішч і г. д.).

У вячэрняй школе дарослых ня было спрыяючых умоў для разгортваньня працы. Школа займаецца да позьняга вечару (да 11 гадзін) з вучнямі, якія ўжо змарыліся на прадпрыемствах за дзень, але ўсё-ж



Слуцкі Краязнаўчы Музэй.
Аддзел Прыродна-Географічны.

такі гурток тут існаваў. Ён меў тры агульныя сходы, на іх была зачытана гісторыя гор. Слуцку.

Падраённы гурток пры Лучнікоўскай сямігодцы зьбіраўся кожны тыдзень па клюбных днёх. Гурток вёў сталыя мэтэоролёгічныя назіраньні на працягу ўсяго навучальнага году; сябрамі гуртку зроблена апісаньне старажытных помнікаў в. Лучнікоў, апісана правядзеньне калядных сьвят, нават здабыты „конь“ і „зьвязда“, з якімі ходзяць на „шчадрыца“. Сабраны песьні калядныя і наогул. Запісана шмат фольклёрнага матар'ялу. Апроч таго, гурток выдаваў часопіс „Чырвоны Прамень“, артыкулы з якога зачытваліся на сходах. У ім-жа падагульваўся матар'ял, здабыты паміж сходамі.

Усімі памянёнымі вышэй гурткамі выпісваўся часопіс „Наш Край“. Частка гурткоў выпісвала яго на свае сяброўскія ўзносы, другой частцы гурткоў выпісвалі гэты часопіс на сродкі школы.

Што датычыцца працы гуртку пры Ленінскай сямігодцы а таксама гуртку пры Кастрычнікаўскім сельсавеце, то ў раённым Т-ве зьвестак аб гэтым няма.

Прааналізаваўшы, такім чынам, працу паасобных гурткоў, мы бачым, што гэтая праца вялася ўсімі гурткамі. У сярэднім на кожны гурток прыпадае па 6-7 агульных сходаў. Бяручы пад увагу, што агульныя сходы адбываліся па 2 разы ў месяц, маем у сярэднім 3-3$^{1}{}_{2}$ мясяцы гурткавое працы, што, зразумела, недастаткова нават і для II паўгодзьдзя, калі гурткавая праца была найбольш разгорнута. К ліку недахопаў у працы краязнаўчых гурткоў у мінулым годзе трэба аднесьці і неакуратнае наведваньне сходаў сябрамі гурткоў. Звычайна назіраецца такое зьявішча: спачатку працы гурткі ўсе многалюдныя, а з цягам часу яны паступова радзеюць, к канцу году наведвае гурток меншая яго палова. Праўленьне Т-ва ня мае дакладных даных аб наведваньні ўсіх гурткоў, але мяркуючы, паводле вестак паасобных гурткоў, можна сказаць, што наведваньне вагаецца паміж 30—50% агульнага ліку сяброў гуртка. Маючы такі вопыт, Праўленьне Т-ва з пачаткам гэтга навучальнага году прыняла адразу крокі к таму, каб ажывіць працу гурткоў. Ім пасланы былі належныя адносіны ў адпаведныя школы, склікана нарада, дзе прадстаўнікі ад кожнага гуртка азнаёмілі праўленьне, як абстаіць у іх справа. Для большага кіраўніцтва з складу Праўленьня Т-ва былі замацаваны кіраўнікі да паасобных гурткоў.

Такія захады, бязумоўна,будуць мець свой вынік. Па горадзе ўжо ёсьць некаторае пашырэньне сеткі гурткоў. Напрыклад, ужо арганізаваўся гурток пры VI яўрэйскай сямігодцы.

Адпаведныя захады былі зроблены і для пашырэньня краязнаўчай сеткі па сельсаветах і школах. Для гэтае мэты праўленьнем была скарыстана настаўніцкая конфэрэнцыя, дзе прызывалася ўсё настаўніцтва да ўдзелу ў краязнаўчай працы.

Трэба спадзявацца, што 5-цігадовы юбілей дзейнасьці Т-ва будзе служыць тым этапам, які нарэшце адчыніць дзьверы пашырэньня і ўтварэньня краязнаўчых гурткоў сярод шырокіх колаў грамады і яе нізавых установ: сельсаветаў, школ і хат-чытален.

---

**М. Дабратворскі.**

# Год існаваньня Зоолёгічнага Музэю Інстытуту Беларускае Культуры.

7-га лістапада 1927 году адчыніўся ў Менску Зоолёгічны Музэй Інстытуту Беларускае Культуры. Організацыя Музэю пачалася ў вясу гэтага-ж году, калі было адведзена памяшканьне былой архірэйскай царквы (1-шы паверх). Штат Музэю быў вельмі невялікі і складаўся з двух навуковых працаўнікоў: дырэктара Музэю, навуковага супрацоўніка і двух тэхнічных—чучальніка і прыбіральшчыцы.

Зоолёгічны Музэй зьяўляецца цэнтральнай установай Рэспублікі, галоўнай мэтай якой ёсьць вывучэньне фаўны Беларусі і захаваньне навуковых матар'ялаў, якія зьбіраюцца ў час экскурсій і экспэдыцый. Апроч таго Зоолёгічны Музэй ставіць сваёй мэтай популярызацыю ведаў па фаўне Беларусі і ахове яе, а таксама і дапамогу краязнаўчым музэям, як з боку мэтодычных указаньняў, так і шляхам навуковай экспэртызы па азначэньні жывёл Беларусі.

Для выкананьня сваіх задач Музэй падзяляецца на два аддзелы: навуковы і выставачны. Першы аддзел складаецца з аснаўных навуковых колекцый, на падставе якіх вывучаецца і апісваецца фаўна Бела-

русі. Зараз у гэтым аддзеле маюцца колекцыі амаль што ўсіх галоўных груп жывёл. Гэты аддзел зьяўляецца недаступным для даведніка музэю, а ў ім могуць працаваць дасьледчыкі, якія займаюцца вывучэньнем тых ці іншых фаўністычных пытаньняў. Для шырокіх жа грамадзкіх колаў спэцыяльна організаваны выставачны аддзел, дзе ўсе колекцыі і экспонаты выстаўлены з адпаведнымі этыкеткамі, на якіх надрукавана ня толькі назва жывёлы, але і пашырэньне яе на ўсёй зямной кулі.

Колекцыі гэтага аддзелу ў сваю чаргу падзяляюцца на дзьве часткі: 1) колекцыі сыстэматычныя, дзе выстаўлены ўсе жывёлы ў сы-



Бык зубар (Bison europaeus, L).

стэматычным парадку, прычым, калі тая ці іншая жывёла мае розную афарбоўку, то яна прадстаўлена ў некалькіх экзэмплярах, і 2)—біолёгічныя вітрыны, дзе некаторыя жывёлы ці групы іх монтыраваны ў тых эколёгічных умовах, у якіх яны сустракаюцца ў прыродзе.

Я спынюся на апісаньні выставачнага аддзелу. У ім пакуль што ёсьць толькі сысуны і птушкі. Першых 28 відаў; самым цікавым экспонатам тут зьяўляецца, вельмі мастацкі зробленае, чучала зубра (Bison europaeus), якое было перададзена ў Зоолёгічны Музэй Ленінградзкім Эрмітажам. Гэты экзэмпляр быў забіты ў Белавескай Пушчы (Гайнаўскі маёнтак) у 1900 годзе; ён мае ў даўжыню 2,5 м., у вышыню—1,6 м. Трэба адзначыць, што зубар ужо зараз зьяўляецца як-бы помнікам прыроды, бо ўсе зубры, як на Каўказе, так і ў Белавескай Пушчы зьнішчаны, і толькі паасобныя экзэмпляры дажываюць свой век па зоолёгічных садох. Зьніклі яны па розных прычынах: не малую ролю адыграў тут чалавек—было шмат выпадкаў, калі зуброў забівалі мясцовыя паляўнічыя - браконьеры, а таксама дапамаглі гэтаму і зьмяніўшыяся ўмовы жыцьця (напр., у Белавескай

Пушчы), якіх яны не маглі перамагчы; так напрыклад, вельмі многа іх загінула ад Diestomum hepaticum, а таксама ад страўнікавых хвароб, якія ў іх утвараліся ў вясну пры пераходзе з сухога зімовага корму на траву; звычайна яны ў гэты час спажывалі шмат асінавага маладняку, які рабіў добры ўплыў на страўнасьць; вось гэты та асіньнік амаль што быў зьнішчаны ў апошнія гады аленем (Cervus elaphus), які тут надзвычайна расплодзіўся. Апроч таго былі яшчэ і аўтанамічныя прычыны, дзякуючы якім зубры паступова вымíралі.

Цэлага чучала лася ў Музэі няма, а ёсьць толькі галава; ласёў на Беларусі засталося так мала, што Музэй лічыць немагчымым забіць нават і аднаго.

Маецца 3 чучалы мядзьведзя, самы вялікі экзэмпляр быў перададзены з Беларускага Дзяржаўнага Музэю, ён стаіць на задніх лапах і мае ў вышыню 2,1 м.; быў забіты ў б. Ігуменскім павеце. Чучала другога мядзьведзя зьяўляецца таксама вельмі цікавым з боку афарбоўкі—ён зусім чорны, такі колер ў іх бывае рэдка.

Далей маецца шэраг чучал таксама цікавых зьвяроў, напр.: рысі, выдры, барсука, норыцы, соні, вавёркі-ляцягі і інш. Ляцяга сустракаецца на Беларусі рэдка і прытым толькі ў паўночнай частцы, гэты экзэмпляр Музэй атрымаў у выглядзе падарунку ад Полацкага Саюзу Паляўнічых.

Вельмі цікава колекцыя альбіносаў: 5 вавёрак і качка шылахвостка, яны ўсе зусім белыя (поўны альбінізм), адна вавёрка і два тхары толькі часткова белыя (частковы альбінізм). З такой ненормальнай афарбоўкай жывёлы ў прыродзе сустракаюцца вельмі рэдка.

З сысуноў складзены некалькі біолёгічных вітрын, напр.: ласак, гарнастаяў, прычым мэтаю было прадставіць іх ня толькі ў біолёгічнай абстаноўцы, але і паказаць значэньне зьмены афарбоўкі з летняй цёмнай на чыста белую зімовую (ахоўная афарбоўка). Самай вялікай вітрынай зьяўляецца група ваўка і рысі, яна паказвае такі момант: рысь злавіла цецярука, а ў гэты час на яе трапіў воўк.

Ёсьць дзьве вітрыны, якія паказваюць барацьбу за існаваньне паміж сысунамі і птушкамі: адна група—напад арла на ліса, а другая—куратніка на зайца.

Птушкі прадстаўлены ў Музэі даволі поўна; у сыстэматычных шафах выстаўлены 150 экзэмпляраў. Паміж іх трэба адзначыць чучалы лебедзяў, якія бываюць у нас толькі на пралёце і звычайна спыняюцца на больш буйных вазёрах, чучала пугача, савы даўгахвостай, чорнага бусла, чаплі лазяніка, баклана, арла вялікага, арлана, чайкі (Larus fuscus L.), качкі пеганкі, апошняя вельмі цікава тым, што забіта каля Мазыра, у той час як звычайна гнязьдзіцца ў стэпавай зоне.

Біолёгічных вітрын з птушкамі выстаўлена 24; спынюся на больш цікавых. Дзьве вялікія вітрыны зроблены ў нішах: адна—орнітоцыноз крутога берагу рэчкі; у зрыве гнёзды-колёніі земляных ластавак, якія лётаюць каля сваіх норак; на корані над вадой сядзіць зімарадак, а каля вады бегае пліска і маленькі кулічок - зуёк. Другая—паказвае характэрную для Беларусі станцыю—чаротавае балота с птушыным насельніцтвам; тут сярод чароту зьмешчаны 8 птушак. На тонкай галінцы вярбы прымацаваў сваё гняздо рэмез, ён змайстраваў яго з пуху, які ляціць у вясну з вярбы. Цікава тое, што самую вялікую птушку (чапля бугай), многія адразу не заўважваюць, бо па сваёй афарбоўцы і паставе, якую яна прымае, калі хаваецца, вельмі падыходзіць пад колер чароту.

На тэму па ахоўнай афарбоўцы зроблены спэцыяльныя вітрыны. Адна з іх—пень у лесе, на ім прытуліўся ляляк, які па сваім колеры падобны да кары; на зямлі каля пня, на моху адкладзены два яйцы, а побач сядзіць самка. Другая вітрына—пардвы ўзімку, яны белага колеру, дзякуючы чаму іх здалёку цяжка заўважыць на сьнезе.



Вітрына „Напад Курятніка на зайца".

Тарпяное балота, характэрнае для Беларусі маецца тут асобнай вітрынай, па ім паважна ходзіць журавель; на каравай сасонцы сядзіць сітаўка і тут-жа ходзіць кулён вялікі.

Санітарнае значэньне некаторых жывёл можна ўбачыць у біолёгічнай групе птушак, якія расклёўваюць здохлага собаку, гэта будуць: крумкачы, вароны, сарокі.

Што датычыцца папаўненьня навуковага і выставачнага аддзелаў, то галоўная маса матар'ялаў паступае ад спэцыяльных экспэдыцый,

якія накіроўваюцца ў розныя акругі Беларусі. Улетку гэтага году, як сталыя, так і часовыя працаўнікі Музэю вывучалі розныя аддзелы фаўны і зьбіралі матар'ялы ў Менскай, Гомельскай і Мазырскай акругах. З прычыны абмежаванасьці сродкаў на экспэдыцыі, Зоолёгічны Музэй ня меў магчымасьці організаваць вялікіх экспэдыцыйных груп, а абмяжоўваўся накіраваньнем асобных працаўнікоў на невялікі час у вышэйпаказаныя акругі; такіх працаўнікоў было 6, і толькі недалёка ад Менску ў вёсцы Падгай амаль што ўсё лета вялося вывучэньне фаўны дробных сысуноў і шасьціножак.

Некаторая частка матар'ялаў набываецца ў розных адпаведных установах ці ў прыватных асоб; так у мінулым годзе было набыта шмат скур нашых футровых зьвяроў (саюз Паляўнічых, Белдзяржгандаль), і ў прыватнай асобы колекцыя матылёў у 500 экзэмпляраў. Паступалі таксама матар'ялы і ў выглядзе падарункаў, як ад першых, так і ад другіх.

Што датычыцца зацікаўленасьці Музэем насельніцтва, то, ня гледзячы на нязначны час (43 дні), калі быў адчынены выставачны аддзел для экскурсантаў, яго наведала 4936 чалавек. Галоўную масу экскурсантаў далі менскія школы, апроч таго былі экскурсіі з ваколічных вёсак і іншых гарадоў Беларусі.

---

**А. М. Мікалаеў.**

# Гомельскі Дзяржаўны Культурна-гістарычны Музэй.

Гомельскі музэй адзін з тых сваеасаблівых музэяў СССР, якія шчыльна зьвязаны і з гістарычным мінулым дарэволюцыйнай Беларусі, калі далучэньне яе да Расійскай імпэрыі патрабавала стварэньня ў окупаваным краі буйных васалітэтаў, верных слуг імпэрыі ў супроцьвагу польска-літоўска-беларускаму магнацтву.

Музэй зьяўляецца вельмі каштоўным ня толькі самымі колекцыямі, але сваім „комплексным" характарам, які малюе пэўную эпоху канца XVIII і першай паловы XIX ст.; у прыватнасьці музэй вельмі характэрна адбівае эпоху Мікалая I.

Кожная рэч у гэтым музэі дае ўяўленьне аб раскошы, як выніку экономічнага дабрабыту пануючай клясы — абшарніцка-прамысловага шляхецтва, прадстаўнікамі якога ў Гомелі былі два роды: Румянцавых і Паскевічаў. Гэтая вытрыманасьць стылю адбіваецца ва ўсім, пачынаючы з архітэктуры і канчаючы кнігай, узятай на ўдачу з кнігасховаў музэю.

У пэрыод барацьбы з белапалякамі Гомель знаходзіўся ў бліжэйшай прыфрантовай паласе і гэта адбілася на цэльнасьці і паўнаце ілюстрацыі побыту, а вельмі малая экспонацыйная плошча прымушае музэй значную частку экспонатаў трымаць у консэрвацыі.

Асноўным фондам музэю зьявілася абсталяваньне б. палацу Паскевіча і колекцыі яго.

Музэй, як адзінае цэлае, можна разглядаць з такіх бакоў.

## Архітэктура.

Архітэктура б. палацу і ўнутранае абсталяваньне часткі яго, якую займае музэй, даюць узор архітэктуры пэрыоду захапленьня клясыцызмам, але ня ў чыстым яго выглядзе, а ў форме злучэньня адзнак францускай і польскай архітэктур. Гэта—архітэктура канца XVIII і пачатку XIX ст. Характэрныя асаблівасьці яе: франтоны, якія ляжаць на гладкіх або пакрытых каннэлюрамі колюмнах іонічнага і корынфскага ордэраў з іх характэрнымі капітэлямі, архітравамі, фрызамі і гзымсамі; портыкі і колюмнады, ротонды з бэльвэдэрамі. Унутранае аздабленьне мае такі самы характар: палавінныя пілястры і гзымсы ёсьць нібы падставы для купала падобных скляпеньняў ротонд і арак колюмны з архітравамі падпіраюць столь. Усе аздобы з гіпсу, сьцены абліцаваны гіпсам са шліфоўкай пад ружовы, белы ці зеленаваты мармур.

Гэты строгі стыль, стыль цэркваў і касьцёлаў, парушаецца лепнымі ўкрасамі столі і арак у характары дэкорацыйнага мастацтва Францыі паловы XVIII ст.

Гэты памёршы стыль зьяўляецца надмагільным помнікам клясавай моцы расійскага дваранства, якое дажыло да зэніту сваёй дыктатуры, ня лічылася з палітычнай і экономічнай кон'юнктурай і гінула пад пятой прамысловага капіталу.

Але ў гэты памёршы клясычны стыль унесена нэрвовая антысымэтрыя, ува ўнутранае аздабленьне—элемэнт дысгармоніі. У гэтай антысымэтрыі і дысгармоніі знайшоў свой адбітак мілітарызм пачатку XIX ст., які праявіўся ў пабудове вежы, што нагадвае крэпасны вэрк, і ў вайсковых арматурах, якія раскіданы па столі, сьценах і на камінах. Гэта вежа, якую спроектаваў у 1838 г. архітэктар Ідзікоўскі, са сваімі крэпаснымі зубцамі, парапэтам і крэпаснымі гарматамі зьяўляецца вельмі характэрнай пабудовай Мікаўлаеўскай эпохі. Такія вежы характэрны для пабудоў на Беларусі і Украіне ў XVIII ст. (палац Сабанскага на Падоліі і інш.). Намесьнік б. крулеўства Польскага ў часы „эўропейскага жандара“ Мікалая I быў па крыві польскім шляхціцам і выявіў сябе ў гэтай польскай архітэктуры і складаных, аляпавата зробленых гэрбах, якія пакрываюць крэпасную вежу.

Такой ёсьць архітэктура. Злучэньне клясыцызму, крэпаснога вэрку, лёгкай францускай плястыкі XVIII ст. і атрыбутаў рымскага цэзарызму. Гэтая архітэктура характарызуе палітычную і экономічную эпоху канца XVIII і першай паловы XIX ст.

## Фонды Музэю.

Асноўныя фонды Музэю складаюцца з такіх галін мастацтва 1) разьбярства, 2) маляваньня і графікі, 3) сылікатнага, 4) тэкстыльнага і 5) мозаікі.

I. Разьбярства ў Музэі прадстаўлена ўсімі відамі: гліптыкай, разьбой, літэйнай вытворчасьцю, лепкай і мэдальерным мастацтвам.

### 1. Скульптура.

Скульптура падае аўтэнтыкі і копіі прац канца XVIII і першай паловы XIX ст. і адлюстроўвае пэрыод захапленьня комбінацыямі рымска-элінскіх стыляй. Італьянцы Канова, Дэль-Нор і датчанін Торвальдсэн — прадстаўнікі элінізму, а працы невядомых скульптараў даюць прадстаўнікоў пэрыоду распаду Рымскай рэспублікі і рымскага цэза-

рызму. Расійскі цэзарызм пачатку XIX ст. знайшоў свой адбітак у працах, якія адлюстроўваюць б. імпэратараў Аляксандра I (Трасконі) і Мікалая I (Раух) у рымскіх тогах з вянкамі пераможцаў на галовах. Гэты трыумфальны цэзарызм, дапоўнены працамі францускага скульптара Крокка (Паскевіч) і італьянца Батаглія (Гарыбальды), дае яскравую характарыстыку эпохі першай паловы XIX ст.—эпохі дыктатуры расійскага цэзарызму і буржуазнага рэволюцыёнізму Зах. Эўропы.

2. Л і ц ь ц ё.

Ліцьцё з бронзы і медзі прадстаўлена 2 буйнымі працамі, характэрнымі для першай паловы XIX ст.: бронзавая статуя ў рост—працы акадэміка Дэмут-Маліноўскага (са статуі ў мармуры скульптара Кановы). Гэта статуя „Мір“ зьяўлялася надмагільным помнікам б. канцлера Румянцава. Другая праца—Паскевіч у адзеньні рымскага стратэга. У палітычнай сувязі з гэтымі працамі знаходзяцца іншыя дробныя працы, якія адбіваюць палітычных і вайсковых дзеячоў канца XVIII і пач. XIX ст.: Румянцаў-Задунайскі (бронза, майстар невядомы), Сувораў (бронза—праца італьянск. майстра Аэмуло), мініятура помніка І. Панятоўскаму (бронза з працы Торвальдсэна), Напалеон-консул (медзь—праца Кановы), Луі-Філіп (франц. праца) і інш. Да гэтага неабходна дадаць камінныя арматуры розных стыляй, якія характарызуюць густ буржуазіі і вымаганьні яе ад прыкладнога мастацтва. Сярод апошняга віду рэчаў ёсьць ручныя працы па бронзе (Рэпуссэ).

3. Л е п к а.

Фігурная лепка прадстаўлена працамі: з тэракоты (Вольтэр і Руссо—вельмі рэдкая праца невядомага майстра); з гіпсу—дзьве фігуры Мікалая I—праца майстра Каралёва, з воску—Аляксандр I хлапчуком (праца невядомага майстра); мадэліроўка з гіпсу для адліўкі бюсту Паскевіча. Пералічаныя працы складаюць агульны політычны і экономічны комплекс канца XVIII і пачатку XIX ст.

4. Р а з ь б а.

Гэты від мастацкай творчасьці падае працы па косьці, дрэве і камні.

Разьба па касьці дае ўзоры: а) фігурных прац на сюжэты грэцкай мітолёгіі, рэлігіі і культу, б) барэльефныя працы—нямецкія працы на памянёныя сюжэты і круглы барэльеф пэрсыцкай працы і в) ажурная праца з мамунтавай косьці (праца Архангельскіх саматужнікаў).

Разьба па дрэве экспонавана працай саматужнікаў „Гуляючыя эльфы“ (мотыў для фонтану) і працамі Валагодзкіх саматужнікаў „Хронус“ (XVIII ст.).

Асаблівай каштоўнасьцю сярод узораў гэтай працы зьяўляюцца тры рэчы барэльефнай працы: галава грамадзяніна—праца Маркі Бэйна (1579 г.) і нявысьветленых майстроў: „Стары, які выцягвае стрэмку“ і „Амур, які карае старую кокэтку“. Да гэтай колекцыі можна далучыць працы па дрэве рэлігійнага культу; апошнія зьяўляюцца адарванымі ад комплекту пералічаных прац і толькі разьба, як орнамэнт мэблі, добра адлюстроўвае эпоху.

Да гэтага аддзелу належыць і точка камню—працы уральскіх заводаў (вазы-кандэлябры (шэры мармур) і малахітавыя вазы).

Праца орнамэнтнай разьбы па камні (агату) дае ўзор пэрсыцкатурэцкай працы ў фонтаннай абліцоўцы XVI ст. Гэты від працы ўваходзіць у агульны комплекс, які характарызуе эпоху закаўкаскіх войн канца XVIII і пачатку XIX ст.

5. Гліптыка і мэдальернае мастацтва.

Гэты від мастацкай працы прадстаўлены ў музэі такімі відамі: 1) разьбой па камні (оніксу, агату, яшме і вульканізаваным шлаку) у форме гэмаў-камэй на 2-х шкатулках; мотывамі зьяўляюцца палітычныя тэмы (сьмерць Юлія Цэзара і трыумфальная калясьніца) і тэ-



Цэнтральная частка дварца з боку ракі Сож.

мы з элінскага і романскага жыцьця; 2) мэдалямі з выпуклым і глыбокім барэльефам эпохі войн першай паловы XIX ст. і 3) монэтамі розных эпох і дзяржаў. Першыя два віды гармонічны з эпохай, апошнія—аматарская колекцыя, яшчэ не распрацаваная.

## Інкрустацыя і мозаіка.

Інкрустацыйная праца ў Музэі мае добрыя ўзоры—рускія (інкрустацыя дрэвам), францускія (дрэвам і фарфорам), нямецкія (косьцю), польскія (бронзай і волавам), італьлянскія (пэрлямутрам), пэрсыцкія

(сланёвай косьцю, медзьзю, срэбрам) і турэцкія (пэрлямутрам з золатам). Усе гэтыя рэчы, за выключэньнем некаторых, адносяцца да XVIII і першай паловы XIX ст. Некаторыя з гэтых рэчаў былі экспонатамі прамысловых выставак першай паловы XIX ст.

Мозаічныя працы прадстаўлены мазаікай мармурам розных колераў, яшмай і малахітам, а таксама працамі „Смальтай“ (каляровым шклом). Мозаіка мармурам, яшмай і малахітам прадстаўлена сталешніцамі розных форм і велічынь і дае ўзоры вытворчасьці Уральскіх горных заводаў 1830—1840 г. г. Праца „смальтай“ дае ўзоры італьлянскага мастацтва (праца папскіх майстэрань) і расійскага портрэтнага, адносячы сюды і мозаіку прадметаў рэлігійнага культу (праца канца XIX ст.).

**Кераміка.**

У музэі ёсьць двох відаў кераміка. Першы від—парцэляна (фарфор)—невялікая колекцыя розных краін (пераважна Саксонскі) і марак, пачынаючы з XVIII ст. і больш раньніх кітайскіх і японскіх узораў.

Расійская парцэляна экспанавана вырабамі б. Імпэратарскага фарфаравага заводу—вялікімі вазамі і дробнымі рэчамі (талеркі, фігуркі Говарда).

Асабліваю ўвагу заслугоўвае сэрыя вялікіх ваз з копіямі малюнкаў флямандцаў, голяндцаў і расійскіх баталістых, размаляваных мастакамі Карнілавым, Мешчараковым, Сталетавым, Фраловым. На гэтых экспонатах вытворчасьці памянёнага заводу 1830—40 г.г. яскрава адлюстравана эпоха салдафонства, прадстаўніком якой быў Мікалай I.

Гэтыя адзінаццаць залочаных ваз і дзьве такія самыя з Бэрлінскага каралеўскага заводу, з малюнкамі эпізодаў вайны 1813 г., вельмі добра ілюструюць першую палову XIX ст.

Другая група керамікі мае ўзоры фаянсу, майолік і тэракот, а таксама орнамэнтаваную кахлю.

**Сылікатныя вырабы.**

Сылікаты экспанаваны вырабамі б. імпэратарскага шклянога заводу 1830—40 г.г. з белага, каляровага, празрыстага і непразрыстага шкла; з ліку гэтых экспонатаў трэба адзначыць 2 пары кандэлябраў, апраўленых залочанай бронзай: гранатавага шкла (стыль расійскага бароко) і празрыстага (стыль Луі XVI)—падарункі Мікалая I свайму „другу Івану“ і невялікую колекцыю шкла розных марак заводаў канца XVIII і пачатку XIX ст.

**Тэкстыльныя вырабы.**

Гэтая вытворчасьць экспанавана ў музэі двума відамі вырабаў: ручныя і машынныя тканіны; першы від мае ўзоры Флямандзкай, Францускай, Японскай і Турэцкай працы (шоўк і воўна), а другі—расійскія працы (штоф, парча, кашамір) першай паловы XIX ст.

Да гэтай групы экспонатаў можна аднесьці ручныя вышыўкі па канве і гладзьдзю, прычым з апошніх прац неабходна падкрэсьліць вышыўку гладзьдзю па палатне трох малюнкаў рэлігійнага культу (праца канца XVII ст.).

**Маляўніцтва.**

1. На сьценах і пляфонах.

Гэты від маляўнічага мастацтва зусім адсутнічае ў музэі, калі ня лічыць размалёўку купала ратонднай залі разэткамі—паўтарэньне мотыву скульптурных аздабленьняў арак гэтай залі.

Узор сьцяннога і пляфоннага маляваньня навейшага часу—канца XIX ст.—знаходзіцца па-за сьценамі музэю: гэта размалёўка ўнутраных сьцен капліцы над склепам арабэскамі па залатым фоне.

## 2. Станковае маляўніцтва.

Гэты від маляўніцтва мае ўзоры прац: 1) алеем па дрэве, палатне, медзі, парцэляне і сваім зьместам у большасьці адносіцца да батальён-



нага ці вайскова-бытавога (ахапляе сабою эпоху закаўкаскіх войн 1828-29 г. і прыдушэньня нацыянальна рэволюцыйнага руху 1830 і 1848 г.г.) альбо портрэтнага (фамільнага і гістарычнага) маляўніцтва. Гэтыя малюнкі і портрэты зьяўляюцца выдатнай ілюстрацыяй да эпохі канца XVIII і першай паловы XIX ст. Батальнае маляўніцтва дае па-

няцьце аб так званым „акадэмічным батальным маляўніцтве“ да-Верашчагінскага пэрыоду трактовак вайны, а портрэтнае—дэмонструе гісторыю гэтага роду маляўніцтва болей чым за два стагодзьдзі, г. зн. пераход ад прац чужаземных мастакоў да портрэтыстаў Расійскай Акадэміі Мастацтваў.

Жанравае маляўніцтва экспонавана адным экзэмплярам, ня вельмі выдатным у агульным комплексе: „Прыём у магната“ (аўтэнтык); што датычыцца пэйзажнага, дык музэй мае невялікі лік гэтага віду маляўніцтва.

Нельга ня ўспомніць аб колекцыі ўзораў маляўніцтва італьянскіх, гішпанскіх і нідэрляндзкіх школ у копіях, напр.: Леонардо-да-Вінчы, Рафаэля, Тыцыяна, Фрагонара, Бушэ, Ватто. Гэтыя ўзоры ня могуць даць малюнку разьвіцьця маляўніцтва і зьяўляюцца толькі аздобай бяз унутранай гістарычнай сувязі між сабою. Наогул фонд узораў маляўніцтва нявыстарчальна дасьледваны і вымагае рэўстаўрацыйнай працы.

2) Маляўніцтва на паперы прадстаўлена акварэльнымі працамі акварэляванымі рысункамі (праца 1807 г. Пэтэрсэна) і гравюрамі (батальнага зьместу), якія ўваходзяць у агульны комплекс архітэктуры і політычных падзей канца XVIII і пачатку XIX ст. Іншыя працы адносяцца па сюжэту да пэйзажнага і жанравага маляўніцтва.

3) праца сухімі фарбамі (пастэль) па паперы, картоне, палатне экспонавана ў большасьці працамі расійскіх і чужаземных мастакоў. Асноўны фонд гэтых малюнкаў—эскізы Арлоўскага, якія ахапляюць пэрыод 1802—1827 г.

### 3. Портрэтнае і мініятурнае.

Колекцыя гэтага віду маляўніцтва складаецца з прац па сланёвай косьці, парцэляне, паперы пастэльлю і акварэльлю чужаземных мастакоў першай паловы XIX ст. Сярод гэтых прац ёсьць працы Бэллоні, Маршалкіевіча і інш.

### 4. Гравіравальнае мастацтва.

Невялікая колекцыя гэтых прац (гравюр і офортаў) зьмяшчае працы вядомых мастакоў, як чужаземцаў, так і расійскіх. Працы XVIII і пачатку XIX ст., частка іх мае сюжэтамі політычныя моманты эпохі першай француска́й рэволюцыі.

### Бібліотэка.

Бібліотэка адбівае ідэолёгію былых ўласьнікаў яе і характарызуе вольнадумства буйнага дваранства з аднаго боку і яго кар‘ерызм на падставе пакоры царызму—з другога боку. Бібліотэка зьмяшчае гісторыю ўсіх рэволюцый і рукапісныя экзэмпляры забароненых выданьняў і з гэтае прычыны вельмі характэрна для першай паловы XIX ст.

### Іншыя аддзелы музэю.

Гомельскі музэй мае невялікія аддзелы палеонтолёгіі і археолёгіі мясцовага краю і рэўруху на Гомельшчыне (окупацыя, стракапытаўшчына і балахоўшчына).

Выдавец—Інстытут Беларускае Культуры
Рэдактар—З. Бядуля.

Члены Рэдакцыі: М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.



# Зьмест „Нашага Краю“ за 1928 г.

## № 3 (сакавік).



### Матар'ялы з месц.



### Програмы, анкеты і інструкцыі.



### Хроніка.



### Бібліографія.



## № 4 (красавік).



### Матар'ялы з месц.



### Програмы, анкеты і інструкцыі.



### Хроніка.



### Бібліографія.



## № 5 (травень).

## № 10 (кастрычнік).

Пастанова ЦВК і СНК БССР аб рэорганізацыі Інбелкульту ў Беларускую Акадэмію Навук—3. Ад Цэнтральнага Бюро Краянаўства—5. Будова Асінаўскай электрастанцыі (паводле дакладаў тт. Карпа і Алейнікава на 3 сэсіі ЦВК БССР VIII скліканьня 19 верасьня 1928 г.)—6. С. К. Жураўскі—Асінторп і Асінбуд (кароткі геаграфічны нарыс)—10. М. Касьяровіч—Там, дзе тварыў Каганец—14. Ів. Сяржанін.—З веснавых нагляданьняў над птушкамі—26. Н. Е. Кавалёў—Маргель і іншыя карысныя выкапні—28.

### Матар'ялы з месц.

В. Самацэвіч і П. Стрыгуцкі—Прамысловыя прадпрыемствы Барысаўскага Гарадзкога Комбінату—36. І. Г. Мірскі.—Матар'ялы да вывучэньня рабочага і сялянскага руху ў Магілеўшчыне ў пэрыод 1903—1910 году—49. Язэп Мазуркевіч.—Віцебскае аддзяленьне Беларускага Дзяржаўнага Музэю—55.

### Хроніка.

Дзейнасьць ЦБК—59. Пляны працы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства на 1928—29 г.—60. Што атрымала ЦБК у ліпні, жніўні, верасьні і карстрычніку месяцах—61. Менская Акруга—62.

## № 11 (лістапад)

В. Самцэвіч.—Аб некаторых практычных задачах мясцовых краязнаўчых організацый у соцыялістычным будаўніцтве—3. В. Шавельскі.—Да пытаньня аб этнографічным складзе насельніцтва Невельшчыны—6. М. Дабратворскі—Нашы чмялі—21.

### Матар'ялы з месц.

У. Уладзіміраў.—Торпавае балота Белае і яго распрацоўка (Барысаўскі раён) —28. П. А. Самцэвіч.—Хрэсьбіны ў в. Унтальянка Барыс. раёну, Менскай акругі —34. А. Шашалевіч.—Па Гомельскай акрузе (краязнаўчыя нататкі)—43.

### Хроніка.

Усім краязнаўчым организацыям—51. Дзейнасьць ЦБК—51. Што атрымала ЦБК і рэд. час „Наш Край" у кастрычніку—лістападзе месяцах—53. Этнографічны вечар у БДУ—53. Дзейнасьць Гомельскага акруговага т-ва краязнаўства за 1927-28 г.—54. Праца некаторых краязнаўчых організацый у Гомельшчыне—56. Падарожніцкая справа Слуцкага т-ва краязнаўства за летні час 1928 г.—57. Аб выданьнях мясцовых краязнаўчых організацый—57. Кароткая справаздача аб замежнай камандыроўцы т. Касьяровіча М. І. у Фіншчыну—58. Да краязнаўчых організацый БССР—59.

### Бібліографія.

Матар'ялы да гісторыі друку ў г. Магілеве М. Ламака—60.

## № 12 (39) (сьнежань).

Маніфэст часовага работніча-сялянскага Савецкага Правіцельства Беларусі—3. У. Ігнатоўскі.—Ад Беларускай Тэрмінолёгічнай Камісіі да Беларускай Акадэміі Навук—6. М. Касьяровіч.—Беларуская навука к дзесяцігодзьдзю абвяшчэньня БССР—17. П. В. Трамповіч.—Вывучэньне прыродных вытворчых сіл Беларусі—27. Ал. Шлюбскі.—Трэці год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу—35. Мік. Байкоў.—Слоўнікавая праца на мясцох у БССР за тры гады (1925-1928)—47. А. Н. Ляўданскі—Краязнаўчыя організацыі і археолёгія—56. Р. Пяцэвіч, У. Мікіцінскі, П. Ажэўскі.—Краязнаўчы рух на Случчыне—62. М. Дабратворскі.—Год існаваньня Зоолёгічнага Музэю Інстытуту Беларускае Культуры—78. А. М. Мікалаеў.—Гомельскі Дзяржаўны Культурна-Гістарычны Музэй—82.



# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1929 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „Наш Край“

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы популярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, програмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

## У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. С. Аляксандраў, А. Аніхоўскі, К. Атраховіч, Н. Быва-еўскі, З. Бядуля, М. Бялуга, Проф. П. Бузук, Д. Васілеўскі, І. Віткоўскі, Проф. Васількоў, М. Грамыка, Г. Гарэцкі, М. Гарэцкі, А. Ганжын, Зьм. Даўгяла, В. Дружчыц, С. К. Жураўскі, М. Зьбіткоўскі, Проф. У. М. Ігнатоўскі, А. Казак, Я. Каранеўскі, Кіпель, М. Кіркевіч А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, Я. Кісьлякоў, М. Касьпяровіч, Купрэвіч, М. Ламака, В. Ластоўскі, Макарэўскі, Д-р Магілеўчык, Мацьвяёнак, У. Мікіцінскі, М. Мялешка, Натальлін, С. Нікіфаровіч, А. Нямцоў, Г. Парэчын, Проф. В. Пераход, Проф. У. Пічэта, Я. Ракаў, В. Самцэвіч, П. Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, Я. Траяноўскі, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. А. Фядзюшын, Е. Цехановіч, А. Шашалевіч, Ал. Шлюбскі, М. Шчакаціхін, Проф. Яцанткоўскі і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На год . . 4 р. — к. | На 3 м-цы 1 р. 25 к. |
| На паўгода 2 р. 25 к. | На 1 месяц — р. 50 к. |

Гадавым падпісчыкам выдаецца прэмія — „АСІПАВІЦКІ РАЁН“, выпуск II — узорнае краязнаўчае апісаньне сельсавету, мястэчка і вёскі. Кніжка патрэбная для працы кожнага краязнаўцы, настаўніка і політасьветпрацаўніка.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ў рэдакціі часопісу „Наш Край“ (Менск, Рэволюцыйная, № 21, Ц. Б. Краязнаўства), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.

„НАШ КРАЙ“ прадаецца: ў Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.

Выпісваць можна з Ц. Б. Краязнаўства поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1928 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў у 30% — за 10 руб.

Апрача гэтага ў ЦБК прадаюцца:

„Працы I Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
„Працы II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
Асіпавіцкі Раён — першы выпуск — 2 р.
Асіпавіцкі Раён — другі выпуск — 80 к.